


19 верасня 2002 года лідскі скульптар
**Рычард Груша**
ўганараваны дыпломам
Камісіі па справах ЮНЕСКА
**“За дзейнасць па ўшанаванню культурнай спадчыны Беларусі”**

*І вядома ад часу Еўкліда:*
*Недзе там у далёкім сусвеце*
*Нам маленькая зорачка Ліда*
*Праз парсекі бясконцыя свеціць*
*Станіслаў Суднік.*



# Ад лідскіх муроў

Літаратурна-мастацкі часопіс

**№ 6**

**Ліда**
**2002**



# У нумары:

*Ірына Багдановіч*

*Міхась Мельнік*

*Ян Чачот*

*Ганна Камінская*

*Вераніка Мікулка*

*Алесь Нічыпар*

*Дзінара Мазітава*

*Уладзімір Васько*


*Ад лідскіх муроў*

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1542** ад 11.11.2000 г.

***Заснавальнік і выдавец:*** Станіслаў Суднік

***Рэдактар:*** Станіслаў Суднік



***Адрас рэдакцыі:***
г. Ліда,
вул. Зарэчная,
д. 5, кв. 17.
тэл. 5-76-61
E-mail:
ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Наклад:*** 400 асобнікаў

***Падпісана да друку 10.10.2002 г.***

***Надрукавана на абсталяванні ГА "Ратуша"***

**Вокладка Міхася Бурачэўскага**





*Камусьці ў хаце*
*сядзець сцішмя*
*І сніць*
*савецкую паншчыну,*
*А мы ідзём*
*"па сваё імя",*
*На Высокі Сход,*
*па Бацькаўшчыну!*

## *Ірына Багдановіч*

## Вершы з кнігі "Сармацкі Альбом"

### Дзяды, 1996

Дзяды. Суцішлівая восень. Дождж імжыць.
На ўсе нябёсы Крыж у Курапатах.
І сосны параслі тут, як крыжы,
Над кожнаю душой невінаватай.
Увесь бунтоўны сціх тут "Маладняк",
Пайшлі нацыянальныя героі
Адсюль у несмяротны свой працяг
Ахвярамі духоўнай новай Троі.
Стакрот Айчыны здраджаны пасад,
Блазнюк каранаваны быў басотай,
Ізноў наперад вылез брудны кат
З сваёй бязроднай янычарскай ротай

Без Бога, без Айчыны ў галаве.
Але ёсць дух адроджаных сарматаў!
Забілі ўсіх – а нацыя жыве!
Жыве з-пад Крыжа ўзросшы ў Курапатах.
Таму Нябёсаў не запхнуць пад столь,
Якія б новыя тут ні пляліся міты,
Што блазан вечна будзе тут кароль...
О не! Вяртаюцца і Рагвалод, і Вітаўт.
Яны вяртаюцца – пад восень, на Дзяды.
Ідуць! Бо з намі іхнія харугвы.
Няхай вішчаць шакалы і краты –
Ён прыйдзе – наш непераможны Грунвальд!

## Беларусі на Дзень Незалежнасці 27 ліпеня 1996 года

Камусьці ў хаце сядзець сцішмя
І сніць савецкую паншчыну,
А мы ідзем “па сваё імя”,
На Высокі Сход, па Бацькаўшчыну!
Купалы дзеці, нам выпаў шлях
З лёхаў гадоў скамянелых
Узняць паходняй наш горды сцяг
Бела-чырвона-белы.
І толькі дзівішся, колькі разоў
Тут рэй вадзілі прыблуды:
Дзялілі межы, мянялі назоў,
Цвялілі пысы раз'юшаных псоў,
А ўрэшце канчалі, як Юды.
І толькі ты, Беларусь, была
Адвечнаю, чыстаю Княжнай.
Харугвы ў бітвы святыя вяла
Да вольнасці несярмяжнай.
І сёння, нашчадкі рыцараў тых,
Вось мы стаім прад табою –
Такім нам не проста ўжо даць пад дых,
І ўзяць наш крывёй гартаваны шыхт



Падступнасцю, быццам Трою!
Няхай вішчаць і свінні, і псы,
Злуюцца ў страху гіены,
Мы самі нашы збярэм каласы
І гмахаў збудуем сцены.
А гэты Дзень, Богам дадзены нам,
Як вольны ў палёце бусел.
Вястуе светлы і вечны Храм,
Які не разбурыць ні кат, ні хам, -
Адроджанай Беларусі.

* * *

На вуліцы змяркання змрок,
Жаданы госць мой не прыходзіць.
І блізкі снежань жаль наводзіць,
Што быў да волі толькі крок.
Але дзяржаўныя мужы
Дарма тапталіся на месцы,
Замест таго, каб годна змесці
З дзяржавы хлуд, але скажы,
Скажы, мой найсвятлейшы князь,
Калі пашле нам Бог спатканне?
Няўжо ў бясконцасці пераз
У гэтым "дзікім паляванні"
За славу нацыі змаганне
Каханнем не ўратуе нас
І не ўмацуе нас каханнем,
Скажы, мой найсвятлейшы князь?...
На вуліцы змяркання змрок,
Жаданы госць мой не прыходзіць.
І блізкі снежань жаль наводзіць,
Што быў да волі толькі крок.

* * *

Сёння таксама нам не сустрэцца, мой князю!
Кліча ізноў здратаваная наша Айчына.
Вечавы звон у душы заглушае паразу,
Дзіды шыхтуе і коні сядлае дружына.
Колькі ўжо часу світанак змалёваны вуглем.

Чэрнь захапіла пасад і кіруе краінай,
Коні Ўсяслава іржуць і закусваюць цуглі.
Прагны сусед ад здабычы п'янее ільвінай.
Сойм разваліўся, дзяржава ў паўкроку ад страты,
Здрадніцтва ў рангу вышэйшых дзяржаўных паводзін.
Дзе вы забылі свой гонар і славу, сарматы?
Стаць з вас героем Айчыны не варты ніводзін.
Не, не з такімі Айчыну вяртаюць з нябыту!
Выгляд сармацкі пасланцам дрыгвы не пасуе.
Коні гарцуюць, і порахам стрэльбы набіты.
Плошча, як поле, сцягамі ізноў каласуе.
Гэта вітанне ад нас Усяслава дружыне.
Вернем сармацкі пасад, хоць, відаць, не адразу.
Наша каханне – ў здабытай змаганнем Айчыне...
Сёння, на жаль, нам ізноў не сустрэцца, мой князю!

## Млын

Драўляны шэры млын з крылатымі рукамі,
Як рыцар велічны, адзін у чыстым полі
Стаіць дазорцаю, кіруючы вятрамі,
Спыняючы іх бег імклівы ў наваколлі.
Спыніліся і мы прад таямнічым зеўрам.
Як зернейкі, туды з цікаўнасцю ўпадаем.
А лесвіца наверх рыпіць кажнюткім нервам,
Штоярус нас цясней злучае з небакраем.
А навакол прастор, аж сціскае дыханне.
І ўсё гаворыць аб прыязнасці Гасподняй,
Як быццам хтосьці вам прызнаецца ў каханні
Не словамі зусім, а ўсмешкаю лагоднай.
І вам падасць руку на таямнічых сходах,
Калі здаецца ўніз дарога небяспечнай.
Раскутая душа ў сабе Гасподні подых
Адчуе і на міг даткнецца высі вечнай.
Такі дзівосны млын. Ён меле жыта думак.
І цудадзейна так усё перарабляе:
Сустрэчу – на пагляд, пагляд – на пацалунак...
Дазорцаю стаіць сам-насам з небакраем.



## Alda Patria

*В. А. Чамярыцкаму*

Там, дзе Свіцязь чароўна схавана ў вячыстай дуброве,
Дзе муры Наваградскія неба трымаюць яшчэ,
Дзе свой лёс Беларусь прамаўляла ў Адамавым слове,
І дзе дух наш ліцьвінскі з паветрам у душы цячэ.
Там, куды мы ў надзеі вандруем за страчаным раем,
Беларушчыны нашай шукальнікі ў вечнай журбе.
Летуценнай душой да сваіх каранёў прыпадаем
І табе аддаём свае сэрцы, наш Краю, табе!
Там, дзе мы ад трывог, ад сваёй мітусні паўсядзённай
Адыходзім далёка і чыстую ўяву снуём,
Што з нас кожны цяпер ці то вершнік са слаўнай Пагоні,
Ці яго пан Тадэвуш вось выйдзе й пакліча ў свой дом;
Там, у гэтым краі, ад якога дрыжэлі крыжакі,
Дзе вялікай дзяржавы навек гартаваліся ў бітвах муры,
Нараджаюцца там і цяпер не гіены, не псы-небаракі,
Толькі волаты, так! Беларускага духу зубры!
І таму нас, зубрыных, ніколі ніхто не прымусіць
Свой назоў памяняць у шаленстве чарговых віхур.
Летуценныя мы, дый нязломныя мы, беларусы,
Бо калыска нам Свіцязь, хросны бацька Наваградскі мур.

* * *

*Вялікаму духам пасце вялікі лёс*

Залатая шляхецкая вольнасць –
Дар нябёсаў над нашым краем!
Два стагоддзі, як згублена стольнасць,
Як блукаем за страчаным раем.
Пакаленнямі гінулі продкі,
Каб здзяйсняўся зарок няўмольна:
Каб нам марыўся "дым салодкі" –
Бэз Айчыны святой і вольнай,
Каб нам сніліся тыя ўцехі,
Што народы спрадвеку маюць.
Як мы сцерплі, што Край пасеклі,
Залілі атрутаю памяць?
Залатая шляхецкая вольнасць!
Што ж вы думалі, "паны-рада",
Зноў талдычачы нам пра "супольнасць",
Там, дзе назва дакладная – здрада?
Так Айчыну прыўлашчылі іншыя.

І сталіцу, й назовы суседзям
Раздалі і памяць панішчылі,
Цудам вось не сканалі ледзьве,
Забыўшыся ўсіх сваіх мітаў,
Апрача, што мы ад сярмягі, -
Атожылкі Рэч Паспалітай,
Сарматкай крыві і адвагі!
Тут не гнулі шляхецкія спіны,
Кожны рыцарам быў ад роду.
Мы – нашчадкі вялікай краіны,
Дзе заўсёды любілі свабоду.
І Айчына адбудуецца ў душах!
А там яе сцяць немагчыма
Ззяе на нашых кунтушах:
“Нацыя! Вольнасць! Айчына!
І Гісторыя зменіць ракурс,
Не па суседскім рэцэпце:
Magnam fortunam magmus
Etiam animus decet!

* * *

Адкуль такая ўладная журба,
Што пераможна стукаецца ў дзверы?
Кароль разбіты, кажа варажба,
І разышліся ўсе яго жаўнеры.
І каралеўства, кінутае ў вір
Дзяльбы, натоўпу і блазенства ўлады,
Пакінуў нават колішні кумір,
Што справу так і не давёў да ладу.
Але дарэмна марш па каралю
Хаўтурны гралі змучаныя сурмы.
Кароль жывы! І я яго люблю,
Хоць каралёў любіць занятак сумны.
Як на далоні ў іх дзяржавы лёс
Ляжыць прывабнай і адзінай цацкай,
І толькі зрэдку воляю нябёс
Заўжды чаканы і заўжды знянацку
К табе ці з явы, ці з магічных кроўз
Ён завітае постаццю сармацкай.
Але адкуль усё ж настрой такі?...
Не выпадае плакаць, лепш маліцца.
Кароль збірае зноў свае палкі!
І дай нам Бог цяпер не памыліцца.





***- Ведаеш, што мне бацька расказваў, - нарэшце парушыў ён цішыню. – Іншы раз гэтыя жывёліны, прадчуваючы канец, ідуць на самазабойства, каб не быць цяжарам самому сабе, калі настануць халады і давядзецца цераз сілу здабываць корм.***

*Міхась Мельнік*

# Радасць

## (Апавяданне –быль)

Ён з'явіўся нечакана. Выплыў з лесу, падобны на прывід, ахутаны празрыстым воблакам. Спыніўся, шумна ўцягнуў паветра і накіраваўся далей.

Нават Русаковіч, які ўсё жыццё правёў у гэтых мясцінах, рот раззявіў ад здзіўлення:

- Лось? На палігоне? Ды яшчэ ў час вайсковых вучэнняў, калі ўсюды людзей кішма кішыць?!

А я позірку не мог адвесці ад гэтага ляснога дзіва. Лось! Жывы лось! Ён быў стары і трухлявы, з палінялай скурай і злёгку прыпадаў на правую нагу. Бачыў я лася ўпершыню ў сваім жыцці, і ён здаваўся мне сапраўдным прыгажуном.

- Мусіць, яго прымусіў пакінуць лес наш дым, - меркаваў я.

- А чорт яго ведае, - адклікнуўся Русаковіч. – Добра, пайшлі; нам доўга трэба дабірацца.

Закінуўшы цяжкі мяшок на плечы, ён, крэкчучы, рушыў наперад.

Я з захапленнем назіраў за ласём. Русаковічу, пэўна, спакою не давала яго спакуслівая, цёплая пасцель і, павярнуўшыся, ён зласліва прабурчаў: "Ну, што там, прафесар? Лася ўбачыў? Ды за два гады ты на гэтага звера во як наглядзішся!- ён секануў сябе далонню па горле. – Абрыдне аж..."

Тым часам лось, абагнуўшы балоцістае возера, набліжаўся да абгарэлых пуняў. Я адчуў, як павольна на маёй галаве прыпадымаецца пілотка.

- Алесь, - прашаптаў я, - ён жа ідзе наміннае поле...

Здаецца, Русаковіч здагадаўся пра гэта без маёй дапамогі. Ён апусціў сваю ношу і, цярэбячы ў зубах травінку, з цікаўнасцю паглядваў услед ласю, які спакойна аддаляўся.

- Ведаеш, што мне бацька расказваў, - нарэшце парушыў ён цішыню. – Іншы раз гэтыя жывёліны, прадчуваючы канец, ідуць на самазабойства, каб не быць цяжарам самому сабе, калі настануць халады і давядзецца цераз сілу здабываць корм. Я думаю, гэта адзін з тых. Разумны, морда... Інстынкт яму падказвае, дзе трэба шукаць смерць.

- Няўжо нельга яго выратаваць? – спыніў я, уражаны Алесевымі словамі.

- Ужо не, - крыва ўсміхнуўся Русаковіч.

- Але хіба няма іншых прычын?! – ледзьве не плачучы, закрычаў я. – Можа быць, ён заблудзіўся. Можа, у іншае месца перабіраецца, а звер не ведае, што там міны?!

- Не ведае, то не ведае, - перадражніў Алесь. – Дык ідзі пакажы яму, дзе яны ляжаць.

Але калі я з рашучасцю зняў шынель і схапіўся рукамі за жэрдку, намерваючыся выскачыць з траншэі, Русаковіч сціснуў каўнер маёй гімнасцёркі і прыцягнуў да сябе так, што я адчуў на твары яго гарачае перарывістае дыханне. – Слухай, ты, - прашыпеў ён. – Гэты валацуга мо апошні тыдзень дажывае, а ты куды рыпаешся? Здарэнняў захацеў на сваю і маю галаву!

Мне падумалася, што Алесь проста– напроста баіцца. Ён старшы, і, калі што, усе шышкі пасыплюцца на яго. Аднак я разгарэўся не на жарты, і ніякая сіла не змагла б мяне ўтрымаць.



Груба адпіхнуўшы Русаковіча, я ўзляцеў на бруствер і, не чуючы пад сабою ног, паімчаўся па прасецы напераразэ ласю.

Можа чалавек хоць раз у жыцці парушыць закон... Я яшчэ не ведаў, як зраблю тое, што задумаў. Ясна было адно: я выратую яго хоць бы па той прычыне, што гэта быў першы ўбачаны мною не ва ўяўленні; а наяву жывы лось. Таму што так сумна страчваць мару, якую займеў усяго толькі пяць хвілін назад...

Выбегшы з лесу, я зразумеў, што спазніўся: стары лось здранцвеў у адным кроку ад вяровачкі, якая адмяжоўвала небяспечную зону. Што для такога гіганта вяровачка? Зробіць крок – і не заўважыць...

Стараючыся не напалохаць яго, я асцярожна прысеў і падпоўз да яго метраў на дзесяць. Дарэчы, гэта было залішне: лось не звяртаў на мяне ніякай увагі.

Побач ляжалі міны. Я выразна адрозніваў у траве бліскучыя правадкі. Дастаткова было пацягнуць адзін з іх – і тут пачаўся б такі феерверк, які і на свята рэдка ўбачыш. Лось стаяў па-ранейшаму нерухома, бы статуя, нахіліўшы лабастую галаву з шырокімі, амаль у далонь, рагамі, і, здавалася, пра штосьці разважаў. Ён дыхаў цяжка, і ноздры яго ўздуваліся шарамі:

- Лось, дурненькі, - паклікаў я яго. – Лось, ідзі сюды...

Ён нават не зварухнуўся з месца і толькі глянуў на мяне вялікімі разумнымі вачыма.

- Лосік. Ласёчак, ласёк, мілы мой, хадзем, - маліў я. – Ты ж вельмі харошы лось, ты самы лепшы з усіх ласёў. Плюнь на недарэчныя забабоны. Пайшлі, я правяду цябе.

Ды мае словы, відаць, ляцелі ў пустэчу. Праслухаўшы мой маналог, жывёла яшчэ раз упарта кіўнула галавой, быццам гаворачы: "Ішоў бы ты адсюль, чалавек, як раіў табе Алесь Русаковіч. І не перашкаджаў бы рабіць тое, што датычыць іншых. Кожнаму сваё..."

І я не вытрымаў. У рэшце рэшт не такое ўжо вялікае задавальненне – ляжаць на мінным полі. Міны, хоць і не баявыя, але застацца без рукі ці нагі – перспектыва таксама не з прыемных. Я падняўся, абабіў з каленяў пыл і пакрочыў у адваротным кірунку, уважліва абыходзячы агароджаныя вяроўкамі квадраты.

Я хутчэй адчуў, чым улавіў вухам ззаду сябе крокі... Азірнуўся – так і ёсць! Лось плёўся за мной, дакладна паўтараючы мой звілісты шлях.

Я спыніўся – лось таксама замёр, я пайшоў – і зноў пачуў за спіной нягучнае цоканне.

Так мы абмінулі страшны ўчастак, а затым лось накіраваўся да лесу.

Не ведаю, магчыма, у той дзень я сапраўды перашкодзіў здзейсніцца маленькай трагедыі, а можа нічога і не здарылася б. Але ў глыбіні душы я быў рады.

... Калі я вярнуўся ў палатку, усе спалі, як пшаніцу прадаўшы. У печцы пішчалі сырыя дровы. Адзін Іван Кучынскі, які не ўдзельнічаў у сённяшняй імітацыі на палігоне, пазяхаючы, чытаў кніжку. Заўважыўшы мяне, ён ажывіўся:

- Чуў, прафесар? Сёння на палігон лось наведаўся! Табе, гарадскому, не пашкодзіла б убачыць. Ты нават не ўяўляеш, што гэта за волат. Сапраўдны лясны цар, звер-асілак. Кажуць, адзін дзівак пагнаўся за ім на міннае поле. Ты не ведаеш, хто гэта быў?

Я паглядзеў на Алеся. Ён хроп, і твар яго быў вельмі сур'ёзны.






# Ян Чачот

*Не так жаль*
*мне замак,*
*Як шкада ваякаў,*
*Што агонь паглынуў,*
*Палены крыжакам.*

## XXV. СТАРЫЯ ТРОКІ[1]

Пад вячэрнім ясным небам
Цень сівога мніха
На валах задзірванелых
Моліць Бога ціха.

Не так колісь тут бывала
Пры князь - Гедзіміну,[2]
Як па ловах балявала
Княжая дружына.

Трубы трубяць, тураў рогі
Там пяюць і граюць,
Сарнаў смажаць і мядзведзяў,
Мёдам запіваюць.

Спадабалася надзвычай
Князю ў той мясціне,
Абнясе яе ён валам
І муры падыме.

А што звера поўна ў трокі[3]
Тут панабівалі,
Новы замак на тым месцы
Трокамі назвалі.

Нават з Кернава сталіцу
Перанеслі ў Трокі,
Вяллі бераг Гедзіміну
Добра ўпаў у вока.

Князь Кейстут
там княжыў потым,
Між азёрных водаў





Збудаваў ён новы замак[4]
На даўгія годы.

Сёння ордэн Бенедыкта[5]
Тут снуе аснову,
Мо за княжацкія душы
Хто замовіць слова.

*1. Старыя Трокі (каля 5 км ад Трокаў) вядомыя ад пачатку XIVст. Ужо князь Гедзімін выбудаваў там драўляную цвердзь і паводле літоўскіх гісторыкаў перанёс сюды сталіцу з Кернава. Пазней на гэтым месцы паўстаў замак мураваны. Рэальна і Кернаў, і Трокі ва ўся часы былі не больш, як баявыя, часовыя сталіцы ВКЛ у найбольш напружаныя перыяды барацьбы з крыжакамі. Сталая сталіца да пераезду ў Вільню знаходзілася ў Наваградку.*

*2. Гедзімін (каля 1275-1341) – Вялікі князь Літоўскі (1316-1341), заступіў на пасад пасля смерці свайго бацькі Вялікага князя Віценя. Заснавальнік Вільні – новай сталіцы ВКЛ, знакаміты правадыр вайны з крыжакамі, вызваліў ад мангола-татарскага ярма Украіну і Северскую Беларусь. Таленавіты палітык і дыплямат. Паводле Нарбута меў 7 дачок і 7 сыноў, з якіх найбольш слыннымі сталі Альгерд і Кейстут.*

*3. Слова "трокі", як і многія назвы гэтай зямлі, не мае дакладнага тлумачэння. Літоўцы спрабуюць тлумачыць гэтае слова ад літоўскага слова "trakas", якое абазначае парубку – месца, на якім часта будаваліся цвердзі і здамкі. Аўтар, выводзіць назву Трокі ад "трок" – торбаў пры сёдлах, што служылі для прытарочвання паляўнічых трафеяў: звяроў і птушак. Стрыйкоўскі гэтак жа тлумачыць гэтае слова.*

*Разам з тым уся праблема заключаецца ў тым, што гэтую і многія іншыя назвы трэба тлумачыць з дайнаўскай (яцвяжскай) мовы, якая, на жаль, практычна невядомая.*

*4. Гаворка тут пра мураваны замак, пабудаваны Кейстутам на выспе пасярод возера Гальвэ.*

*5. На пачатку ХУ ст. Вітаўт Вялікі пабудаваў у Старых Троках касцёл і кляштар для манахаў – бенедэктынцаў. Яны знаходзіліся ў Старых Троках да паловы XIX ст. ( У часы Я. Чачота да ордэна належала таксама тэрыторыя былога замка, ужо тады зруйнаванага).*

## XXXIV. БІРУТА[1] - ЖОНКА КЕЙСТУТА

Што за гара так высока[2]
Цэлых паўнеба закрыла,
Ах, то ж па жонцы Кейстута,
Нашай Біруце магіла.

Добрай пякноты дзяўчына,
З дзіўным задумным
абліччам,
Людзям зямная багіня



І вейдалотка пры Зьнічы.

У панадморнай Паланзе
Кветкі ў лугах субірала,
Свежа звітыя вяночкі
Ў Зьніч на ахвяру кідала.

Мела для беднага люду
Сэрца паўнюткім спагады,
Чыстай Біруты малітве
Кожны нямоглы быў рады.

Князь укахаўся ў дзяўчыну,
Што люд уздымаў
пад аблокі,
Клятвы парваў вейдалоткі,
Вывез гвалтоўна на Трокі.

Склікаў братоў і баяраў,
Гучнае зладзіў вяселле,
І з паўбагіняй каханай
Птушкай гады паляцелі.

Моцна яе ўсе любілі,
Славілі ўсюды, што сілы,
Берасце штурму пазбегла,[3]
Бо ў ім Біруta гасціла.

Годы ж калі дагарэлі,
Люд ёй насыпаў магілу
На тым пагорку, дзе колісь
Зьніч ахвяровы паліла.

Кожны і сёння на Жмудзі
Знае святую Біруту,
Знае, як маці Вітаўта,
Знае, як жонку Кейстута.

*1. Біруta (каля 1333-перад 1384) – дачка Жмудскага ўладара Відзіманта. Старыя кронікі апавядаюць, што яна была вейдалоткай у Паланзе. Каля 1349 г. выйшла замуж за Кейстута. З усіх дачок і сыноў, што нарадзіліся ад гэтага шлюбу, найвыбітнейшым быў Вітаўт Вялікі.*

*2. Гэта гара Біруты ў Паланзе, дзе паводле легендаў, апісаных у кроніках пахавана Біруta.*

*3. Не давяраючы Ягайлу і прадчуваючы небяспеку, у 1382 г. Кейстут выслаў сваю жонку Біруту ў Берасце Куяўскае, горад у Польшчы, у якім уладарыў яго зяць Генрык, князь Куяў і Мазоўша, муж дачкі Кейстута Рынгайлы.*

## XXXV. НОВЫЯ ТРОКІ [1]

Ноч пакрыла свет хусцінкай
Шэрай і зярністай,
Па азерцы плыў чавенчык
Па вадзіцы чыстай.

У чавёнку тры ліцьвіны [2]
Мірна размаўляюць,
Паглядаюць, як руіны
Воды адбіваюць.

Тыя замкі паўздымала
Доланя Кейстута,
Тут калісьці красавала
Кветкаю Біруta.

Матылькоў Вітаўт маленькі
Тут лавіў вясною,
Лук з тугою цэціваенькай
Рыхтаваў да бою.





Тут Кейстут меў адпачынак,
Як з вайны прыходзіў,
Тут да новых мужных чынаў
Думкамі даходзіў.

Як жа шмат тут успамінаў
Крыюць сном глыбокім
Занядбаныя руіны
Велічавых Трокаў.

Аплывай жа ты, азерца,
Ціхі той закутак,
Захавай у людскіх сэрцах
Памяць пра Кейстута.

*1. Новыя Трокі, ін. Трокі – горад заснаваны ў другой палове XIV ст. Кейстут пабудаваў там замак і перанёс туды сталіцу са Старых Трокаў.*

*2. Паводле высноваў, якія можна зрабіць з карэспандэнцыі філаматаў, гэты верш мае пэўныя аўтабіяграфічныя рысы. Вечарам 10 ліпеня 1823 г. А. Міцкевіч і Я. Чачот прыйшлі з Вільні пехатою ў Трокі, каб адведаць прэзідэнта філаматаў Я. Яжоўскага, які жыў у клештары трокскіх бенедэктынцаў. Утраіх ("тры ліцьвіны") плавалі на лодцы па трокскім возеры. Гэта былі апошнія шчаслівыя хвіліны, праведзеныя ў гурце блізкіх сяброў перад арыштамі.*

## XXXVII. ГАШТОЛЬД [1] ПЁТР І БУЧАЧКА, 1332 г., У ЧАСЫ АЛЬГЕРДА [2]

На Літве, што не здалела
Крыжацкая сіла,
Тое Бучачка сумела
З усмешкаю мілай.

Мужа-суджанца Гаштольда
Каханнем -- не мусам
З верай святою з'яднала
І Збаўцам Хрыстусам.

Ён францішканцаў да Вільні[3]
З Мазоўша паклікаў,
Там, дзе кляштар той на сёння,
Паставіў капліцу.[4]

Толькі, як з Вільні ад'ехаў,
Народ збунтавалі,
Волхвы распятых манахаў
У Віллю скідалі.

А на той горцы высокай,
Вілейка што ліжа,
Памяткай смертнай мукі
Паўсталі тры крыжы.[5]

Зноўку Гаштольд вёз манахаў
У косцел Пяскоўскі,[6]
Дзе і да сёння благаюць
Аб ласках нам Боскіх.

Покуль ад смертнай сляпоты
Люд вочы расшорыць,
Колькі ж сваіх дабрадзееў
Няўдзячны заморыць.



Слепні і тыя, што праўду
Праз гвалт пашыралі,
Веру ліцьвіны не з гвалтам --
З каханнем прымалі.

*1. Гаштольд – стараста Камянца Падольскага, пазней ваявода віленскі. Жыў у часы княжання Альгерда. Паходзіў з роду вяльможаў ВКЛ, быць можа, быў нашкадкам Гаштольда, апісанага ў вершы XXII. Высокага паходжання панна Бучачка, з польскага княжацкага роду, магла ўзяць шлюб толькі з хрысціянінам. Пры хрышчэнні Гаштольд атрымаў імя Пётр.*

*2. Гэта былі яшчэ часы Гедзіміна.*

*3. Каталіцкія манахі – францішканцы прыбылі на Літву ў канцы XIII ст. з Польшчы. З імем Гаштольда прынята звязваць першыя спробы хрысціянізацыі Літвы. Як сцвярджае кроніка Быхаўца, ён запрасіў з Польшчы 14 францішканцаў.*

*4. У першай палове XIУ ст. у Вільні пабудаваны ў гатычным стылі пабудовы кляштара Францішканцаў. Пазней яны былі знішчаны пажарам і рэканструяваныя. У XIX ст. там размяшкалася вязніца, у якой сядзеў і аўтар гэтых баладаў, за сваю дзейнасць у Таварыстве філаматаў.*

*5. У Вільні на гары, якая называлася Лысай або Крывой, як апавядаюць старыя кронікі, сем манахаў-францішканцаў прынялі пакутніцкую смерць ад рук ліцьвінаў, якіх яны прыбылі хрысціць. У памяць пра мукі манахаў там была пабудаваная каплічка, а пазней пастаўлены тры крыжы. Ад тога часу тую гару называюць Трохкрыжовай гарой.*

*6. Гаворка тут пра касцёл Найсвяцейшай дзевы Марыі, пабудаваны побач з кляштарам францішканцаў у першай палове 14 ст. Мейсца тое называлася "Пескі" ("Пяскі").*

## XXXVIII. ПРА ЗАЛОГУ Ў ПУЛЕНЕ[1] Ў ЧАСЫ АЛЬГЕРДА[2], 1336 г.

Смерць ад сораму знаснейша,
І за ганьбу мука мільша...
Гэтых правілаў найпершых
Для Пулена больш не пішуць.

Пры Альгердзе крыжаносцы
Замак Пулен аблягалі,
Маткі, дзеткі з наваколіц
У фартэцу пазбягалі.

Тысяч некалькі з залогай [3]
Адбіваюць штурм бясконцы,
Ды адбіцца ўсё ж не могуць,
Так крыжак іх сціснуў моцна.

Сцены, вежы ападаюць,
Пачынаюць рассыпацца,
Ад таранаў і гарматаў
І ад гвалту дзе схавацца?

Скарб літва да куч скідае
І распальвае кастрышчы,

Жонак, дзетак забівае,
І сябе ліцьвіны нішчаць.

Немцы рынулі ў праломы,
Дзе жывых не шмат засталі,
Палеглі і тыя ўмомант,
А багацці дагаралі.

Цвердзь пустою захапілі,
Зваявалі край пустэльны,
Бо ліцьвіны век лічылі
Лёс раба за грэх смяротэльны.

*1. Пры зліцці Нёмана і рэчкі Пунелы ёсць замкавая гара Пуня, якая тутэйшымі жыхарамі называецца Маргіра (Моргара), а ў літаратурных творах - Пулена. Стрыйкоўскі і Нарбут дасканала апісваюць цвердзь Пулену (Pullen, Pilonnen), абкружаную глыбокім ровам і тоўстай сцяною. Залогаю цвердзі кіраваў вельмі адважны князь Маргір. Ліцьвіны біліся з крыжакамі ў абарону свайго жыцця, сваіх жонак і дзяцей, у абарону сваіх багоў і ўсяго, што ім было дарагім і святым. Аднак, калі страцілі надзею на ацаленне, распалілі велізарнае вогішча і паўкідалі туды ўсё сваё дабро, а пазней самі сябе ўзаемна пазабівалі і спалілі. Нарбут лічыць, што гэты нязвыклы, смелы, геройскі чын варты пяра Гамера ці Тацыта.*

*2. Гэта былі яшчэ часы Гедзіміна.*

*3. Нарбут піша пра 4 тысячы абаронцаў замка, але агулам святы агонь узяў каля 12 тысяч ліцьвінаў.*

## XL. ПРА РАЗБУРЭННЕ КОЎНІ[1] МАГІСТРАМ ФОН КНІПРОДАМ У ЧАСЫ АЛЬГЕРДА,

### 1362 г.

Не так жаль мне замак,
Як шкада ваякаў,
Што агонь паглынуў,
Палены крыжакам.

Там, дзе Нёман Віллю
Туліць, абдымае,
Стала ў Коўні цвердзя
Грозная такая.

Быў там мужны Гурда,
Вейдад - князь малоды,
Як напаў на горад
Вінрых фон Кніпрода.

З сілай незлічонай
Войскаў і таранаў
Здабываў ён горад,
Сцены тоўк і брамы.

Толькі Войдат[2] з Гурдам[3]
Прыступ адбівалі,
Як крыжакаў новых
Гуфы падступалі.

Хоць Альгерд з Кейстутам
Падышлі ў падмогу
Супраць тое сілы
Не змаглі нічога.

Полымем крыжакі
Паляць праз праломы,



Паляць горад , замак,
Паляць людства ўдома.

Што ўцякаць хацела,
Меч крыжацкі пляжыць
Акрамя Вайдада
Ды з пачотам княжым.

Тысяч тры ліцьвінаў
Згінула ў пажары,
Князь Кейстут заплакаў,
А крыжак алтары [4]

Ўзнёс на папялішчы
І імшу адправіў,
Кроўю тых, што знішчыў,
Бога ў небе славіў.

Не так жаль мне замка,
Як шкада ваякаў,
Што агонь паглынуў,
Палены крыжакам.

*1. Стары замак у Коўні стаяў каля месца зліцця Нёмана і Віллі. Быў абкружаны вадою. Ад адной рэчкі да другой пракапаны глыбокі роў. Абаронныя муры былі збудаваныя з каменю. У 1362 г. крыжакі зруйнавалі замак з зямлёю.*

*2. Гурда – сын Гінвіла, князя гедройцкага, ваеначальнік, жыў у часы Альгерда. Стрыйкоўскі піша, што моцна перажываў ён страту рыцараў, якія ўмела баранячы замак згінулі ў полымі: "Не столькі замка шкада, як рыцараў, якіх паглынуў агонь..." Гэтая аповесць абапіраецца на адну з найстарэйшых беларускіх вайсковых песень. Яе словы: "Не так жаль мне замка..." аўтар скарыстаў, як эпіграф свайго верша.*

*3. Войдад – сын Кейстута. Падчас абароны замка Ковенскага разам з 36-цю баярамі трапіў у нямецкую няволю. Там быў ахрышчаны, атрымаў імя Андрэй і служыў пры двары Карла IV. Пазней кіраваў Полацкім княствам. Паводле Нарбута загінуў у бітве над Воркслай.*

*4. Нарбут апавядае, што замак Ковенскі быў разбураны ў Вялікую суботу, таму наступным ранкам на крушнях крыжакі пабудавалі алтар, пры якім біскуп адправіў імшу, і ўсе спявалі песні вялікодныя. Песні пачынаюцца словамі: "Хрыстос уваскрос!", а заканчваюцца звычайна страфой: "Можам жа ся весяліці. Kyrie eleison!"*

## XLI. ПАТЫРГ [1] КЕЙСТУТАВІЧ, 1363 г.

Крыжак Літву
два разы штогоду
Нападам грозным змардоўваў,
Усіх, хто рыцарам
стацца прагнуў,
На крушнях тут жа ўпасоўваў.

Калі ж прыйшоў сам
граф фон Ганаву, [2]
Яго ўпасоваць схацелі
ў Гародні

Пад збітых стогн,
на трупах паганскіх,
Каб замак быў ім паходняй.

Шатландцы едуць,
з імі ангельцы
І немцы велькай грамадай,
Не з апостальскай ласкаю
ў сэрцы,
А перш-наперш
з хціваю здрадай.

Ды толькі здаля вежы Гародні
Прабліснулі, здань іх зводзіць...
Там з хлебам - соллю,
з крыжам збавення
Пасольства з брамы выходзіць.

Па тварах сорам лёг,
па крыжацкіх,
А гневам госці ўскіпелі:
Навошта клікаць,
бы на паганцаў,
Як хрысціян біць хацелі.

Няслі ад Горадні нехта сорам,
А нехта гнеў і пагарду,
Так Патырг мудры,
замку староста
Збіў з немцаў пыху без гвалту.

І хоць жа Кейстут,
бацька Патырга
Меў з тога гумор
не найлепшы,
Ды Патырг тым
шмат болей дамогся,
Чым нават немцаў пасекшы.

*1. У апісваным акрэсе часу Горадня падлягала ўладзе Трокскага княства Кейстута, які кашталянам тамашняга замка прызначыў свайго сына Патырга, але пазней адабраў у яго права кіравання Горадняй. Нарбут выказвае здагадку, што за манёўр, апісаны ў гэтым творы.*

*2. Нарбут, спасылаючыся на Фохта, піша, што гэта меў быць граф фон Ганаў (Ганаў месца над Майнам) – Ульрых IУ.*

## XLII. БІТВА ПАД РУДАВАЙ[1] У ЧАСЫ АЛЬГЕРДА, 1370 г.

Князь Кейстут намарна слова
Не казаў ніколі:
"Буду ў вас у Прусах госцем
Па зімовым полі."

Зімка поле пабяліла,
Рэкі лёдам сцяла,
І Кейстут з Альгердам рушыў
З сілаю нямалай.

Моўчкі ўпаў пад Каралевец -
І ўжо пад Рудавай.
Там сцяліся з крыжакамі
Бітваю крывавай.

Не пашчасціла ліцьвінам,
Бітву ж бо прайгралі,[2]
Толькі тое суцяшае,
Слова што стрымалі.



Так бывае, што прыплаціць
Рыцар за размову,
Галавой наложыць -- толькі
Датрымае слова.

*1. Рудава – гістарычная воласць у Самбіі, 18 км на поўнач ад Каралеўца, цэнтр – Рудаўскі замак. Нарбут апавядае, што Кейстут з Альгердам пры падтрымцы Ягайлы і Вітаўта, рушылі з войскам у бок Рудавы. Бітва з крыжакамі разыгралася 18 лютага 1370 г. Абодва бакі панеслі вялікія страты.*

*2. Гістарычныя сродкі вельмі па-рознаму ацэньваўць вынікі гэтай бітвы. Нарбут сцвярджае, што ліцьвіны, калі не перамогу, то немалую карысць вынеслі з бітвы пад Рудавай, дзе выбілі шмат крыжацкіх ваеначальнікаў і ўзялі немалую здабычу.*

## XLIII. ВАЙШВІЛА[1] Ў ЧАСЫ АЛЬГЕРДА, 1370 г.

Віся, песня, над магілай,
Дзе бясстрашны лёг Вайшвіла.
На Літве што памяць мае,
Цень яго хай суцяшае.

Згінуў недзе над Тарнавай,[2]
З крыжакамі біўся жвава.
Як Кейстут адходзіў
з войскам,
Шындэкопфа[3] збіў ґеройскі.

Звёў са свету вераломцу,
Што крыві папіў бясконца
Ў Баярбургу і Пастове,
Там зляцелі ўсе галовы.

Меўся знішчыць шчэ Літавы,
Як вяртаўся з-пад Рудавы,
Ды страла з рукі Вайшвілы
Навылёт яго прабіла,

Каб грашыць ён больш не мог.
А злы дух каб хто сцярог,
Дух Вайшвілы будзе там жа,
Дзе нямчына ў землю ляжа.

Віся песня над магілай,
Дзе бясстрашны
лёг Вайшвіла.
На Літве што памяць мае,
Цень яго хай суцяшае.

*1. Вайшвіла – паводле Нарбута, таленавіты ліцьвінскі баяр, княжацкай крыві. Падчас вяртання войскаў Кейстута з-пад Рудавы над рэчкай Тарнавай Вайшвіла забіў крыжацкага ваеначальніка, але сам таксама загінуў смерцю мужных.*

*2. Тарнава – вёска і рэчка з той самай назвай, непадалёк ад Рудавы.*

*3. Фон Схіндэкопф – вялікі маршалак пруські, ваеначальнік войскаў крыжацкіх, загінуў у бітве пад Рудавай.*





## XLVIII. ДАВОЙНА[1] Ў ЧАСЫ ЯГАЙЛЫ, 1384 г.

На Яснай горцы,[2]
дзе ўвесь люд з пакорай
Прад Маці Божай
чола хіліць ніжай,
Забраў Давойна
па-за ўсім заборам
Акуты золатам
драўляны крыжык.

Вязе да Вільні з дарагім палонам,
Ідзе пры ім і прыгажуня бранка,
З слязьмі замешваючы
пот салёны,
Была адной дачушкаю
Габданка.[3]

Ды дзіва вось,
як хто кранаўся воза,
Яму адразу мову адымала,
Жахнула ўсіх нязнаная пагроза,
Аж задзівіўся тому сам Ягайла.

Габданка-панна
мовіла да князя:
"У сне мне аб'явіўся ангел Божы,
Бог будзе помсціць
за крыжа знявагу,
Пакуль назад яго
хто не паложыць."

Давойна крыж адвёз той
разам з бранкай,
І князя волю
выканаў ён тонка;
Хрысціўся там
і мілую Габданку
Назад ужо прывёз,
як жонку.

*1. Стрыйкоўскі піша, што ў 1384 г. Ягайла са сваім войскам дасягнуў аж да Вісліцы (9 міль ад Кракава). Адзін з удзельнікаў набегу ліцьвін Давойна забраў з тамтэйшага касцёла на Лысай гары рэліквію Св. Крыжа, апраўленую ў золата і схаваў яе сярод іншай сваёй здабычы. На возе вёз таксама прыгожую паланянку Габданку.*

*2. Аўтар называе тую гару Яснай, а не Лысай.*

*3. Дачка слынных польскіх вяльможаў Габданкаў. Гістарычныя крыніцы не падаюць яе імя. Стрыйкоўскі таксама ўспамінае толькі яе шляхецкае (княжацкі род) прозвішча.*

## LI. ХРЫШЧЭННЕ[1] ЛІТВЫ ЯГАЙЛАМ, 1387 г.

Не шкадуйце
ў грознай помсце
Звычай свой, ліцьвіны,
Вера тая справядліва,
Што братамі чыніць,

Што любіць гаворыць Бога
З сэрца паўнатою,



Як сябе, так і чужога,
Мерацъ меркай тою.

Не глядзіце на крыжакаў,
Што хрысцілі мечам,
Воўчу пашчу мы не крыем
Шкураю авечай.

Ёсць любоў цяжкой навукай,
Кожны знае гэта,
Можа сёння пыха, хцівасць
Вынішчыць паўсвету.

Ды шчаслівы век той будзе,
Бо Хрыстуса вера
Шле любоў у сэрцы людзям,
Ёй учынкі мерацъ.

-- Так, ліцьвіны,
пушчаў дзеці,
Будзьце хрысціяне!
-- Будзем! Бо сказаў Ягайла,
Богам ён абраны.

Хрысцяць іх, а сам Ягайла
Веры навучае.
Глянь, Ядвіся, як каханне
Бог тваё прымае.

*1. Як піша Стрыйкоўскі, у 1387 г. Ягайла з маладзенькай каралевай Ядвігай, а таксама з польскімі ксяндзамі і біскупамі пачалі хрысціць ліцьвінаў у Вільні і на іншых землях ВКЛ. Ягайла асабіста на роднай (беларускай) мове навучаў праўдам веры. З Польшчы прывезлі велізарныя сувоі белага сукна і давалі па кавалку кожнаму, хто прыняў хрышчэнне. Не адзін, не так для хрышчэння, як для сукна таго, ішоў да Ягайлы, які хрысціў усіх грамадамі, надаючы адной грамадзе імяВаўжынца, другой – Пятруля, трэцяй – Януля. Грамады жанчын былі ахрышчаны імёнамі: Кацярыны, Ядвігі або Ганны. Хрышчэнне прыняло адначасова каля 30000 ліцьвінаў.*

## LII. ДАЎМОНТ [1] ГУРДАВІЧ, КНЯЗЬ ГЕДРОЙЦКІ, 1392 г.

Ой, Даўмонце, ты, Даўмонце,
Валадар гедройцкі,[2]
Мы твае згадаем беды
І твае геройствы.

Ты крыжакаў спраўна нішчыў
Пад Кейстута воляй,
І загоны з-над Сасаркі [3]
Часта бралі поле.

А калі крыжак наехаў
Раз на Відзінішкі,[4]
То палеглі штабялямі
Ордэнскія мнішкі.[5]

Поле бітвы "Касцянева"[6]
Стала называцца,
Дзе пыхлівыя крыжакі
Муселі застацца.

Толькі вось перад Вітаўтам
Не схацеў схіляцца,

З Завілейскаю Літвою
Вырашыў яднацца.

“Што ж Даўмонт
нас пазбягае?”--
Дворню князь пытае.
“Мае мёду з рускіх весяў,[7]
Нас не запрашае.”

Князь Вітаўт цябе прынізіў
Воласці забраўшы,
А ты, кажуць, кол схапіў быў
Ганьбы не стрываўшы.

Бег адзін на Касцянева
І забіў на грудзе:
“Покуль, кол, табе тут гнісці,
Край мой краем будзе!”

Меў сказаць, што нават Вітаўт
Стаў тут не на векі,
Ды з-за цяжкіх гэтых стратаў
Смерць звяла павекі.

О, Даўмонце, ты, Даўмонце,
Валадар гедройцкі,
Мы твае згадаем беды
І твае геройствы.

*1. Даўмонт – сын Гурды, унук Гінвіла, выбітны ваеначальнік у бітвах з крыжакамі. У часы Вітаўта валадарыў у Гедройцях. Памёр маладым, пакінуўшы двух сыноў Войцэха і Пятра.*

*2. Гедройты, Гедройцы ляжаць на заходнім беразе возера Кемант пры дарозе Вільня-Утэна. Згадкі пра іх – ад 1375 г. Іх назва паходзіць ад імя заснавальніка горада – Гедра. Былы цэнтр гістарычнага ўдзельнага княства.*

*3. Сасарка – цвердзь над ракой Сасарка (левы прыток Святой). Адтуль Даўмонт частымі нападамі турбаваў крыжакоў, што плылі па Святой.*

*4. Відзінішкі – мяйсцовасць на захад ад Малеты, першая згадка пра яе ў 1373 г. Належала да Гедройц.*

*5. У іншым варыянце рукапісу аўтар называе крыжакоў паўмніхамі, г.зн. несапраўднымі манахамі.*

*6. Касцянева – па-літоўску Kaulai, у Стрыйкоўскага і аўтара – Kaulis – (pole). Ад літоўскага слова KAULAS – костка – мясцовасць непадалёк ад Відзінішак. Названа так з-за мноства касцей, якія знайходзілі людзі на гэтым полі.*

*7. Паводле словаў Стрыйкоўскага прыхлябаі, якіх ніколі не бракавала на княжацкіх дварах, увялі ў вушы Вітаўту, што Даўмонт мае шмат мёду з рускіх (беларускіх) воласцяў, частуе ім усю Літву Завілейскую і вядзе сепаратныя гутаркі супраць Вітаўта. З гэтай нагоды Вітаўт адабраў Даўмонтавыя воласці.*

## LIII. ПРА ГЕТМАНА АЛЬГЕРДА[1] Ў ЧАСЫ ВІТАЎТА, 1396 г.

-- Дзе ж вы, ліцьвіны, хадзілі?
-- Дык жа ў Смаленску [2]
з Вітаўтам,



Глеб[3] не спяшаўся з падаткам,
З княства яго мы злажылі.

З гетманам потым Альгердам
Мелі патанчыць над Донам
Танец з ардою шалёны
Ў полі шырокім нязведным.

Тры там царэвічы леглі:
Крыму, Кіркелу, Майкопу.[4]
З гетманам спраўна дадому
Ў горад Смаленск мы прыбеглі.

З гонарам Вітаўт вітае,
Цэніць здабычу і бранцаў,
Так па-над Донам мы танцы
Танчылі ў гонар для краю.

*1. Альгерд – ліцьвінскі вяльможа, ваеначальнік у часы княжання Вітаўта.*

*2. Смаленск – сталіца княства надднярпроўскіх крывічоў. Першы ўспамін пра яго ў 863 г. Ліцьвінскія князі спрабавалі ўмацавацца на гэтых землях ад пачатку XIII ст. У 1395 г. Вітаўт Вялікі абвясціў Смаленскае княства правінцыяй Літвы. Ад таго часу да 1667 г. з пэўнымі перапынкамі Смаленшчына палежала да ВКЛ.*

*3. Г. зн. Вітаўт Вялікі.*

*4. Глеб – сын смаленскага князя Святаслава. Узбунтаваўся супраць Вітаўта, за што быў пазбаўлены ўлады ў Смаленскім княстве. Вітаўт аддаў яму толькі Палону і некалькі невялікіх воласцяў.*

*5. Кіркел, Крым і Майкоп – тры ханствы, якімі кіравалі тры браты. Усе яны загінулі над Донам у бітве з вайскам ВКЛ у 1396 г.*

## LIV. БІТВА НАД ВОРКСЛАЙ,[1] 1399 г.

Вунь стары ліцьвін ля хаты
Думку думае зацята.
Ля яго ягнятка скача,
А ён, бедны, ледзь не плача.

Узгадаў, як над ракою
Ворксладй, мутнаю, чужою
Пацярпеў Вітаўт паразу,
Дзе і ён тады быў разам.

О, Вітаўце, слава наша,
Хто цябе калі настрашыць?
Пра карону ты шчэ дбаеш,
Волас хоць зсівелы маеш.

Што ж казаць, як ты меў сілы,
Звон мячоў быў сэрцу мілы,
Ды вось моцна пацярпелі,
Як Эдыгу[2] біць хацелі.

Варажбы не слухаў дзіўнай,
Што тлумачыў
Ян з Пакрыўнай,[3]
Не паслухаў Спыткі[4] слова,
Гнеўны быў на хана мову.

Хан Эдыга ж так адмовіў,
Як Кутлуку ты прамовіў:





"Мне паддайся,
я старэйшы",[5]
Што ж тут гневацца, мілейшы.

Ды хапіла гневу, пыхі,
Лезлі ў бітву, як у ліха,
І за справу Тахтамыша[6]
Прападалі, быццам мышы.

Цяжка, цяжка нам прышлося,
Тысяч сто там засталося,
Што былі жывымі ўчора,
Кроў струменем, трупаў горы.[7]

Ледзьве ўцёк за ласку Бога,
Смеласць Спыткі, Астрарога...[8]
... Ой маліся, дзед, маліся,
Не давай улады пысе...

1. Бітва над Ворсклай (левы прыток Дняпра) адбылася 12 жніўня 1399 г. паміж войскамі ВКЛ і Залатой Арды. З аднаго боку войскам кіраваў Вітаўт Вялікі, з другога – хан Цімур Кутлук. Вітаўт прайграў тую бітву, аднак жа сваёй адвагай узбудзіў павагу нават у супраціўнікаў.

2. Эдыга – крымскі хан, разам з Цімурам Кутлукам кіраваў войскамі Залатой Арды.

3. Нарбут, абапіраючыся на лацінскія рукапісы, апавядае пра дзівака – пелігрыма, манаха Яна з Пакрыўнай, дасканалага паліглота, які перад бітвай над Ворсклай з'явіўся ў лагеры Вітаўта ў Кіеве. Гаварыў ён Вітаўту так: "Мушу збочыць аднак жа з дарогі, схіліцца ўправа, занадта ўлева не зайці каб не заплакаць, не страціць жыцця, не змяшаць парэшткаў маіх, я вялікі грэшнік, з парэшткамі выдатных баяроў тваіх. Суду Божаму незразумелая, будучыня жалобай пагражае" (T.V.S 614).

4. Спытка з Мэльштыка – польскі вяльможа, кракаўскі ваявода, паплечнік Вітаўта. Угаворваў Вітаўта ўхіліцца ад бітвы, радзячы яму мірныя перамовы з татарамі, калі Эдыга і Цімур схіліліся былі ісці на згоду. Ні яго, ні Яна з Пакрыўнай Вітаўт не паслухаў.

5. Стары Эдыга пераказаў Вітаўту: "Ты... маладзейшы за мяне, таму скарыся, будзь даннікам маім і на літоўскіх грашах выбівай імя маё" Вітаўт прыняў тыя словы за велізарную абразу і разпачаў бітву, хаця некалькі раней сам гаварыў падобнае да маладзейшага за сябе Кутлука: "Будзь маім сынам і даннікам, або выбірай стаць палоннікам"

6. Татарскі хан Тахтамыш быў выгнаны са свайго краю Тамерланам. Прыхіліўся да Вітаўта і разам са сваім войскам біўся супраць татараў, якіх тапіў, як, "рудых мышэй" Загінуў у 1408 г. у бітве з пераемнікам Кутлука Абусаідам.

7. Паводле словаў Нарбута, абодва берагі Ворсклы былі пакрыты трупамі, а руслам плыла людская кроў.

8. Астрарог – польскі вяльможа, паплечнік Вітаўта. Разам са Спыткам (глядзі LIV) дапамагаў Вітаўту пад заслонай ночы ўцячы з поля бітвы. Сам Спытка загінуў. За яго смерць доўга перажываў кароль Уладзіслаў.



## LV. СМЕРЦЬ ЯГАЙЛЫ, 31 траўня 1434 г.

У ляску пад Гарадком[1]
старэнькі
Спевы Ягайла ўчуў салавейкі.
Доўга, ах доўга
песню ён слухаў,
Ветрык халодны
на скроні дзьмухаў.

Дзьмухаў на скроні,
дрыжыкі ўзялі,
Да Гарадка яшчэ ногі трымалі,
А сеў за стол,
абнямог вяльможны,
І Бог гукнуў яго ў шлях апошні.

Хто салавейкі так любіць песні,
Што разліваюцца
вечарам вешнім,
Слухай, ды помні лёс каралеўскі,
Звязаны з песняю
той чарадзейскай.

Згадвай, дзе шлях свой
Ягайла скончыў,
Што дзве краіны
свае з'ядночыў...
... Меў ён чуллівасць,
дабротаў сілу,
І быў яму салавейка мілы.

*1. Паводле словаў Стрыйкоўскага, 83-гадовы Ягайла паехаў у Гарадок, што ляжаў за 4 мілі ад Львова. Там, слухаючы любімыя спевы салаўёў, прастудзіўся і неўзабаве памёр. А таму смерць Ягайлы звязваюць з гэтым горадам львоўскай акругі, які называюць таксама Гарадком Ягелонскім, над рэчкай Вярэшчыцай.*

***Пераклад і каментары Станіслава Судніка***

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ПЕРАКЛАДАЎ

*Такім чынам завершана публікацыя перакладаў на беларускую мову ўсіх 55 баладаў Яна Чачота. 24 балады ў перакладзе Кастуся Цвіркі надрукаваны ў серыі "Беларускі кнігазбор", 16 баладаў надрукаваны ў папярэднім нумары "Ад лідскіх муроў" і 15 баладаў прапанаваны да ўвагі чытачоў зараз.*

*На значную колькасць баладаў ужо напісана музыка, у тым ліку і на некалькі баладаў надрукаваных у папярэднім нумары нашага часопіса.*

*На сёння толькі ў Лідзе можна прачытаць усе 55 баладаў Яна Чачота на беларускай мове.*

***Станіслаў Суднік.***



# Ганна Камінская

*Хай кажа хтось*
*агіднае аб мове,*
*Аб тым, што лёс ёй –*
*ціха адміраць.*
*Пакуль стаяць*
*на першапачатку ў школе*
*Такія сейбіты,*
*нам будзе што пажаць.*

## Дзядулеў дом

Самотны, ціхі, кінуты,
Пакорны лёсу
Ў забыцці стаіць.
Старога ясеня
Над ім галлё раскінута,
Хавае позірк
Белых акяніц.

*

Жыцця былога
Адгалоскі-промні
Ля гэтых сцен,
Ля плоту, між кустоў.
Бабуля, дзед –
Яны са мной гамоняць
Лістотай бэзу,
Песняю вятроў.

*

Да гэтых сцен
Вяртае рэха памяці...
Праз сэрца, пэўна,
Сцежка пралягла...
Не змые дождж,
Не замуруюць заметі
Жывы агеньчык
Роднага цяпла.

## Клюкавічы

Няма ў Сусвеце
даражэй аблічча,
Чым сціплае і светлае тваё,
Як твар матулі мілай,
Клюкавічы.
Тут лёс пачаўся.
Сэрца тут маё!



Тут Маргамі лугі
колісь продкі празвалі,
А Цімошачкамі-
ускрай балот лес густы.
Стуль з адвечнай тугой
журавы адлятаюць,
Мае мроі на крылах
праносяць буслы.

Тут агеньчык блакітны
пралесачкі першай
У Масееўцы я
сустракала, як цуд.
Голас роднай зямлі
тут пачуўся мне вершам,
Вершам я гаварыць
навучылася тут.

Навучылася слухаць
я родную мову
Ў шапаценні лістоты
магутных дубоў,
Размаўляць са сняжынкамі,
кветкамі, голлем –
І навука мне гэта
за ўсё даражэй!

### *Матулі*

Не знайсці мне ніколі
Ні слова, ні песні,
Каб святую маю
Ўсхваліць і ўзнесці.

Дзе цана тым рукам,
Без якіх – не ўзляцела б,
Тым гаючым слязам,
Без якіх зачарсцвела б.

Тым малітвам і думкам,
Што ў цяжкіх дарогах
Захінаюць мяне
Ад ліхога і злога.

Самым чыстым вачам,
Без якіх свет змрачнее,
Што адны мне вяртаюць
І моц, і надзею.

Не знайсці мне і слоў,
Каб аддзякаваць лёсу
За цудоўны куток,
Дзе жыццё пачалося.

Там цяніцца над хатаю
Вольха з буслянкай,
Там мая залатая
Спускаецца з ганка.

### *Настаўніцы роднае мовы*

*Прысвячаецца*
*Уладзіславе Іванаўне*
*Санюк*

Старой драўлянай школы
жоўты човен
Тануў у квецень
майскую садоў.
Там бегла я
на ўрок па роднай мове,
А побач час няўлоўны
шпарка йшоў.

Праз плынь гадоў
Мне свеціць
сціплы вобраз,
Адкрыты, светлы,
шчыры бачу твар.
Настаўніцы
я кланяюся ў пояс,
Што нам нясла
натхнення дзіўны дар.

... Зноў бачу клас,
увагі ціхай поўны,
Распавядаеш ты
пра Бандароўну,
Пра прыгажосць
і годнасць чалавечую,
Пра лёс народа
і пра пакуту вечную...

Бягуць у сэрца
родных ніў палосы –
Чытаеш ты
пра жнеечку ў вянку.
Аж зіхаціць
дрыготкім срэбрам голас,
Нібы крынічка
ў Коласа "кутку"...

Хай кажа хтось
агіднае аб мове,
Аб тым, што лёс ёй –
ціха адміраць.
Пакуль стаяць
на першпачатку ў школе
Такія сейбіты,
нам будзе што пажаць.

## *Бусел*

Шукаў прытулку
Бусел па вясне:
На лес зірнуў
У ранішняй імгле,

Над срэбрам крыг
Праплыў над ручаём,
Над сажалкай застыў,
Як рыбалоў.

Узляцеў высока
І знайшоў маяк:
Магутны дуб
Яму махаў, нібы сваяк,

У свае абдымкі
Шчодра запрашаў.
На ім гняздо
Наш бусел збудаваў.

## *Шчасце*

Людское шчасце,
Пэўна, ты ў світаннях,
У птушыным гомане
І ў азёрным плёсе,
У растаннях доўгіх,
У радасці спатканняў,
У чалавечым,
У звычайным лёсе.



# Вераніка Мікулка

## Легенла

Я вельмі паважаю горад свой
Люблю мясціначку,
дзе мама калыхала
І трэба,
каб паміж табой і мной
Любоў спрадвечная
вякамі не згасала

Ідзём па горадзе
і бачым засень дрэў,
У цэнтры – помнік
першадрукару Скарыне,
У зялёным парку
розных птушак спеў
І замак, што ўзвялі
пры Гедзіміне.
Там рэчка працякае
гнуткай змейкай,
Што зараз называецца
Лідзейкай.
Была ў князя і любімая дачка
І зваў яе ён проста –Лідачка.
Князёўна спрытная
і лёгкая, як вецер,
Разумніца. Не ведала турбот
"Ты самая,
прыгожая на свеце!"-
Так гаварылі князь
і ўвесь народ.
Ішлі гады,
князёўна пакахала...
Ды не багатага,
а хлопца-пастушка,
На стрэчы з ім,
як птушка, вылятала,
Спатканні тыя
бачыла рака.
Сусед аднойчы
ў замак завітаў,
Стары, багаты,
у пошуках нявесты,
А бацька-князь
раптоўна згоду даў...
Князёўне ж было,
куды падзецца
Прасіла і маліла: "Тата мілы,
Не аддавай мяне старому,
Бо лепей я сайду ў магілу,
Чым сканаваць
жыццё палонам!"
Але князь-бацька
быў няўмольны,
Бо слова моцна
ўмеў трымаць,
Магчыма, усё
зрабіў бы па-другому,
Каб ведаў,
што так будзе гараваць.
Як тая птушка,
распрасцёршы крылы,
Не ў сілах пазабыць
сваю любоў.
У думках развітаўшыся
з любімым,
Дзяўчына з вежы
кінулася ў роў.
Забіты горам Гедзімін –
той князю,
Раку ля цвердзі даў загад
назваць Лідзеяй,
А з тых часоў
легенда засталася
Для смутку, слёз,
пакут, надзеі...







*- Багі часцей бываюць жорсткімі, чым добрымі ...*

*Алесь Нічыпар*

# Паўночная песня

Мора было спакойнае і ціхамірнае. Дыхала роўна, падстаўляючы пад цёплыя сонечныя промні свае зялёна-блакітныя, халодныя грудзі. Шапацелі хвалі, зіхацелі і ззялі ўсімі колерамі вясёлкі пад шчодрым сонечным святлом. Аднастайны, мірны іх шэпт парою парушалі таемныя, сумныя ўздыхі салёнага ветру. Адлюстроўваючыся ў іскрыстых водах, па цёмна-бірузоваму палогу нябёс, нетаропка і прывольна плылі нябесныя караблі – аблокі – караблі багоў. Плылі яны павольна і сонна, аддаючы справядлівую даніну прыгожаму надвор'ю – цудоўнаму летняму дню. І багі, размораныя цеплынёй, лагодна драмалі. Да іх не даляталі трывожныя крыкі чаек, і яны не чулі малітваў аб выратаванні, пасланых у абыякавыя нябёсы. Не бачылі багі, як доўгі, вузкі карабель з драпежнай драконавай пысай на штэўні, успеньваючы вострымі грудзямі ізумрудна-



блакітную ваду, наганяў шпаркаходную снеку*. А можа не жадалі заўважаць? Багі часта не маюць літасці. А тым больш, калі гэта суровыя багі Сівой Поўначы!

Сівавусы, пакрыты шнарамі сакс, стаяў на карме снекі і, учапіўшыся моцнымі вузлаватымі пальцамі ў борт, на чым свет стаіць, праклінаў ганебнае нарманскае племя. Стары, цалкам пасівелы ў паходах стырнавы, трымаючы правіла, павярнуў да правадыра насуплены, абветраны твар.

- Нам не пазбавіцца ад іх, Хенгіст. Вікінгі не выпусцяць з кіпцюроў сваю здабычу!

- Ведаю! – агрызнуўся важар, яшчэ мацней сціскаючы пальцамі - абцугамі бартавую дошку. – Але, бачыць Одын**, Хорса, калі б не бедная Мойра, мы ўжо даўным-даўно борт у борт рэзаліся б з імі!

Доўгая баявая страла, падрапаўшы апярэннем шурпатую шчаку старога сакса, задрыжала ў мачце. Хенгіст вылаяўся і надзеў на свае пасівелыя кучары кляпаны шалом. Чорны дракар*** быў ужо побач. Засвісталі смяротныя стрэлы, джалячы найбольш няспрытных. Поруч з правадыром, захрыпеўшы, хапаючыся за тронца, якое тырчала з шыі, асеў на палубу малады тан****. Хенгіст ужо выразна бачыў ворагаў. Распазнаваў палымяныя вочы на тварах вікінгаў, іх ускалмачаныя бароды, выскаленыя раты, і нянавісць барвовымі хвалямі лінула з патаемных закавулкаў яго душы, бязлітасна абпаліўшы сэрца. Але толькі сэрца. Розум воіна заставаўся халодным і ясным. Ён пазнаў гэты чорны карабель – “Крумкач” – дракар яго даўняга непрыяцеля Скегі, празванага Доўгім Мячом. Сам хёўдынг ***** знаходзіўся на носе “Крумкача”, каля размалёванай, умела выразанай з дрэва драконавай галавы. Стаяў ён роўна, і ўсмешка блукала на яго цвёрдых вуснах. Хенгіст уцягнуў ноздрамі трывогу і ўзбуджанасць,

---

** **Снека (шнэк)** – шпаркаходны марскі карабель.*

*** **Одын** – у германскіх плямёнаў Водэн (Ватан) - бог мудрасці. Галоўны бог у старажытных скандынаваў - бацька ўсіх багоў і людзей. Яго малявалі аднавокім старым у лямцавым капелюшы, сінім плашчы, з дзідай у руцэ. Часта Одына клікалі Аднавокім. За мудрасць ён аддаў адно вока вялікаму Міміру - ахоўніку крыніцы мудрасці.*

**** **Дракар** – ветразьна-вяслярная, баявая ладдзя у вікінгаў*

***** **Тан** – воін у дружыне англасаксаў.*

****** **Хёўдынг** – правадыр, кіраўнік у вікінгаў. Звычайна са знаці.*

разлітыя ў паветры і ўхмыльнуўся. Пахла бітвай. На снеку ляцелі абардажныя крукі. З глухім стукам упіваліся жалезныя драпежнікі ў борт. Саксы не кінуліся сячы іх. Пачуўся трэск дрэва, і караблі сутыкнуліся борт у борт, калышучыся на хвалях. З завываннем і рыкам натоўп вікінгаў абрушыўся на Хенгіставу снеку. Саксы мужна сустрэлі іх у сякеры.

- Белы дракон! – рыкнуў стары правадыр слаўны старадаўні баявы кліч свайго народа, апускаючы цяжкі меч на галаву аднаго з ворагаў. Яна развалілася разам з шаломам, запырскаўшы кальчугу старога крывёй.

І бітва закруціла, закружыла яго ў сваім шалёным віры. Меч калоў і рэзаў паўночных бадзяг – рабаўнікоў, нібы з'явуляўся працягам рукі, а нянавісць паліла сэрца сівога Хенгіста пякучым полымем. І тахкала, калацілася сэрца старога, нібы жадала выскачыць з грудзей. А меч лятаў, паслухмяны цвёрдай жылістай руцэ, лятаў, быццам маланка грамавіка Тора*.

Хенгіст паклаў ужо траіх і цяпер спрабаваў прабіцца да свайго старога злосніка. Славуты хёўдынг Скегі Доўгі Меч таксама заўважыў даўняга ворага. Усмешка мільганула на яго вуснах і схавалася ў доўгія агніста-рудыя вусы, але ж нядобра блiснулі сінія вочы хёўдынга пад каванымі надвоччамі крылатага шолама. Падняўшы доўгі меч з шырокім клінком, нібы зроблены самым Велундам** пад яго мядзведжую постаць, вікінг ірвануўся да Хенгіста. Два правадыры сышліся сярод залітай крывёю палубы снекі. Клінкі іх з ляскам скрыжаваліся, выкрасілі сноп халодных іскраў і зазіхацелі ў смяротным танцы. Магутны Скегі няспешна цясніў старога сакса. Нарман на галаву вышэйшы за ворага свайго, цяжкі і доўгі яго шырокі меч з ахоўнымі рунамі*** на бліскучым лязе, Дужа вялікая сіла ў руках яго, звярыная сіла! Але ж умудроны гадамі доўгімі, якія ў сечах лютых прайшлі, сівавусы сакс, вялікі воін – годны сын

---

** **Тор** – у старажытных скандынаваў бог грому і маланкі. У саксаў імя яго гучыць як Тунар, а ў кантынентальных германскіх плямёнаў - Донар.*

*** **Велунд** – міфічны каваль у скандынаваў. У сваёй справе не ведаў сабе роўных. Па загаду свейскага конунга Нідада быў схоплены і знявечаны. На нагах яму парэзалі жылы. Велунд жорстка адпомсціў конунгу Нідаду.*

**** **Руны** – скандынаўскія пісьмёны. Рунам надавалі магічнае значэнне.*



свайго народа. Вось у зручнае імгненне паднырнуў лясным катом Хенгіст пад клінок грознага вікінга і сакануў яго па рэбрах. Але не адну бітву ахоўваюць норны* храбрага хёўдынга. Назад адступіў, выгнуўся магутным гнуткім целам і аслабіў выт. Пырскнулі з-пад мяча Хенгіста срэбрам пасечаныя звёны моцнай кальчугі, выступіла гарачая кроў. Але вытрымалі косці, неглыбокая рана гэта! Такіх нават не адчуваюць вікінгі, не звяртаюць увагі сапраўдныя мужы! Адхінуўся нарман, зарагатаў у твар ворагу і вісу мовіў:

- Стары стаў.
Сакс Хенгіст
Карміць яму ў моры
Трупа зязюлю.**

Узляцеў яго меч і смяротнай маланкай бліснуў у паветры, падаючы на круглую тарчу, умела падстаўленую саксам. Абцягнутае скурай дубленай, па краі жалезам абабітае, не ўтрымала моцнае дрэва страшнага выту. Паляцелі навокал трэскі, развалілася тарча і здранцвела рука Хенгіста. Узмахнуў ммячом Скегі і зноў сакануў ворага наадмаш. Прыняў яго на свой клінок стары сакс. Заскрыгатала вышчарбленая сталь і, шырока ступіўшы наперад, вікінг выцяў яго сваёй шырачэзнай тарчай. У грудзі сакса ўрэзаўся ўмбон – жалезная баявая шышка. Вохкнуўшы, Хенгіст адляцеў на некалькі крокаў і цяжка зваліўся на палубу. Жалобна бразнуў аб дошкі яго верны меч.

- Слава Скегі! Удача з намі! – загаманілі нарманы.

Хенгіст прыпадняўся на аслабелых руках. З яго праламаных грудзей з шумам вырывалася паветра, горлам ішла кроў. Нарманы дабівалі адчайна змагаўшыхся саксаў. Рукі старога ўздрыгвалі. Забітых выкідвалі за борт. Каля яго ляжаў мёртвы Хорса. Побач з сівым стырнавым шырока раскінуў рукі юны Эдрык – апошні з пяці сыноў старога Хорсы. Яго прыгожы твар завастрыўся, патухлыя, памутнелыя вочы глядзелі ў ціхамірную бездань неба. Нарманская сякера страшна раскрыла яму грудзі. Калісьці, вось так, ляжаў яго Хенгістаў сын. На залітай крывёю палубе, якая калыхалася перад вачамі, сярод мёртвых целаў,

---

** **Норны** – багіні лёсу. Тры сястры: Урд, Вярдандзі і Скульд - цяперашняе, мінулае і будучае.*

*** **Зязюля трупа** – назва крумкача ў паэзіі скальдаў- скандынаўскіх паэтаў воінаў. Марская зязюля трупа - акула. Такім чынам: карміць яму ў моры трупа зязюлю, значыць - карміць акулу.*

забітых рукою вікінга. Памяць балюча сціснула сэрца старога, але вочы так і засталіся сухімі, бо яшчэ ніколі слёзы не туманілі позірк мужнага сакса. Цяпер разам з ім адыходзіў у невараць калісьці славуты і магутны саксонскі род. Адна за адной паўсталі перад вачамі яго постаці знакамітых праш-чураў, якія шмат стагоддзяў таму агнём і зброяй заклалі на зямлі Туманнага Альбіёну падмурак Англіі.

Жаночы крык на карме нібы спалохаў цень мінулага, і стары воін, цяжка дыхаючы, падняў вочы і зірнуў на ворагаў. Вялізны вікінг з саламянай барадою, заплеценай у касу, каб яна не перашкаджала ў баі, цягнуў цераз целы палеглых у бітве дзяўчыну, якая адчайна спрабавала аказваць яму ўсё магчымае супраціўленне. Нарман намотаў яе раскошныя ільняныя валасы на сваю магутную жылістую руку.

- Пабач, Скегі, якая птушачка трапіла ў мядзведжыя лапы Аслафа, - зарагатаў на ўсю глотку цёмнавалосы, са злымі пранізлівымі вачамі вікінг

- Што, Хальугар, падабаецца козачка! – Аслаф задаволена выскаліў скрозь саламяна-жоўтую бараду такія ж пажаўцелыя зубы. – Разгледзь бліжэй, хёўдынг! – гэтымі словамі ён шпурнуў палонніцу правадыру.

- Скегі лёгка прыняў яе на рукі і прыўзняў пальцамі падбародак, прымусіўшы дзяўчыну зазірнуць сабе ў вочы. У ізумрудна-зялёных зрэнках дзевы плёскалі халодныя хвалі гневу. Іх яшчэ стрымліваў мінулы жах, але вось-вось яны пагражалі пырскнуць лёдам з вачэй. Усмешка, якую шматлікія яго пабрацімы вызначылі як шчаслівую, агаліла белыя, роўныя зубы вікінга.

- Героі заўсёды ў пашане ў багоў! – крыкнуў Скегі – ці ведаеце вы, пабрацімы мае верныя, што на волі Одына ў рукі сыноў Поўначы трапіла сама дачка саксонскага эрла* Сіварда – прыгожая і чароўная Мойра. Прад дзеваю гэтай цьмянеюць перлы і гасне ложка драконаў**!

Зламаныя ад жорсткага быту, рэбры прабілі лёгкае Хенгіста і яго цяжкае дыханне збівала з вуснаў скрываўленую

* **Эрл** – *тытул, пазней прыраўнаваны да графскага. Але ж эрлы лічыліся больш высакароднымі за графаў. У скандынаваў эрлам адпавядалі ярлы-князі.*

** **Ложка драконаў** – *у паэзіі скальдаў адна з назваў золата - яго кёнінг.*



пену. Кусаючы вус, воін падняўся на ногі. Выцягнуўшы цяжкі баявы нож – паўмятровы скрамасакс, які ў свой час даў імя яго ваяўнічым продкам, хістаючыся, зрабіў некалькі крокаў да Скегі.

- Прэч ад яе, нарманскае гадзяня! – прахрыпеў ён.

Вікінг адшпурнуў ад сябе саксонку і ў гэты момант Хенгіст, што меў сілы, кінуў у ворага нож. Тугой дугою выгнулася дужае цела Скегі і скрамасакс урэзаўся ў тарчу аднаго з пабрацімаў, які знаходзіўся за спіной свайго хеўдынга.

- Добрая зброя! – мовіў Токі і вырваў нож сакса са сваёй тарчы.

Орш Кульгавы падышоў да параненага ворага і ўзмахнуў сваёй сякерай. Хенгіст спакойна глядзеў яму ў вочы, высока падняўшы ўскалмачаную сівую галаву. Шырокае месяцападобнае лязо са шчарбінамі ля пярэдняга краю рассякло старому ключыцу, і ён моўчкі паваліўся, захлынуўшыся крывёю

- Смерць яго заслугоўвае павагі, – гладзячы бараду сказаў стары суровы Х'яльв. – У Валгалу* шлях гэтаму воіну. Ён годны яе! Валькірыі дзевы**, гэты сакс ваш!

- Звер! – раптам выкрыкнула Мойра. Ускочыўшы, кінулася яна да Скегі, мецячы пальцамі вікінгу ў вочы. З усмешкай перахапіў хеўдынг яе тонкую белую руку і пад рогат воінаў, лёгкім плескачом кінуў на завэдзганую крывёю палубу. Не гледзячы болей на прыніжаную дачку знакамітага Сіварда, гаркнуў сваім хірдманам***:

- Кідайце за борт саксонскую падлу, пабрацімы!

- На вёслы! Цяпер нам шлях на Эрын**** !

Вікінгі выкідвалі мёртвых саксаў у мора. Поўны невад будзе у Ран*****– выкрадальніцы!

Хітрамудры Х'яльв паклікаў да сябе Скегі і паказаў яму на аднаго з загінуўшых.

---

* ***Валгала (Вальхала)*** *– нябесны палац Одына, куды трапляюць эйнхерыі, воіны, якія загінулі ў баі.*

** ***Валькірыі*** *– Літаральна, "якія выбіраюць забітых". Дзевы-ваяўніцы, якія кружаць над сечай на вялізных крылатых конях, выбіраючы ў Валгаву найбольш адважных баяроў.*

*** ***Хірдманы*** *– воіны хірды-скандынаўскай дружыны.*

**** ***Эрын*** *– старажытная назва Ірландыі.*

***** ***Ран*** *– жонка марскога велікана Эйра, яна збірае ў свой невад патануўшых у моры..*





- Зірні, хёўдынг. Не ўсе хірдманы Хенгіста саксонцы.

- Я не разумею цябе, Х'яльв. Няўжо толькі сыны. Паўноч-ных краін* ходзяць па Лебядзінай дарозе**? - паціснуў магутнымі плячамі Скегі.

- Не, не толькі, - згадзіўся стары. – Але зірні на гэтага юнака. Ён вараг***. І ён не адзіны. Іх ледзь не палова ў хірдзе сакса. А ў кожнага на воінсім поясе, ці нават на тарчы, знак вогненнай птушкі Рараг****!

Вочы хёўдынга звузіліся.

- Валасы твае, Х'яльв, пасівелі ў сечах і паходах далёкіх. Гады далі табе вялікую мудрасць, але ўзамен не згорбілі спіны і вочы твае засталіся зоркімі, як не ў кожнага з маладых! – паляпаў Скегі па плячы свайго даўняга настаўніка і пабрацiма.

- Рараг! Сокал на белым полі, які падае на здабычу! Татэмны знак Хорыка конунга*****. З Альдэйгюбарга******!

Доўгі Меч пацёр шчацінне на кепска голеным падбародку.

– Што рабілі яго воі на шнеку Хенгіста? Цікава.

- Папытаць бы трэба, але ж мерцвякі-славене не адкажуць, - прамарматаў Х'яльв – Але бяда малая. Дачка эрла адказ дасць! А, можа, я і сам здагадаюся.

- А ёй больш нічога і не застаецца, - кіўнуў агніста-рудой галавой грозны хёўдынг. – А гэтага таксама Эгіру ў палац! – пхнуў ён ботам цела юнага варага.

Але, да здзіўлення вікінга, юнак ціха застагнаў.

- Падайце сюды элю – крыкнуў Х'яльв

Пабрацімы прыпаднялі варага. Паранены застагнаў зноў і крыху расплюшчыў вочы.

- Ты пабачыў! Смаркач зусім, а зброяй нядрэнна валодае. На маіх вачах Тарчэйра на меч насадзіў, як кавалак мяса на рожаг! - Скегі растуліў юнаку вусны і ўліў яму няшмат

---

** **Паўночныя краіны** – Скандынавія.*

*** **Лебядзіная дарога** – так скальды называлі мора. (Сцяжына крачак, Дарога кітоў, Раўніна цюленяў і г. д.).*

******Вараг (варанег)** – назва прыбалтыйскіх славянаў. На Русі варагамі называлі яшчэ і наймітаў.*

***** **Птушка Рараг** – тотэмны знак варажскага князя Рурыка.*

****** **Хрорык конунг** – так скандынавы звалі Рурыка.*

*********Альдэйгюбарг** – скандынаўская назва Ладагі.*



англасаксонскага напітку. Той сутаргава праглынуў. Жалезны шалом споўз з яго галавы і на здзіўленне воінам, русая каса, захаваная пад барміцай*, саслізнула на плечы. Х'яльв неразборліва вылаяўся і развёў рукамі.

– Глядзі, пабрацімы, баба!

Ваяўніца, ужо апаматаўшыся, агледзела кола вікінгаў пагардлівым позіркам.

- Урмане** прамармытала яна – Звязенілі ўсё ж, сабакі.

- Во лаяцца як! – нахмурыўся Хальугар Злы.

Дзева невыразна прабубніла яшчэ нешта і зморшчыла ад болю твар.

- Э-э-э, - працягнуў Скегі. – Яшчэ трохі, - мовіў хёўдынг, дакранаючыся да яе апухлай патыліцы, - і гэтай валькірыі мазгі бы на палубу выбілі  Шалом ды каса выратавалі. Воіны зарагаталі.

- Стала быць, мужы павыводзіліся ў Альдэйгюбаргу, калі ў конунга дзеўкі зброяй размахваюць ды на ладдзях ходзяць, а не парты мыюць?! –пад усеагульны рогат спытаў Фарлаф Цюлень.

Халодны агонь замігцеў у шэрых, як дым, вачах ваяўніцы і дзёрзка адказала яна вінінгу:

- Мужоў знарочыстых і харобраў*** хопіць на вас у Рурыка! Пра ваяроў стольнай Ладагі слава далёка грукоча! Ды толькі на такіх ваякаў, як ты, ім хадзіць сорамна, ды клінкі славутыя крывёю сабачай пэцкаць. Дзевак, вось, пасылаюць!

- Ай дык баба! – у захапленні раўлі хірдманы. – Ну, пабрацімы, чым жа не дзева Валгалы**** перад намі?

- Выпі яшчэ, - працягнуў ёй рог з элем Х'яльв. Дзяўчына, адхлёбнуўшы, закашлялася.

- Цікава, а ці шмат у Хрорыка такіх ваяўніц – прыгажунь?

Скегі правёў пальцам па яе шчацэ.

- Табе кіку*****, золатам шытую насіць, а не шалом цяжкі. Адкажы мне, дзева Одына, як клікаць цябе будзем? Ды

---

* **Барміца** – *жалезная кальчужная сетка, якая прыкрывае шыю і плечы ад вытаў.*

** **Урмане** – *славянская назва скандынаваў, часцей нарвежцаў.*

*** **Знарочысты** – *высакародны, лепшы.* **Харобар (Храбар)** - *адважны воін, віцязь.*

**** **Дзева Валгалы** – *дзева Одына, валькірыя.*

***** **Кіка** – *галаўны ўбор замужніх славянак.*

што мужы Хрорыка конунга ў гасцях у Хенгіста сакса рабілі?

Крыху памаўчаўшы, адказала яна:

- Хільд*, - вашы клічуць.

- Імя воіна годнае, - кіўнуў галавой хёўдынг.- Мабыць, заслужыла. Што ж за справы ў твайго конунга са старым саксам?

- Ты ў конунга і спытай! – блісканула вачамі дзева.

Скегі ўсміхнуўся і славенка зразумела, што хёўдынг болей жартаваць не жадае. На сонцы зазіхацела лязо баявога нажа, вастрыём крануўшы яе шчаку.

- Ну? – прыпадняў бровы вікінг –Можа, гэта надасць патрэбную вагу маім пытанням?

Дымна – шэрыя вочы Хільд спакойна глядзелі на яго. Ні адзін мускул не ўздрыгнуў на яе тонкім прыгожым твары. Толькі на шыі білася сіняя жылка.

- Мужная, - пагладзіў бараду Х'яльв, паглядаючы на Хальудана – маладога вікінга, нядаўна прынятага ў хірд. Але яшчэ раней гэты спрытны, адважны хлопец заваяваў сваёй сякерай славу і сваю мянушку – Сякач. Цяпер жа ён змрочна сачыў за хёўдынгам, які трымаў нож ля твару славенскай ваяўніцы і цвёрдыя яго пальцы звычна песцілі адпаліраваны чэрань улюбёнай францыскі**. Х'яльв усміхнуўся ў бараду.

- Не псуй ёй твар, Скегі! Дзевы з прыгожым тварыкам і пяшчотнаю скурай каштуюць даражэй, чым упрыгожаныя шнарамі, нават, калі дзевы тыя воіны!

Пачуўся вясёлы смех вікінгаў

- Хто ж пажадае набыць гэтую кошку?

- Можа ты, Х'яльв? – крыкнуў старому Орш.

- Але сцеражыся, дружа, каб такая наложніца не адрэзала табе дужа важную і патрэбную частку цела!

Нарманы заходзіліся з рогату. Адзін Хальудан хмурыў чало. Малады хірдман зрабіў крок уперад, збіраючыся штосці сказаць, але, раптам перадумаў і застаўся на месцы.

- Я прасцей спытаю, - жмурыў Х'яльв хітрае вока

- Адкажы старому, красуня, навошта Хрорыку спатрэбілася дачка Сівардава? У Альдэйгюбарг вёз яе Хенгіст. Ці не так?

---

* *Хільд – ад скандынаўскага - бітва. Хільд - імя адной з валькірый.*

** *Францыска – двухлязовая сякера. Улюбёная зброя франкаў. Адгэтуль і назва.*



Хільд уважліва зірнула на старога воіна.

"Стары Ліс", - са злосцю падумала яна. - "Ад яго нічога не застанецца ў таямніцы"!

- Сівард і Хенгіст - сваякі. Але ж не было паміж імі ніколі згоды. У жылах Сіварда цячэ дацкая кроў. Хенгіст ненавідзеў нарманаў, Сівард – наадварот. Часта сыноў Поўначы у свой одаль* клікаў, каб вышэй суседзяў падняцца ў міжусобных спрэчках крывавых. У Англіі не любяць эрла, але вымушаны з ім лічыцца. Цяпер жа ў яго нелюбоў з каралём, вось і абяцаў Сівард прыгажуню Мойру Харальду** сыну Хальудана Чорнага, каб разлічваць на яго падтрымку. Харальд хоць і малады, але ўжо відаць, што будзе з яго славуты конунг! Калі ён раней часу галаву не зложыць. Эрл разумны і хоча мець такога зяця. Маці Мойры была наложніцай Сіварда. Ён узяў яе сілай. Прыгожая была. Са старажытнага роду каледонскіх*** вальхаў****. Узненавідзела адразу Сіварда ганарлівая прыгажуня, а потым пакахала. Дзіця ад яго панесла. Х'яльв зірнуў на палонніцу.

Хільд сядзела, абапёршыся на борт, і глядзела ў мора. Стары вікінг падміргнуў хёўдынгу.

- Дык вось. Змовіў, значыцца, Сівард дачку за Харальда сына Хальудана, а тая ўзяла ды ўперлася. Кроў нябожчыцы маці разгулялася, - Х'яльв усміхнуўся. – Не любяць вальхі сыноў Поўначы! Не любяць і баяцца. Ды эрлу, відаць, капрызы дзявочыя хоць бы што. Сказаў – адрэзаў! – вікінг зноў усміхнуўся. – Вось і вырашыла Мойра ўцячы, а дзядзечка Хенгіст дапамог. А ён, як я ведаю, у добрых сябрах – таварышах з Хрорыкам конугам хадзіў. Разам яны з данамі ваявалі. І не аднойчы. Ну што, прыгажуня мая, праўду кажа стары? Ці не? Вось толькі адно ведаць жадаю. – Стары нарман пагладзіў сівую бараду. – У Хрорыкавых жылах таксама цячэ вальхская кроў. Але з-за гэтага ён не дасць прытулак. На што разлічваў Хенгіст

---

* ***Одаль*** – *вотчына.*

** ***Харальд*** – *сын Хальудана Чорнага, вікінг, які каля 900-га году ўпершыню аб'яднаў Нарвегію пад сваёй уладай. Ён даў зарок не стрыгчы валасоў сваіх, пакуль уся краіна яму не скорыцца, і яго празвалі Харальдам Касматым. Калі ж ён стаў конунгам Нарвегіі, загадаў адсячы сваю доўгую касу, і людзі пачалі клікаць яго Харальдам Прыгожавалосым.*

*** ***Каледонія*** – *старажытная назва Шатландыі.*

**** ***Вальхі*** – *скандынаўская назва кельтаў.*





і ўцякачка Мойра? Здаецца мне, што ў вагіра* свае намеры накшталт Сівардавай дачкі. Толькі вось якія? Распавядаць не жадаеш, прыгажуня? Што за карысць Хрорыку?

Хільд пранізліва зірнула на нармана.

- Ты і так усё ведаеш, Ліс. А простаму кмецю** далёка да кнёза***, а яшчэ далей да яго думак і намераў!.

Скегі сунуў нож за папругу.

- Ты, Х'яльв, мудры, як крумкач Одына! – усклікнуў правадыр.

Стары схаваў у вусы ўсмешку, звыкла пагладзіў бараду мазолістай далонню і зрабіў крок да славенкі.

Хільд нават не пажадала зірнуць на яго. Вікінг нагнуўся над дзяўчынай і рвануў з яе шыі скураны пасачак. Хільд ускрыкнула ад болю. На шыі яе ўспухла чырвоная паласа.

- А я лічыў, што срэбныя грыўні носяць на грудзях мужы лепшыя, заслужаныя, а не простыя грыдні****. Што скажаш, Хільд?

- Кнёз за службу ўзнагародзіў! – дзяўчына высока ўскінула галаву, пагардліва на правадыра гледзячы. – Можаш забіваць мяне, сабака ўрманскі! Але болей не ўчуць табе ані слова, хоць рэж! Паплечнік твой ужо ўсё за мяне мовіў!

Вочы яе зіхацелі, нібы сталь дамаскага клінка. Да гэтага часу бледны яе твар паружавеў, грудзі высока ўздымаліся пад срэбнай сеткай кальчугі.

- Валькірыя! – у захапленні прашаптаў Хальудан, гледзячы на славенку.

- Так. Самая сапраўдная дзева Валгалы! – згадзіўся Орш Кульгавы.

Стары Х'яльв Ліс з усмешкай уздыхнуў.

- Вось табе і дзеўка славенская. Эх, каб я быў хоць крыху маладзейшы!

Хірдманы весела зарагаталі. Наперад выйшаў Хальудан і прамовіў:

- Я, пабрацімы, вось што думаю. Яна сапраўды болей

---

* ***Вагіры*** *– племя прыбалтыйскіх славянаў, з якога, як лічаць, паходзіў Рурык.*

** ***Кмець*** *– воін, слуга.*

*** ***Кнёз (княз)*** *– князь у варагаў. Кнёзам называе Хільд Рурыка на варажскі лад.*

**** ***Грыдзень (грыдзь)*** *– воін княжацкай дружыны.*


нічога не ведае. Адкуль ёй ведаць думкі старога варажскага сокала? Хрорык – мудры конунг, і мы губляем дарэмна час.

- Я згодны з Хальуданам, - кіўнуў сівой галавою стары Ліс. Маршчыны на чале Скегі разгладзіліся.

- Што ж, потым відаць будзе, - правадыр зарагатаў, працягваючы дзяўчыне пасак з бліскучым кругляшом.

– Трымай, валькірыя Хільд! Ці адчуваеце, пабрацімы, як вее свежы вецер! Можа гэта славенка прынясе нам поспех?!

Вікінг пераскочыў на дракар. Мойра нібы здранцвела пад яго позіркам. Ён схапіў дачку эрла за падбародак і моцна пацалаваў у вусны дзяўчыну. Пасля чаго яна паспрабавала адвесіць яму аплявуху, пад смех і непрыстойныя жарты воінаў.

- Смаркачу Харальду і ў сне не бачыць такой удачы! – выхваляючыся крыкнуў Скегі. Ну, пабрацімы, няўжо не варта гэтая дзева, каб нарадзіць мне сыноў – віцязяў!?

Але на гэты раз воіны зусім не спяшаліся вітаць рашэнне правадыра. Такі загін падзеі, яўна нечаканы, прымусіў іх разводзіць рукамі і пазбягаць агністага позірку правадыра. Золата, якое абяцаў выкуп за паланянку, пагражала абярнуцца гневам Харальда і Сіварда. Харальд, хоць і шчанюк, але можа вырасці ў вялізнага лютага ваўкарэза. Х'яльв ведаў гэта. А памяць у яго доўгая.

- Чым гэтая вальхская ведзьма зачаравала яго? – шэптам сказаў на вуха Лісу Гунэрых Гот. – Пагаварыў бы ты з ім. Хёўдынг паважае цябе.

– Што насы павесілі, марскія драконы? – звузіў свае сінія вочы правадыр. – Што не да спадобы, не па нутры жаніцьба мая? – рука вікінга лягла на крыж мяча.

Воіны маўчалі.

– Ці мае ваўкі баяцца сабакі – смаркача Харальда?! – голас правадыра паходзіў на рык раз'юшанага звера.

– Я табе так скажу, правадыр, - пагладзіў бараду Х'яльв. – Скажу ад усяго хірда. Сівард аддасць усё, каб вярнуць дачку. Але, замест золата, мы атрымаем нянавісць сына Хальудана, а таксама і Сіварда.

Скегі хрыпла вылаяўся і зарагатаў.

– І ты таксама падціснуў хвост! Ты! Стары мацёры Ліс спалохаўся і зрабіў лужыну!

Стары вікінг раздзьмуў ноздры, кроў кінулася яму ў твар, і пальцы нервова дакрануліся цяжкай баявой сякеры. І хёўдынг

зразумеў, што задужа перагнуў палку.

– Прабач, пабрацім. Я не жадаў пакрыўдзіць. Але гэта дзева – мая здабыча. І я вырву вантробы кожнаму, хто пажадае аспрэчваць маё права. Права правадыра. Няхай, хто жадае пераканаць мяне ў іншым, аголіць свай меч! Вось мой пакон*!

– Мы не баімся ні Харальда, ні каго іншага, - адказаў Х'яльв. – І калі гэта бледная дзеўка закруціла табе галаву – забірай яе!

– На Эрын! – усклікнуў павесялелы Скегі. – На Эрын, пабрацімы! Там адсвяткуем маю жаніцьбу.

-Ты памыліўся, брудны руды варвар, калі вырашыў, што тая, у чыіх жылах цячэ кроў кельцкіх каралёў, падзеліць ложка з рудым нарманам!

– Ты пакахаеш мяне, Мойра! – з усмешкай запярэчыў Скегі. Ці табе больш па душы не сталы муж, а смаркаты хлапчук, як Харальд? А можа ты закахалася ў старога каршуна Хрорыка? Можа, ён табе любы?

Хірдманы рассмяяліся, і хёўдынг адчуў, што пагроза мінула. Яго ваўкі зноў пойдуць за сваім важаром у агонь і ваду; хоць да краю света, хоць да Валгалы!

– Скегі – нядрэнны воін і хёўдынг, але розуму яму іншы раз не хапае. Галоўнае зараз – захаваць хірд, - цярэбячы бараду адказаў Ліс.

– Пабачым, хлопцы. А з Харальдам, думаецца мне, змагацца ўсяроўна давядзеца. Зараз ён распачаў вайну ў Нарвегіі з ярламі і хёўдынгамі. Пад сваю руку іх узяць спрабуе. А ці атрымаецца што з гэтага? Вось я і разважаю, а ці не пайсці нам супраць Харальда. Пакуль шчанюк не пасталеў і не вырас у ваўкарэза, яму трэба зламаць хрыбет! Скегі таксама не любіць Харальда. За ім затрымкі не стане. Задужа Харальд сілу ўжо адчуў. А калі перамога за намі будзе, здабычу, я мяркую, добрую возьмем. А калі ўдача не адверне свой лік ад сына Хальудана – на вёслы і ў мора! Пабачым, пабрацімы! – так казаў воінам стары суровы вікінг.

Барвовыя языкі полымя лізалі карабель Хенгіста. Вікінгі ператварылі снеку ў пахавальнае жэглішча для сваіх палеглых у бітве пабрацімаў і таварышаў па зброі. А чорны дракар накіраваўся Дарогаю кітоў да сіняга далягляду. Хутка чырвона-белы ветразь знік паміж густа-сінімі хвалямі і па

** Пакон – закон.*



летняму пранізліва-блакітным небам.

Над морам клубіўся туман. Шэра – белыя струмені ўкутвалі "Крумкача". Змяіная галава дракара жудасна выскаляла іклы ў невядомасць. Хільд сядзела на карме, прыхінуўшы плечы да борта. Дзяўчына падцягнула калені да грудзей і спрабавала не дрыжаць ад вячэрняй сырасці і прахалоды. Нарманы пакінулі на ёй толькі споднюю кашулю – кальчугу забралі, плашч таксама. А паветра зараз было даволі бадзёрае. Урмане адпачывалі. Успаміналі мінулую бітву, паходы і набегі, з якіх складалася іх неспакойнае жыццё. Пах ежы прыемна казытаў ноздры, і галодная паланянка сутаргова глытала сліну. Дзяўчына цяжка ўздыхнула, падбадзёрылася і паспрабавала адшукаць вачамі Мойру, але зноў беспаспяхова. Сівардавай дачкі, мабыць, за спінамі вікінгаў, Хільд не разглядзела. "Дзе ж яе схавалі"? – падумала славенка. –"Вось гаротніца. З агню ды ў полымя. Ад аднаго ўрманіна ўцякла, ды другому ў лапы адразу трапіла. Мабыць, не вельмі дужы, як людзі кажуць, яе новы бог Хрыст. Эх! Не дачакаецца на гэты раз мяне дзядзька Рацібор Маўчун. Як у ваду глядзеў – не жадаў па саксонскую князёўну адпускаць. І навошта яна Рурыку спатрэбілася? Хітрун кнёз. Без выгоды ўцякачку не прывецiць, хоць і сяброўства моцнае вадзіў з Хенгістам. Цяпер жа ўсё адно. Не дачакаецца Рурык снеку ды харобраў сваіх. Усе ў Марскога Гаспадара рыбу кормяць", – Хільд праглынула тугі камяк, які ўзнік у горле, і туга мацней сціснула душу.

Цяпер у ёй цяжка было пазнаць тую дзеву-воіна, якая здолела захапіць, зачараваць суровыя, жорсткія сэрцы нарманаў сваёй мужнасцю, што, аднак, не перашкодзіла ім распрануць яе да споднян кашулі, і пакінуць трэсціся ад холаду. Цяпер да бартавых дошак, пакрытых кроплямі вільгаці, тулілася маладзенькая дзяўчына год за дваццаць, з падрапанымі рукамі і запечанай крывёю на русай галаве. Адзіноцтва і безнадзейнасць душылі за горла, перашкаджалі дыхаць. Хацелася ёй прытуліцца да каго-небудзь роднага, блізкага і каханага, схаваць твар на шырокіх, магутных грудзях, даць волю свайму гору. Не трымаць у сабе, а выплакаць, выліць у слёзы ўсё набалелае. Каб лягчэй стала, каб не цісну́ў на грудзі цяжкі камень. Але ж побач сядзелі тыя, хто калісьці пазбавіў яе ўсяго гэтага. Пазбавіў дзяцінства, прымусіў ўзяцца за меч, шукаючы помсты. Праўду ж казаў хёўдынг. Ёй бы кіку насіць





ды дзетак калыхаць, а не кроў ліць. Рацібор ваявода таксама не аднойчы бурчаў, што вайна не бабская справа. Суровы і хмурны заўсёды быў дзядзька Рацібор. За змрочны нораў Маўчуном празваны. Маўклівы, дарэмна слова не скажа, рука цяжкая на аплявухі, асабліва маладым на тумакі шчодрая, але справядлівая. За тое любілі яго кмеці, ды і людзі паважалі. Дый як не любіць слаўнага воіна, мудрага ваяводу і мужа дзяржаў-нага, ды, для таго жорсткага часу, даволі добрага чалавека. Вочы Хільд зрабіліся мокрымі. Дзяўчына шморгнула носам, і з павекаў на шчаку ўпала крыштальная слязінка.

– Вось жа як смаркачы пусціла, - выціраючы шчаку прамармытала славенка. – Бачыў бы Рацібор, зараз жа з грыдніцы прэч пагнаў бы, на рэчку парты мыць. Разрумзалася, ваяка, - збіраючы ў кулак усю сваю волю шаптала дзяўчына.

Цяжкія яе думкі перарваў высокі, магутны вікінг. Статны хлопец прысеў побач і паставіў перад паланянкай драўляную міску з гарачай духмянай поліўкай, паклаў дзве высушаныя рыбіны. Хільд пазнала яго. Гэта быў малады светлавалосы Хальўдан.

- Вячэрай, - проста сказаў урманін, сядаючы побач са славенкай.

Зняўшы з шырокіх плячэй воўчы плашч, вікінг укутаў ім паланянку. Яна ўздрыгнула, але супраціўляцца не стала. Пальцы яго былі цвёрдыя, як карані ясеню.

– Ну што ж ты, валькірыя, вячэрай! Падтрымай свае сілы, Хальўдан усміхнуўся. – Ды з галавы думы цяжкія гані прэч! Сама ведаеш, дзева, жыццё, як вецер, як мора, ніколі не стаіць на месцы. Гэта рэч зменлівая. Сёння ты палонніца Скегі, заўтра ж варагі Хрорыка конуга, ці хто іншы, дапамогуць нам дабрацца да Валгалы. Жыццё, дзяўчо, заўсёды было жорсткім. І ты, бачу я, гэта ведаеш. Ад лёсу не ўцячэш. Мы воіны! А хто біты не быў, той ніколі і не біўся!

Хільд уважліва паглядзела на вікінга. На выгляд ён меў гадоў не болей, чым яна. Тварам прыгожы, моцны целам. Блакітныя вочы яго пацямнелі ўначы і таемна мігцелі, нібы зоркі. Хільд усміхнулася яму. Пры ўсёй яе нянавісці да скандынаваў гэты воін не выклікаў падобнага пачуцця.

– Праўда твая. Жыццё жорсткае. Мы самі робім яго такім, вікінг.



– Маё імя Хальудан, - з усмешкай адказаў ён.

– Я ведаю, - кіўнула славенка, праглынуўшы першую лыжку. – Ты датчанін?

– Так, Селунд*- мая радзіма.

Некаторы час яны сядзелі моўчкі. Хільд нетаропка ела, задумліва гледзячы ў густую муць туману.

– Паслухай, Хільд, - раптам спытаў Хальудан, зазірнуўшы ў дзявочыя вільготныя, нявыплаканыя вочы. – Як клікала цябе маці?

Дзяўчына закашлялася і паставіла міску. Абцерла вусны далонню. Крыху памаўчала, прыкрыўшы вочы, і нарэшце адказала:

- Калі мне мінула сем зім, у нашым заліве з'явіліся доўгія караблі вікінгаў. На штэўнях драпежна выскаляліся змяіныя морды. Даны! – голас дзяўчыны задрыжаў. – Не гандляваць ішлі яны. У той дзень я страціла маці, бацьку і дваіх братоў. Забілі ўсіх. З усяго нашага роду адна і ўцалела...

Вочы Хільд памутнелі ад салёнай вадкасці, да горла падкаціў тугі агідны камяк. "Знайшла каму апавядаць,- мільганула злосная думка. – Крыважэрцу дацкаму!!!" Хальудан уздыхнуў і падняўся на ногі.

– Ты стамілася. Адпачні, - мовіў ён і накіраваўся да сваіх.

– Гэй, дан, - няголасна аклікнула яго дзяўчына. – За плашч дзякую!

Вікінг усміхнуўся і кіўнуў светлавалосай кудлатай галавою.

У самым разгары баляванне маладзецкае! Другі дзень святкаваў славуты хёўдынг Скегі сваю жаніцьбу. Пеніцца ў рагах і срэбных кубках хмельнае піва, цячэ па барадах ваяроў моцны бурштынавы мёд, плешчацца ў шаломах англасаксі эль. У доўгай скале** горача – душна ад мноства разгарачаных целаў. Грызліся пад сталамі за косці вялізныя эрынскія ваўкарэзы. Славутыя хёўдынгі сабраліся згуляць вяселле. Грозныя воіны, магутныя мужы, якія ніколі не ведалі страху ў жорсткіх бітвах! Начале стала сядзіць Скегі Доўгі Меч. П'яны хёўдынг усміхаецца шырока, півам ды мёдам хмельным залітыя яго магутныя волатаўскія грудзі. Мутнымі вачамі паглядвае ён

* **Селунд** – *Данія.*
* **Скала** – *доўгі скандынаўскі дом.*





на дачку Сіварда. У шаўках і золаце сядзіць Мойра-краса. Прыгожая, нібы лебедзь белая. Але твар яе бледны, вільготныя вочы, ні да пітва, ні да ежы не дакранаецца дзева. Маўчыць Мойра, цень на чароўным твары яе. Побач са Скегі, па правую руку яго, сядзіць каледонец Луні мак Дрэган – старадаўні пабрацім хёўдынга, які прывёў у Ірландыю цэлую зграю дзікіх горцаў свайго клану. Страх выклікае яго люты выгляд, яго дзікунскае аблічча! На цёмна-бронзавым твары палымнеюць воўчыя вочы, зблытаныя валасы рудаватага колеру і барада вісяць бруднымі пасмамі. Вусы тырчаць, як шчаціннне вепрука, на завэдзганым клятчастым кілце засохлыя плямы крыві. Аголеныя рукі цалкам у шранах і рубцах. Жахлівы, люты чалавек – ізгой і злачынец. Насупраць шатландца сядзіць Івар Жалезныя Плечы, які калісьці голымі рукамі задушыў мядзведзя. Суровы і грозны ў славутага ваяра позірк. У барадзе ўжо блішчыць срэбная сівізна. У ратных вычынах натруджаны яго мазолістыя рукі–молаты. Балюе на вяселлі тым і магутны прыгажун Вальгард Ірландзец. Здзіўляюцца воіны! П'е рог за рогам дацкі вікінг, кубак за кубкам, ды не п'яніць хмель яго буйную агніста-рудую галаву! Смех, лаянка ды песні слаўнага скальда Гюльві Геста* з Готланда – героям і правадырам славутым даніна, сабачы брэх і грызня, жаночы віск, гучаць навокал, палохаючы сярод голых пагоркаў прыціхлы народ. Слаўна святкуюць годныя мужы!

– Што ж не вясёлая Лебедзь –Мойра? - уліваючы ў гарляк чарговую порцыю верасовага піва, гудзе густым басам Луні мак Дрэган.

– А чаго ж ёй вясёлай быць? – рагоча прыгажун Ірландзец. – Унь, зірні, Скегі зноў нап'ецца, як учора, і пад лаўку зваліцца. Вось і бывай, другая шлюбная ночка!

Скегі п'яна ўсміхнуўся і паспрабаваў абняць Мойру. Адусюль чуліся жарты і рогат. Мужы, ужо добра пад чаркай, выхваляліся, хто чым мог – сілаю, зброяй, баявымі караблямі, жанчынамі. Хвалілі, як свае ўласныя вычыны, так і чужыя.

– Паслухай, браце Скегі, - не суцішаўся Вальгард. – А дзе ж гэта твая хвалёная валькірыя, якую паланіў ты ў сваім паходзе слаўным? Можа да таго прыгожая тая дзева Валгалы, што для сябе хаваеш?

– Ды вунь яна, - невызначальна махнуў рукой хёўдынг.

---

* ***Гест*** *– па дацку госць.*



– Вочы прадзяры, Вальгард. Хальудан яе ледзь не з золку сюды прыцягнуў.

Славенская паланянка сядзела побач з добра падвыпіўшым Хальуданам.

- Э-э-э, - працягнуў Освік Тоўсты – Пазнюсенька схамянуўся, дружа Ірландзец. Месцейка ж, дарэчы, іншы заняў. Зірні ў вочы Хальудана – заб'е!

Новы выбух смеху скалануў сцены доўгага дома. Малады хірдман усміхнуўся і нешта прамармытаў. Вальгард зацікаўлена разглядаў паланянку.

– Ладненькая, - задаволена вызначыў ён. – Толькі вось паверыць цяжка мне, што дзева гэтая мячом валодае. Вось не зброя, а верацяно ў руках яе – справа іншая.

– А ты паспрабуй са славенкай,- хітра бліснуў вачамі Івар. – Як на хольмгангу*, – прапанаваў ён. – З Эдгарам, памятаеш? – нарман усміхаўся ў вусы.

Вальгард пыхкнуў:

- Каб я ды з бабай біўся!?

Луні, які ўжо задрэмваў, падняў цяжкую мядзведжую галаву са стала і мудрагеліста вылаяўся, крыху расплюшчыўшы вока і зноў лагодна засоп, галаву на магутныя грудзі спусціўшы, чым чарговую хвалю весялосці выклікаў.

– Ну што, Вальгард, як наконт двубою? – моргнуў маслена-бліскучым вокам Освік Тоўсты. – Кажуць воіны, яна ў хірдзе Рандвера** ярла не нізка сядзела. А Рандвер славуты хёўдынг славенскі! Добры ваявода! – гаманілі людзі. – Рандвер у пашане ў Хрорыка конунга, - падтрымаў Івар.

– А чаму не? – раптам згадзіўся Вальгард і хітра на Скегі зірнуў. – Але ж, Доўгі Меч, з умовай. Калі адолею тваю валькірыю, мая будзе!

– Што ж, пацеш нас, - адказаў Скегі. – Ды дзеўку забірай! – махнуў хёўдынг рукою.

Пад смех, жарты і гоман, падняўся з-за стала славуты Вальгард Ірландзец. Зграбная далонь адкінула з ілба агністую грыву, і нарман усміхнуўся.

– Ну як, ваяўніца?

- Нельга адмовіць такому спрытнаму хлопцу, - славенка

---

* ***Хольмганг*** *– літаральна "паход на востраў" – двубой паміж вікінгамі.*

** ***Рандвер*** *– так скандынавы называлі Рацібора.*

накіравалася да расчыненых дзвярэй.

У двары людзі спешна стварылі кола. Лаяліся, гаманілі, спрачаліся, чыя пераможа, ішлі ў заклад, расплюхваючы ў бакі піва, смакавалі наперад забаўнае відовішча. Вось увайшоў у кола магутны Вальгард. Хада мяккая, тыгрыная. Прайшоўся вікінг, размінаючы цягліцы пад ухваленне воінаў. Зачараванымі позіркамі праводзілі рудога прыгажуна дзяўчаты. Магутны і грозны супраціўнік дастаўся Хільд.

– Асцярога табе не зашкодзіць, - навучаў славенку ўраз працверазелы Хальудан, не звяртаючы ўвагі на салёныя жарты, якія сыпалі на яго з усіх бакоў. – Вальгард - бывалы баец, у сечы вельмі люты. Многія баяцца яго мяча!

– Вось, жа як, пабрацім! – аж енчыў ад рогату Орш Кульгавы, ледзь трымаючыся на нагах ад мёду і брагі, якія ўжо не патраплялі яму ў рот, а цяклі па вусах на кашулю. – Трэба табе было з дзеўкай славенскаю раней за Вальгарда магутай мерацца! А то і так забіраць! Цяпер жа не бачыць яе табе, як сваіх вушэй.

– Заткні горла, Орш. Змоўч урэшце, - нязлосна адказаў Хальудан. – Не хвалюйся, Хільд, перамога твая будзе. Вось, трымай, - дан выцягнуў з похваў свой меч. – Добрая зброя. Старадаўняй работы. Калісьці я ўзяў яго ў цяжкім баі. Для цябе крыху зацяжкі, але, мяркую, справіцца зможаш.

– Як-небудзь, - кіўнула славенка. – Паспрабую. Зброя звычна лягла ёй у далонь, палымнеючы на сонцы. " І праўда, зацяжкі крыху", - мільганула думка. Наславу навостранае лязо з свістам секанула паветра і замільгала ў агніста-смяротным танцы. Хільд прывыкала да зброі і хутка вызначыла яе цудоўныя баявыя якасці і вельмі добрую балансіроўку, чым заслужыла справядлівую хвалу гледачоў і іх здзіўленне. Тое, як славенская ваяўніца валодала мячом, міжвольна выклікала захапленне.

– Сцеражыся, Вальгард, - выскаліў зубы Освін Тоўсты. – У гэтай асы вострае джала.

Датчанін усміхнуўся і падняў тарчу. Хільд спрытна слізганула ў сярэдзіну кола і, адшукаўшы вачамі Скегі, крыкнула:

- Я буду біцца, хёўдынг, калі ўзнагародай мне за перамогу воля вольная будзе!

Насупіўся Скегі, але зараз жа ўсміхнуўся.



– Згода, - адказаўён. – Калі пераможаш, на ўсе чатыры бакі ідзі. Я перашкаджаць не стану. І ніхто супрацівіц-ца не будзе. Я сказаў!

Пад рогат і выццё Вальгард бразнуў зброяй у тарчу і нетаропка накіраваўся да славенкі, агаліўшы шырокай усмешкай белыя, вільготна-бліскучыя зубы. Хільд уважліва сачыла за ім пільнымі вачамі. Нарман усміхаўся, але ж таксама зорка і праніклівa сачылі яго халодныя блакітныя вочы за кожным рухам славенкі, за кожным яе крокам. Пакідаў хмель гарачую галаву. Гледачы падбухторвалі баяроў, як маглі – хто на што здатны. Высокі, шырокі ў плячах вікінг, магутай дыхае яго маладое моцнае цела і былінкай кволаю выглядае побач з нарманам дзяўчына-ваяўніца. Але ж бывалыя, сівавусыя баяры з сівізной на скронях і старымі баявымі рубцамі на пацямнелых тварах, ківаюць адзін аднаму, назіраючы за яе лёгкімі, непрыкметна-плаўнымі рухамі. Раптоўна Вальгард зрабіў вялізны скачок. Не дакрануліся яшчэ зямлі яго ступні, як клінок, са свістам узрэзваючы спалоханае паветра, з тарчы, нібы з масла, добры кавалак зрэзаў. Выты градам пасыпаліся на Хільд і хутка ператварылі яе тарчу ў кучу трэсак. Выслаба-ніўшы руку, шпурнула яна абломак у ворага і перахапіла чэрань мяча дзвюма рукамі. Бліскалі белатою зубы дана – прыгожая ўсмешка не стамляла яго вуснаў. Вікінг таксама бразнуў тарчу сваю вобзем, на росна – халодную пасля дажджу траву. Некаторы час моўчкі кружылі яны, нібы ваўкі, выбі-раючы імгненне для смяротнага апошняга кідка. І дан, урэшце, магутным рыўком кінуў насустрач Хільд сваё дужае, гнуткае цела. Мячы з лязгатам скрыжаваліся і гучна заспявалі старадаўнюю, як сам свет людскі, песню смерці. Упэўнена цясніць вікінг ваяўніцу славенскую моцнымі вытамі. Сціснуўшы зубы, бліскаючы вачамі, Хільд адчайна адбівалася. Растрапа-ныя валасы ліплі на шыю, салёны пот раз'ядаў вочы, дыханне цяжкае, з шумам з грудзей ірвецца. Здаецца, вось-вось не вытрывае дзяўчына шалёнага націску скандынава. Кашуля на яе правым баку, дзе зачапіў цела клінок вікінга, набрыняла крывёй. Меч рабіўся надзвычай цяжкім, цела не жадала слухацца. Рукі па-здрадніцку дрыжалі, і адчула дзева, як у страўніку заварушы-лася нешта халоднае і агіднае.

"Не па зубах мне дан гэты", - цяжка дыхаючы, думала дзяўчына. – "Каб трэба яму было – даўно бы забіў. Гуляе дан,

як кот з мышанём гуляе"

Востра адточанае, выдатнай загартоўкі лязо яго мяча мільгала перад позіркам палонніцы. Але ж, мабыць, не пакінуў ў далёкім краі саю верную слугу грозны Пярун, хоць і ўладарылі тут іншыя багі А можа дачка яго, Магура – ваяўніца дапамагла? Асцярогу прэч адкінуўшы, упэўнены, што перамога ўжо за яго стаіць, паслізнуўся ў гразі Вальгард, каля невялічкай лужыны. Паслізнуўся ды на імгненне раўнавагу страціў. Пахіснуўся датчанін магутны і маланкай кінулася да яго славенка, і рынула вастрыё клінка ў твар вікінгу. Узмахнуў зброяй, абараняючы сябе дан, але ў апошні міг перамяніў свой смяротны лёт меч Хільд! Упаў раптам уніз і працяў сцягно Вальгарда. З болю і прыкрасці ён гыркнуў, нібы воўк, якога балюча ўкусіў сабака. І тым больш прыкра было, што сабаку гэтага ён ужо лічыў сваёй здабычай! У любы момант мог гола парваць – патрэбы не было. Лінула з раны цёмная ліпкая кроў, але ўтрымаўся на нагах вой-віцязь.

- Хвацка змагаецца дзеўка! – крыкнуў Вальгард і ўсмешка зноў з'явілася на яго вуснах. – Пабачым, ці такая ты ў каханні, як у баі!

– Вось толькі не табе глядзець! – адказвала яна хмурачы кусцістыя бровы.

Івар Жалезныя Плечы прамармытаў на вуха Скегі:

- Глыбока дастала яго славенка. Кроў, як з зарэзанага вепрука, свішча.

– Сплыве крывёй, - згадзіўся свей*.

Хільд спрытна пазбягала і ўхілялася ад страшных вытаў вікінга. Кульгавы Вальгард не мог угнацца за дзеўкай. Стаміўся славуты воін, твар яго бледны потам халодным і салёным цячэ, крывёй набухаюць мяккія штаны ласінай скуры.

– Скарыся лёсу! – крычыць славенка – Кідай меч у похвы, вой. Крывёй жа сплывеш!

Дан адказаў ёй сваёй нязменнай, непахіснай усмешкай. Але ж бачыла Хільд, як вымучыў гэтую ўсмешку з вуснаў сваіх датчанін горды. І вось раптам для усіх нечакана, ваяўніца, прапусціўшы над русавалосай галавой клінок Вальгарда, што сілы засталося, выцяла ворага па крывавай ране. Шырокае лязо плазам лягло на сцягно аслабелага ад страты крыві воіна. Хваля жорсткага болю лінула па целе нармана. Заскрыгатаў

* **Свей** – швед. **Свея** – Швецыя.



зубамі і паваліўся на калена вікінг. Яшчэ імгненне – і брудны бот ваяўніцы ўрэзаўся ў твар яму. Назіраўшыя за двубоем змоўклі. Мёртвая цішыня павісла ў паветры. Вальгард Ірландзец - грозны, магутны Вальгард ляжаў у гразі, а над ім, вастрыё мяча да грудзей магутнага дана прыставіўшы, стаяла славенка. Кашуля пацямнела ад поту, калені ўздрыгвалі ад натугі і зморы. Гэты пераможны рывок у дзяўчыны апошнія сілы забраў. Зірнула на Скегі Хільд, і меч з грудзей пераможанага вікінга неахвотна папоўз прэч. Хёўдынг сустрэўся з вачамі яе і мовіў:

- Воля табе, дзева Валгалы! Ідзі, дзе ведаеш, на ўсе чатыры вятры, а, калі пажадаеш, то будзь госця мая! За пашану палічым.

Абаперла далоні на меч славенка, ды крыху падумала:

- Я прымаю тваё запрашэнне, хёўдынг Скегі Доўгі Меч.

Хальудан паклаў ёй на плячо цяжкую руку.

- Малайчына, - пахваліў ён.

Дзяўчына глынула горкую сліну і зірнула на хірдмана. Малады дан глядзеў ёй у вочы і ўсміхаўся. Чужы воін, племя якога яна ненавідзела і лічыла заклятымі ворагамі, цяпер трымаў яе за руку і ўсміхаўся менавіта ёй. Думкі, як неспакойныя, турботныя птушкі мітусіліся ў яе галаве, прымушаючы круціцца перад вачамі стаптаную зямлю. “Воля,” – стукала і пульсавала ў скронях. Вочы зрабіліся вільготнымі, дзяўчына пахіснулася і прымушана была абаперціся на магутную руку Хальудана.

– Багі дапамаглі табе, - словы вікінга прывялі яе да прытомнасці – яны паважаюць храбрых!

Хільд слаба ўсміхнулася.

– Вось, вазьмі, - дзяўчына працягнула яму меч – І... дзякуй табе.

Хальудан закруціў галавой, і залаціста-жоўтыя кучары захваліліся на магутных рамёнах.

– Ён твой.

Тым часам Себа – траўнік – саксонскі раб-знахар, суняў Вальгардаў крывацёк. Дану дапамаглі стаць на ногі і, не гледзячы на яго пратэсты, пабрацімы падхапілі параненага на рукі і панеслі прэч. Цёмны быў твар яго, нібы хмара навальнічная. Маланкі мігцелі ў позірку лютым.

- Гэй, славенка! – крыкнуў ён, і Хільд павярнула галаву. – Мы яшчэ сустрэнемся!

- Ён вельмі цяжка перажывае сваю паразу, -Хальудан

усміхнуўся. – Не звяртай увагі. Не да спадобы зведаць паразу ад жанчыны. Нават такой, як ты.

Хільд адказала яму ўсмешкай:

- Чаму ты дапамагаеш мне, Хальудан, -знянацку спытала яна, спрабуючы зазірнуць яму ў вочы.

Вікінг адвярнуў мужны твар, і Хільд заўважыла на яго скроні стары белы шнар, які хаваўся ў саломе валасоў.

- Хадзем, трэба агледзець тваю рану.

На стайні пахла духмяным сенам, тупалі коні, цёпла дыхаючы ў твар дзяўчыне. Па загаду Хальудана, светлавокія дзевы ўрманскія прынеслі гарачую ваду і чыстае палатно. Пераглядаліся між сабою белабровыя прыгажуні, жартавалі. Нарэшце дапяклі датчаніну і з віскам прымушаны былі ўцякаць.

– Ну, - усміхаўся вікінг. – Чаго кіснеш? Кашулю здымай!

- Як-небудзь без дапамогі, - адказала славенка. – Спіною хоць стань, бессаромнік.

- Баба бабай, - махнуў далонню Хальудан.

Хільд скінула прамочаную крывёй і потам кашулю, крыху паморшчыўшы твар ад болю. Доўгі парэз на баку струменіў крывёй.

- Добра секануў, - прамармытала ваяўніца, датуліўшы да раны кавалак тканіны.

- Ці ж даўно Хрорыку служыш, дзева? – пацікавіўся Хальудан.

- Хільд зірнула на яго шырокую спіну, на густую хвалістую салому валасоў і, крыху памаўчаўшы, адказала:

- А табе што за справа?

– Ды так, спытаў.

– Лічы даўно. Змалку ля грыдзяў гадавалася.

– Дзяўчо, ды з воінамі?

– Напэўна, доля такая. Чула я, норны вашыя, кожнаму чалавеку свой лёс ткуць. Вось і Доля з Нядоляй мне вырабілі. Але ж не такі, аб якім у смаркатых дзеўках-падлетках марыла.

– Як адказала б Мойра, - Хальудан павярнуў саламяную галаву. – На ўсё воля Божая.

Дзяўчына засяроджана займалася сваім бокам, таму не адразу звярнула на яго ўвагу.

- Эх, валькірыя, не тое робіш! – уздыхнуў датчанін. – Я і адгэтуль бачу, што прыпячы яе трэба, не то загніваць пачне. Замоцна цябе Вальгард.



У шэрых вачах славенкі мільганула замяшанне. Збянтжана прыкрыўшы далонямі малочна-белыя высокія грудзі, яна шпарка адвярнулася і крыкнула:

- Пайшоў прэч!

Хальудан спакойна ўсміхнуўся, і Хільд сціснула ад болю вусны, калі яго цвёрдыя, моцныя пальцы дакрануліся краёў раны і абмацалі яе.

– Ішоў бы вунь сваіх белатварых і белабровых маладзіц ціскаць, бессаромнік, - нязлосна мовіла ваяўніца.

– Іншым пакідаю, - шырока ўсміхнуўся Хальудан.

Яны доўга маўчалі. Датчанін прамыў рану і прыпёк яе распаленым прутом, які прынёс з кузні хлапчук. Хільд мужна вытрымала гэтую муку. Да крыві пракусіла вусны славенка, дыхала цяжка, пот цёк па бледным твары яе. Але ж перад лекарам гонар свой не страціла. Хальудан абкруціў ручніком яе жывот і ўважліва паглядзеў дзяўчыне ў вочы.

– *Я* бачыў шмат дужых, здаровых мужчын, якія вішчалі, як парсюкі і ад меншага болю.

Хільд вымучыла ўсмешку.

– Ну вось, - Хальудан устаў на ногі. – Пакуль вяселейка – загоіцца.

Хільд узяла яго далонь, шурпатую і цвёрдую, нібы жалезную, ад вясла і зброі.

- Паслухай, дан, – яна крыху памаўчала. – Ты быў да мяне ўважлівы і добры, хаця вікінгі з Селунда і загубілі маё жыццё, выклікалі ў душы нянавісць. Тваім мячом, а таксама дапамогай Перуновай здабыла я сваю волю! Не ведаю, чым і дзякаваць, а толькі дабро я помню...

Хальудан сціснуў яе далонь. Моцна сціснуў, да болю.

– Дзякаваць жадаеш? Дык дзякуй! Я адмаўляцца не буду! З гэтымі словамі, сціснуў вікінг яе ў абдымках і моцна ў вусны цалаваў. Адчуў датчанін, як рукі дзяўчыны ўпіраюцца яму ў плечы, адчуў пальцамі яе тугія, пругкія грудзі. Прагна піў сок яе вуснаў Хальудан. Але адштурхнула яна воіна! Дыхала цяжка і горача, твар прыгожы ад яго адвярнула.

– Не рабі так болей!

– Прабач, калі што не так, дзева-краса!

Маўчала Хільд, пазбягаючы ў вочы яму глядзець. А ў хуткім часе сядзелі яны за сталамі дубовымі. Мёд хмельны ды брагу спажывалі, чароўныя спевы Геста слухалі. П'янілі яны

кроў людскую. Не горай за эль і піва. Толькі песня яго цудоўнай арфы, і ні што болей, яшчэ выклікала скупую слязу з вачэй гэтых суровых людзей. Выхваляўся славуты Скегі Доўгі Меч паходамі паспяховымі ды славай ратнаю.

– Вось, - крычаў ён, размахваючы вялізным турыным рогам, апраўленым у срэбра. Расплюхваў па баках дурманлівы ліпец, які прывозілі з Гардарыкі* адважныя купцы –мараходы. – Вось, браты! Адабраў я дзеўку высакародную ў Харальда, сына Хальўдана Чорнага! Мне цяпер яна сыноў народзіць! Мне яна жонка! Мойра – красуня! Мне, а не Харальду-смаркачу! А хутка ўжо, пабрацімы, - што мядзведзь рыкаў Скегі хёўдынг, грукаючы кулаком па стале так, што трэскаліся моцныя дошкі моранага дубу! – Хутка жыцця я яго пазбаўлю! Дзіду яму ў гарляк, а не Нарвегію!

І крычалі ваяўнічыя мужы, ганьбу Харальду ўзносілі. Гуляў хмель па галавах буйных, кожны ваявац жадаў з ім. Не хацелі вольныя хёўдынгі над сабою ўладара, што пад сваю руку цяжкую і ўладную возьме іх, сваёй волі падпарадкуе. Не жадалі Харальдавай рукі магутнай на сваёй шыі адчуваць. І быццам запахла ў паветры крывёй і дымам. Луні, п'яны да брыдкасці, хапаўся за сваю страшную сякеру і выў нешта невыразнае і незразумелае голасам жудасным, раз'юшана вытарашчыўшы воўчыя вочы. Балявалі паўночныя ваўкі! Слаўна, дзіка балявалі!

Выйшаў у вячэрнюю прахалоду свейскі хёўдынг, буйную галаву асвяжыць, крыху пазбавіцца ад хмелю цяжкага. Заўважыў Хільд і паклікаў дзеўку. Побач са Скегі стаяў Освік Тоўсты, прыжмурыўшы масляныя вочкі. Уважліва свей на славенку зірнуў і мовіў:

- Ідзі ў хірд да мяне, дзева. Навошта табе Хрорык? А я не пакрыўджу. Ды і пойдзеш куды? Эрын выспа. Праўду табе, кажу, загінеш у чужой зямлі і справы ўсе!

Маўчала Хільд.

- Не кожнага на ладдзю сваю кліча Скегі, - басавіта падтрымаў яго Освік. – Ідзі, дзева, не раздумвай. Верыць хёўдынг, што прынясеш ты яму шчасце баявое. Зброю ў руках трымаць можаш. Умельства тваё бачылі. Ну як, ваяўніца? Згода?

---

** **Гардарыка** – літаральна "краіна гарадоў" – скандынаўская назва Русі.*



Але адказала славенка скандынавам:

- Слаўныя вы сваёй доблесцю, мужы ўрманскія, ды толькі я служу свайму кнёзу.

- Адказ, воіна годны.

Пастаялі крыху вікінгі, папілі прахалоду эрынскай ночы і растaлі ў гарачым марыве чадных паходняў, у душным, густым паветры, насычаным водарам хмельных напояў, дзічыны, моцным пахам потных, даўно нямытых целаў. Хільд жа стаяла і глядзела ў цёмна-фіялетавае неба, дзе ноч ужо паліла халодныя паўночныя зоркі. З цемры з'явіўся Хальудан, крануў дзеву за руку і спытаў.

– Чаго сумуеш? Пакрыўдзілі чым?

Хільд паціснула плячамі і аблізала перасохлыя вусны.

– Я пачуў, як ты адмовіла хёўдынгу. Ён адважны і ўдачлівы правадыр. Хірдманы ганарацца, што ходзяць з ім у паходы. Багі любяць адважных!

Бліснула сталь у вачах славенкі.

– І ты падумаў, дан, што разам з вамі на драконагаловай ладдзі кроў я людскую ліць буду?

– Кроў ліць – справа воіна, - сурова адказаў вікінг. – А мы воіны. Няўжо не забівала?

– Гэта іншае, Хальудан. І досыць пра кроў. Кроў, гэта кроў. Толькі свая каштуе даражэй.

Хальўдан правёў цвёрдымі пальцамі па яе валасах, па твары.

– Хільд, - ён гаварыў шэптам. – Хільд, задужа суровае імя для такой красуні.

Хільд усміхнулася.

– Так клічаце мяне вы – скандынавы.

– Ну, а як жа клічуць цябе ў грыдніцы Рандвера ярла?

– А тое цябе не тычыцца! – Хільд адказала рэзка.

Доўга сядзелі яны моўчкі, гледзячы на халодныя, чароўныя зоркі. Таемна мігцелі яны ў цёмнай бездані нябёс ірландскіх. Лілі на зямлю мёртвае, прывіднае святло. Туманная смуга паўзла ля восецей, на стайні храбусцелі аўсом коні. Са скалы чуўся цудоўны спеў Геставай арфы. Подых ветру даносіў цяжкі грукат прыбою. Дыхала мора. Зямлёй авалодала прахалода. А Хільд і Хальудан слухалі цішыню. Дзяўчына ўздыхнула. Вікінг зірнуў на ваяўніцу.

– Не сярдуй. Але я не разумею, чаму ты...

– Калі я была яшчэ смаркатай дурніцай, вось тады і ўбачыла каля нашага берага караблі данаў. Доўгія, чорныя і драпежныя. Вятрылы ў палосах чырвона-белых. Тады мне год сем было. Жудасна выскаляліся змяіныя морды. Крыві праглі. Душыла іх смага крывавая! З Селунда прывёў іх Рагнар Які Смяецца. Страшэнным вытам сякеры быў твар яго рассечаны. Зубы хёўдынгу таксама сякера павыбіла, шнары рот перакрывілі, вось і ўхмыляўся марскі конунг* заўсёды ўсмешкай жахліваю скрозь сівую бараду. Жорсткі і люты правадыр быў. Мы ведалі яго як Рагнара Крыважэрцу. Дзве ладдзі поўныя воінамі, якія прагнуць лупу**, крыві, жанчын і славы. Разлютавана змагаліся з находнікамі заморскімі мужчыны нашы. Да апошняй кроплі крыві біліся, ды дзе ім было! Усіх пасеклі даны. З рогатам жанчын лавілі, авалодвалі імі, а пасля – жываты рэзалі. Дзяцей жа дзеля забаўкі на дзідах уздымалі. Не прамінуць і мне долі той, не з'явіся Рацібор ваявода з харобрамі. За справай крываваю неспадзеўкі заспеў ён датчан. Жорсткая і лютая сеча была – насмерць рэзаліся! Літасці нікому не было, ды ніхто і не прасіў. Усе паляглі даны, у Валгалу прасяклі сабе шлях. Але і Рацібаравых ваяроў жменя засталася. Сам ваявода руку страціў. Рагнар адсёк! А мяне зарумзаную, кмецi з хлява выцягнулі. Дачка тады ў Маўчуна памерла. На мяне, казаў ваявода, тварам ды постацю падобная была. Вось і ўзяў ён сіроту пад апеку, - Хільд цяжка ўздыхнула.

Нібы ў ліхаманцы зіхацелі яе вочы, блукала ў іх глыбіні святло месяца.

– Ненавідзець пачала я данаў. Усіх, хто ў Паўночных краінах зброю носіць, ненавідзела. Помсты прагла. Калі мне мінула ўжо за пятнаццаць зім, я забіла свайго першага вікінга – стралою ў твар яму трапіла. А Рацібор – ваявода бацькам мне стаў. Ён тады Вадыме Харобраму служыў. А як пачалі Рурык з Вадымам Ладагу дзяліць – падзяляць – разлад і сварка здарыліся, а там і кроў лінула. Счапіліся з Рурыкавымі варагамі мужы Вадымавы. Загінуў уладар Ладагі, і пасад Рурыку застаўся. Моцная рука ў князя. Весей прымучваць*** пачаў, хоць і заўжды з імі славене ў згодзе жылі! Чудзінаў, а таксама і водзь пад сваю руку ўзяў. Паплечнікаў Вадымы, хто яму

* ***Марскі конунг*** – *правадыр вікінгаў.*

** ***Луп*** – *ваенная здабыча.*

*** ***Прымучыць*** – *скарыць, падпарадкаваць.*



служыць не жадаў, знішчыў. Крывёю цякла стольная Ладага. Рацібор лепшы з воінаў быў. Галава сівая – розуму шмат, рука адна, а ў сечы першы. Прасіў у грыдніцу сваю ваяводу Вадымава варажскі конунг. Не жадаў Рацібор – супрацівіўся. Але ж патрэба ў ім Рурыку была – даны заядалі, ды і з Ноўгарадам спрэчка ішла. У рэшце рэшт згадзіўся Рацібор, паслухаў. Высока ў грыдніцы сеў – не ніжэй за Вольга. Вось і гадавалася я пры кмецях. Крыху пазней, Рурык сеў у Ноўгарадзе. Стары цяпер кнёз, а ўсё яшчэ той сокал. Вось такія дзеі адбываліся ў Ладазе. Любіў мяне Рацібор Маўчун, дужа дужа любіў. Толькі я яму ўцехай была. Сам мяне зброяй валодаць навучаў. Адна ў яго я засталася. Увесь свой час вольны побач каля мяне знаходзіўся, - дзяўчына зірнула на Хальудана вільготнымі вачамі. – Не ведаю, навошта табе ўсё гэта кажу. Крыві вашай прагла, помсты жадала, неўтаймавана шукала яе. За маці, за бацьку, за братоў – за ўвесь род. За ўсю кроў і беды, якія нясе меч вікінга. А цяпер вось боль гэты даўнейшы табе выліваю. Дзіўна, - яна змахнула пальцам слязу з павекаў.

– Дараваць крыўду лягчэй, чым ненавідзець усё жыццё.

Хільд падняла на яго позірк.

- Рацібор таксама гэта казаў, - крыху памаўчаўшы, дзяўчына дадала. – Мяне, вікінг, маці Надзейкай клікала...

- Прыгожае імя, - махнуў галавой датчанін.

Мігцелі далёкія зоркі. Ліў на зямлю празрыстае прывіднае святло ўладар ночы месяц. Начны халадок варушыў валасы датчаніна і славенкі. Па селішчу пабрэхвалі сабакі. Сціхаў шум –гул ды гоман сярод баляўнікоў. Засыпалі воіны тут жа, за сталамі. Апускалі на грудзі магутныя свае буйныя галовы, ад напояў моцных цяжкія, і волатаўскі храп разносіўся па доўгім доме.

- Ідзі, вікінг, адпачні да раніцы, - мовіла Надзея Хальудану. – Адна пабыць жадаю.

Хальудан крыху памарудзіў, падняўся, кіўнуў галавой залатавалосай і прамовіў:

- Ну, Хільд-Надзея, бывай. Я на стайні начаваць буду. Там табе таксама месца падрыхтавалі. Я загадаў.

Славенка ўдзячна кіўнула. На паўдарозе спыніўся Хальудан.

- А над прапановаю Скегі падумай. Заставайся.

З гэтымі словамі ён знік у цемры. Дзяўчына цяжка ўздыхнула. Думкі бязладна круціліся ў галаве, сонна натыкаліся адна на другую. Успаміны нахлынулі на яе, павеяла цяплом Айчыны. Перад вачамі з'явіўся сівабароды ўскалмачаны Рацібор, маладыя і вясёлыя хлопцы – грыдні. Усе знаёмыя, родныя, свае. Дрымота павольна авалодвала дзяўчынай. Надзея прыплюшчыла вочы, і ўзнік перад ёй мужны, сурова-прыгожы твар Хальудана. Дан усміхаўся ёй, гаварыў нешта добрае і ласкавае. Але неўзабаве думкі ваяўніцы перапынілі гнеўныя выкрыкі:

- Прэч! Прэч ад мяне, нарманскі вылюдак! Надзея пазнала Мойру. Гэта быў яе голас.

- Ну-ну, мая птушачка. Досыць жа брыкацца, мая козачка. Няўжо пакрыўдзілася, птушачка, што не адолеў я хмелю і не дзяліў з табой ложка ў нашу першую ноч? Скегі быў дужа п'яны, і яго рогам грукатаў на ўсё селішча.

- Нават і не думай, што гэтае праклятае пойла даражэй мне, чым ты, мая непараўнальная маленькая норна. Зараз я выпраўлю сваю памылку!

- Лепш смерць! – усклікнула ганарлівая дачка Сіварда. – Ніколі мне любы ты не будзеш!

- Калі ўсё сумуеш па смаркачу Харальду, то я табе так скажу. Годзе так прыгнятаць сябе з-за таго, хто ўжо, лічы, мярцвяк! Хутка табе ў падарунак яго галава будзе!

Хёўдынг лёгка цягнуў за сабой дзяўчыну. Гучна рагатаў і крычаў Скегі, што пакахае яго прыгажуня Мойра.

На шырокае ложка, засланае мядзведжымі і рысінымі шкурамі, кінуў вікінг дзяўчыну. Сарваў з сябе залітую брагай кашулю і цяжкім, магутным целам наваліўся на яе. Трэснула сукенка пад моцнымі пальцамі свейскага вікінга, слязамі пасыпаліся на падлогу каралі з бісеру, прывезеныя купцамі з далёкага Міклегарду*. Смяяўся хёўдынг, калі кусала яго за рукі ганарлівая Мойра, твар яму драпала. Рагатаў Скегі, адчуваючы, як уздрыгвае пад яго далонямі мяккае дзявочае цела, уздымаюцца пяшчотныя грудзі. Зацікаўлены барацьбой, адурманены хмелем і блізкасцю жанчыны, не заўважыў, не пачуў свей, як паўстала за спінбю яго прывідная постаць славенкі. Не стала яна злога ворага мячом у спіну біць, але, сарваўшы са сцяны круглую ірландскую тарчу, выцяла ёй

**** Міклегард** –Канстанцінопаль.*



хёўдынга па патыліцы. Моўчкі ўваткнуў ён твар у рысіную шкуру. Галава яго вогненная крывёй заструменіла. Дастасаваўшы ўсе сілы, Надзея сапхнула цяжкае цела нармана з перапалоханай Мойры.

- Не пужайся, князёўна, - шапнула яна. – Калі не любы ўрманін гэты – уцяком! Калі воля Перунова на тое будзе! Можа і выратуемся.

- Уцяком, уцяком жа, сястрыца! – ціхенька адказала Мойра, хапаючы ваяўніцу за далоні. – Жыццём сваім зноў дзеля мяне рызыкуеш ты!

- Годзе! – спыніла яе славенка, накідваючы на плечы саксонкі цёплы суконны плашч. – Хадзем!

Нячутна праслізнулі яны за дзверы і зніклі ў цемры.

Доўга беглі дзяўчаты пагоркамі і далінамі. Цяжка дыхалі, вусны кусалі, падалі ад зморы, апошнія сілы трацілі. Пачало світаць. Золак успеніў барвай аблокі, і пачула чуйнае вуха славенкі сабачы брэх. Злосна брахалі вялізныя эрынскія ваўкарэзы. Услед ішлі. Горкая ўсмешка кранула вусны Надзеі.

- Мусіць, такі наш лёс, князёўна. Сустрэнем жа яго з годнасцю!

На пагорку з'явіліся лютыя сабакі, а ўслед за імі і вершнікі на моцных шыракагрудых конях. Славенка агаліла меч – падарунак Хальудана.

- Слухай мяне, Мойра, - Надзея павярнула расчырванелы твар да дачкі Сіварда. – Скегі - слаўны воін. І, можа будзе табе не самым горшым мужам. Шмат каму з жанчын выпала і больш горшая доля. З часам, можа, ты сапраўды пакахаеш яго. Гэтага карміцеля груганоў! Адзін Пярун ведае, які лёс чакае цябе ў Рурыка. Што ён табе рыхтуе. Кнёз чалавек жорсткі, як і ўсе валадары, а Хенгіст сакс у Валгале Водэна: І ніхто не абароніць цябе ў варагаў, калі будзе на тое патрэба. А цяпер, бывай назаўжды!

- Вялізны, калматы ваўкарэз, вышчарыўшы іклы, кінуўся на грудзі славенкі, але яна спрытна секанула яго па магутнай галавіцы. Другі звер грудзямі на меч трапіў, астатніх жа паразганялі бізунамі вершнікі. Чорны, злосны конь з крывавым вокам, узняты на дыбкі, пырскаў пенай і хроп. І сядзеў на ім Скегі Доўгі Меч. Змрочны і хмуры быў хёўдынг. Галава пад анучай. І плямы на ёй рудыя.





- Зухавата мяне ашукала, спрытна, дзеўка славенская, - злосна ўсміхнуўся свей, саскочыўшы з каня. Яго доўгі меч з лязгатам вылецеў з похваў і зазіхацеў у промнях ранішняга сонца. Шырынёю з далонь вялікага мужчыны, агнём палымнела лязо, скрэсленае рунамі. Жудаснае імя меў гэты клінок. Жаночым плачам называў яго Скегі.

- Ну што, валькірыя. Як смерць сустракаць будзеш?

- Як жыла, так і сустрэну! Мне губляць няма чаго. Вы, сабакі ўрманскія, даўно ўсё адабралі! А вось табе, хёўдынг, ці не шкада ў Валгалу – палац Одынаў адыходзіць, жонкі маладой удосталь не нацалаваўшы?

- А дзеўка на язык вострая! – рагаталі вікінгі.

- Эх, баба, дарэмна гінеш, - прамармытаў Скегі.

- Куды ўцякаць хацела?

- Калі розуму з дзяцінства няма, то і да сівізны не прыдбаеш, - мовіў Х'яльв.

Надзея краем вока заўважыла Хальудана. Змрочны быў малады воін, глыбокія блакітныя вочы сур'ёзна паглядалі на яе. Цень ляжаў на мужным твары вікінга.

"А ці не кахае сапраўды, мяне гэты дан"? – гэтая думка шалёна ўдарыла дзяўчыне ў галаву. – "Няўжо праўда? Ці мо ўявіла сабе, бог ведае што? Ціха ты, дурніца. Трэба ж, якія думкі перад смерцю!"

- Добра, Скегі, пагаманілі і досыць! Выпраўляй яе хутчэй да продкаў! – мовіў Орш – Ды назад едзем. Пасля мядоў мне галава горай за тваю баліць!

Заўсміхаліся хірдманы. Усміхнуўся і хёўдынг, наносячы першы выт. Забразгала зброя. Узлятаў смяротны клінок вікінга і рэзаў паветра вогненным смерчам. Мужна адбівалася Надзея, але не адолець ёй гразнага свея! Дакладным вытам нарман выбіў зброю з навярэджаных рук славенкі. Ганарліва ўзняла галаву дзева і апошняга выту чакала. Але не пажадаў сячы вікінг бітую. У вочы ёй зазірнуў, размахнуўся і моцным вытам у твар паваліў дзяўчыну ў расу ранішнюю. Заструменіў твар яе крывёю.

- Не смей дакранацца яе, нармандскі воўк! – наперад ступіла Мойра. – Дар мне зрабі на вяселле, твая буду, калі выканаеш! Жыццё ваяўніцы гэтай прашу! Выканай хёўдынг! – Ты і так мая! – раўнуў Скегі. Заўтра, красуня мая, чакае цябе цудоўны падарунак! Відовішча, якое, мяркую, дужа цябе



пацешыць!

Раз'ятраны свей люта зірнуў на распасцёртае цела Хільд.

- Пацешу вас, пабрацімы! На досвітку дзеўку сабакамі зацкую! А табе, Мойра, краса-ненаглядка мая, гэта навукай будзе!

- Гэй, Турфін! – крыкнуў хёўдынг маладому, плячыстаму хірдману. – Забяры на каня гэтую славенскую гадзіну!

Нічога болей не сказаў раз'юшаны правадыр. Хвацка ў сядло ўскочыў і каня сцебануў. Турфін моўчкі скруціў паланянку, жорстка заламаў рукі за спіну і кінуў дзяўчыну ўпоперак каня.

- Не плач па мне, князёўна, - мовіла Надзея. – Смерць – доля кожнага воіна!

Але цяклі слёзы па бледным твары саксонскай дзевы. У душы яе гарачы агонь палымнее – агонь помсты, гнеў люты мігціць у бездані вачэй яе чароўных. Варушацца вусны – услед хёўдынгу пагрозы дасылаюць. Завярнулі хірдманы коней сваіх шалёных і пагналі іх услед правадыру.

Кусаў губы Хальудан, гледзячы, як уздрыгвае цела дзявочае, упоперак каня жорстка кінутае. Шэрым стаў твар маладога воіна, пацямнелі вочы яго светлыя, і ўспыхвалі ў іх нядобрыя іскры. Гнеўныя іскры, з якіх лютае полымя ўзгарэцца. І абпальвала сэрца яго гэтае полымя – полымя кахання. Упершыню дакрануліся сінія языкі агню гэтага да гордага сэрца дана, вогненым смерчам абпалілі душу. Пакахаў ён дзеву славенку, але ж таго прызнаць не жадаў. І таму яшчэ горай пакутаваць прымушала яго зеленавокая Фрэя*.

Надзею кінулі ў сырую цемру вязніцы. Прыпёршыся спіной да падгнілых, аслізлых бярвенняў, пакрытых плесенню, дзяўчына глыбока ўдыхала душнае, насычанае вільгаццю паветра, спрабуючы суняць млосць. Боль гуляў па целе, круцілася галава. Надзея асцярожна абмацала апухлы твар і рассечаную шчаку.

- Крыху мацней, і мазгі б прэч! – прамармытала яна, паморшчыўшы ад болю лоб. – І якога ляду было саксонскую князёўну з-пад свея выцягваць? Куды ўцякаць? Не сягоння – заўтра, а ўсё роўна, злавіў бы пёс руды, - нягучна разважала Надзея. – Але ж, на ўсё воля Перунова. Да канца кнёзу

*__Фрэя__ – скандынаўская багіня кахання.*

служыла,- узбадзёрвала сябе дзяўчына. – А за смерць маю лютую, нагадае бацька Рацібор урманам – людажэрцам.

– Што мармычаш там, вядзьмарка славенская? – крыкнуў зверху малады Турфін, якому загадаў Х'яльв ля поруба вартаваць. Вядома ж, ведзьма! Злы быў хірдман. Усе ліпец ды эль п'юць – гуляюць, а яму - стой. Але ж не абышлі ўвагай прыгожага воіна дзяўчаты. Пітва хмельнага паднеслі, вось і кепска ўжо на нагах трымаўся свей.

- Ну, чаго шэпчаш? – грозна паўтарыў ён. – Цябе пытаю!

Надзея падняла вочы і крыкнула:

- На цябе, апойца, пагібель клічу!

Свей зарагатаў.

- Лепш сваіх багоў малі, каб сабачых іклоў табе мінуць дапамаглі!

З гэтымі словамі хірдман адхіліўся ад бервяна і знік у цемры. Над галавой дзяўчыны яшчэ доўга звінеў яго смех. Надзея ўздыхнула. Ад упамінання таго, як загадаў пакараць яе смерцю хёўдынг, жудасна зрабілася дзяўчыне. Але адшукала яна сілы не думаць пра долю сваю горкую. Думкі зноў пацяклі павольна і роўна. Калі няма выйсця і лёдзістае дыханне смерці ўжо непрыемна халодзіць скроні і ад яго стыне кроў, мужны духам чалавек заўжды сустрэне сваю смерць з годнасцю. Паміраюць адзін раз. Надзея сядзела спакойна, і ў вачах яе не было жаху. Успаміналіся родныя і дарагія сэрцу людзі, павольна плылі перад вачамі мілыя вобразы родных мясцін. Сівы, суровы Маўчун, знаёмыя твары грыдзяў. Надзея заплюшчыла вочы, уздыхнула, убачыўшы постаць Рурыка. Высокі, жылісты, з пасівелымі валасамі, арлiным носам і лёдзістымі, пранізлівымі вачамі, князь нагадваў ёй старога каршуна. Надзея заўсёды яго пабойвалася. Ды і Рацібор ваявода варажскага правадыра не вельмі любіў, ці за смерць Вадымаву, ці за што іншае, але служыў яму верна і рупліва. Смерць Вады-конунга, як клікалі Вадыму скандынавы, назаўсёды засталася ў памяці старога. Надзея адчувала гэта. Часта клікаў Рурык баярына сіваба-родага ў грыдніцу нараду весці. Думкі дзяўчыны плаўна перацяклі да Хальдана. І закалацілася сэрца дзявочае, нібы птушка ў сіле. Добры і ласкавы быў да яе датчанін. Аднак жа не за тое сэрцайка ўздрыгвала ды ўсякія думкі ў галаве мітусіліся. – Няўжо Леля* і на мяне чары насылае? – выдыхнула Надзея. –

* **Леля** – *славянская багіня кахання.*



Ды не, глупства. Няма чаго нават варажыць, – душу перад смерцю трывожыць.

Калі запунсавелі на захадзе аблокі, і вячэрні цень заблукаў па зямлі, цяжкі сон – забыццё авалодаў дзяўчынай. Холадна было ў гнілой вязніцы, але вымакла кашуля на целе Надзеі. Стагнала яна, ворочалася ў ліпучай цемры, дыхала цяжка, перарывіста. Мабыць, і ў гэтым жудасным месцы жыў Жмара*, ды толькі вельмі злосны.

Прачнуўшыся, палонніца абцерла з чала ліпкі пот. Ярка ззяў у начным небе ўладар ночы, струменіў на сонную зямлю таямнічае святло. Зіхацелі зоркі, зазіраючы ў змрочную вязніцу Надзеі. Над порубам гучала п'яная песня вартаўніка. Дзікая, поўная тугі і трывогі, узносілася яна ў цемру неба. Дзікая, воўчая песня. Па голасу дзяўчына зразумела, што гэты п'яніца змяніў Турфіна.

- Хтосьці з горцаў скуголіць, -услых падумала славенка. – як воўк вые. – Яна ўсміхнулася. – Відаць, не жадае мяне хёўдынг другі раз лавіць. Але не дужа тут і ўцячэш, - яна акінула безнадзейным позіркам аслізлыя сцены. – Мабыць, стары Ліс асцярожнічае. Раптам, спявак змоўк і праз імгненне, асыпаючы гнілую труху з бярвёнаў, у цемру поруба спусцілася драўляная драбіна. Мільганула ў святле месяца прывідная здань і пачуўся голас Хальудана:

- Вылазь жа з гэтае магілы, дзева Валгалы! Пагніла дзянёк і годзе!

Яшчэ не верачы ў цуд, Надзея разгублена ўсміхнулася і стала ўзлазіць наверх – прэч з няцтва**!

- Чаму ты дапамагаеш мне, дан? Чаму?

Вочы вікінга зіхацелі ў святле месяца, нібы каштоўныя камяні – самацветы. Рукі моцна сціснулі дзявочыя плечы, і адказаў воін:

- Кахаць трэба такіх, як ты, Надзея – Хільд! І я пакахаў цябе, валькірыя! Ты заваявала маё сэрца.

– Калі Скеглі даведаецца, ён заб'е цябе, Хальудан, - усхвалявана мовіла славенка.

- Пляваў я на Скегі! – Хальудан, як воўк, выскаліў зубы. – Я нікога не баюся!

- Вось як? – прагучаў раптам насмешлівы голас, і з цемры,

* ***Жмара*** *– дамавік, які ў сне душыць чалавека.*

** ***Няцтва*** *– няволя.*





накульгваючы, выступіў Вальгард, апіраючыся на аголены меч. – З-за гэтай славенскай гадзіны ты гатовы здрадзіць свайму хёўдынгу? Добры вікінг! – Вальгард рассмяяўся. – Калі б была яна фінка*, я паверыў бы, што гэтая дзеўка зачаравала цябе...

– Змоўч! – перарваў яго Хальудан – Ці я вырву твой злосны язык!

Вальгард пагардліва ўсміхнуўся.

- Хвіліна часу табе на апошні пацалунак, смаркач. Скегі жорстка карае здраднікаў!

Хальудан хутка зірнуў дзяўчыне ў вочы і выхапіў з-за поясу сваю ўлюбёную францыску, імя якой – Што Забівае.

- Уцякай, Надзея, ратуйся. Каля хвойніку, што за селішчам, чакае цябе конь і меч. Убачыш сем вялізных хваін – там! Ідзі!

- А ты? Ты..., - дзяўчына схапіла яго за руку.

Вікінг нахіліўся і пацалаваў яе ў вусны. У гэты момант Вальгард узмахнуў зброяй і накіраваўся да іх. Хільд заўважыла, што ён абапіраецца на палку, каб меней трывожыць параненую нагу.

Сякач пхнуў славенку і павярнуўся да ворага.

- Калі таго пажадаюць норны, мая будзеш. А зараз, валькірыя, ідзі!

- Уцякай, Хільд, уцякай! Але не пазбегнуць табе сабачых іклоў! – Вальгард жудасна зарагатаў.

Нават паранены, ён быў даволі небяспечным байцом. Надзея атрымала над ім верх толькі дзякуючы апякунству Высокага**, ды яшчэ таму што не жадаў калечыць сваю будучую наложніцу слаўны воін. Навошта яму раба знявечаная?

- Кліч жа на дапамогу, Вальгард. І ў цябе будзе час пабыць жывым яшчэ трохі, - з пагардай мовіў Хальудан.

Але ўсміхнуўся вораг дзёрзкім словам.

- Я і аднаногі прымушу цябе кувікаць, як свінню пад нажом, смаркач. А твая славенка не ўцячэ далёка. Я яшчэ пацешуся з ёй!

Хальудан кінуўся на супраціўніка. Вальгард чакаў яго з паднятым мячом. З ляскам сутыкнулася зброя. Абодва яны былі

* ***Фінка*** *- усіх фінаў скандынавы лічылі моцнымі ведзьмакамі.*

** ***Высокі*** *– Одын.*



славутыя воіны. Абодва гарэлі жаданнем забіваць. За адным было каханне, за другім жа - горыч паразы і прага помсты. Сякера цяжэй за меч, але дужа спрытна валодаў ім Вальгард – круціў меч, нібы маланку. І ўжо на грудзях кашуля Хальудана набрыняла крывёй. Але скураныя штаны Ірландца таксама прамоклі ад крыві – адкрылася рана. На бразгат зброі збягаліся гулякі, начале з маладым. І вось, секануў Вальгард ворага, цэлячы ў галаву, але ўпаў на калена малады дан і з сілай пхнуў яго сякерай у жывот. Сагнуўся ад болю Вальгард. Адчай жа прыдаў моц яго ворагу. Ускочыў Хальудан і бурай наляцеў на Ірландца. Магутным ударам меч з яго рукі выбіў. Усміхнуўся Вальгард і спакойна ў вочы пераможцу зірнуў.

- Твая ўзяла. Бі!

Узмахнуў Хальудан сваёй зброяй страшнай і Што Забівае з хрустам урэзалася ў грудзі Вальгарда, кінуўшы на зямлю яго ўжо мёртвае цела. Запырскала кроў траву, змяшалася з расою сцюдзёнай.

- Што здарылася тут?! – рыкнуў падаспеўшы Скегі. Вырваўшы сякеру з цела Вальгарда, Хальудан скрываўленай далонню адкінуў з ілба мокрыя валасы.

- Ён выпусціў славенку, правадыр.

З горла свея вырваўся хрыплы стогн.

- Чаму ж я адразу гэту ведзьму Эгіру не аддаў?!

- Вось якое шчасце яна мне прынесла! На конь, пабрацімы. Шалом золата таму, хто яе звязеніць! Я сам урэжу ёй крывавага арла*!

Скегі ўважліва зірнуў на Хальудана.

- Добрым воінам быў Вальгард. Я любіў гэтага дурня. Але вось ён забіты. Паў ад твае рукі, Сякач. Што ж, сустрэнемся ў Валгале. Я задаволены, што ў хірдзе маім ёсць такі баяр, як ты, - хёўдынг паляпаў яго па плячы цяжкай рукой. – Ірландзец і паранены даволі сур'ёзны супрацiўнік. Але, мабыць, удача пакінула яго. Я ўявіць сабе не мог, што славенка пераможа яго. Вось баба! Але, сцеражыся! У Вальгарда шмат пабрацімаў і могуць не пажадаць яго сваякі віры**, але крыві забойцы!

- Вальгард першы агаліў зброю, - змрочна адказаў Хальудан, травой абціраючы лязо Што Забівае.

* ***Урэзаць крывавага арла (крумкача)*** *- жорсткае пакаранне смерцю, калі асуджанаму на спіне рассякалі рэбры і вымалі лёгкія і сэрца.*

** ***Віра*** *– плата за забойства, ці якое іншае злачынства.*

- Забіў і забіў!- яшчэ раз ляпнуў хірдмана па плячы Скегі і зноў крыкнуў:

- Хутчэй жа, хлопцы, хутчэй! Пакараем ведзьму славенскую! Згубіла яна славутага вікінга! Хуткая і жудасная кара чакае яе!

- Жанчыны, жанчыны, - мармытаў у бараду стары Х'яльв. – Усе беды ад іх. Як заспеў ты яго ля вязніцы?

- Воін усміхнуўся, засоўваючы сякеру за пояс.

- Гэтая ноч, Х'яльв, выклікае прыхільнасць да кахання. Я вяртаўся са стайні, калі пачуў ля поруба гаворку. Гэта былі Вальгард і славенка. Ён аглушыў п'янага каледонца і выцягнуў Хільд з ямы, каб даць ёй уцячы. Вальгард кінуўся на мяне з мячом і я забіў яго. І яшчэ, Х'яльв, у руках славенкі я бачыў свой меч. Пэўна, Вальгард, ці хто з яго людзей, выкраў маю зброю. Для чаго, думаю, тлумачыць не трэба?

- Не трэба, - усміхнуўся Х'яльв і ўздыхнуў. Добра, што пры табе была твая сякера.

У твар Хальудана глядзелі мудрыя, вострыя вочы старога свея, але дан абыякава вытрымаў гэты пранізлівы позірк, які быў здольны прапаліць душу і спакойна адказаў:

- Яна заўсёды пры мне. Што Забівае належала яшчэ майму вялікаму дзеду – славутаму вікінгу. З рук бацькі майго атрымаў я гэтую слаўную зброю. А пасля ён памёр ад ран. І няма ў мяне больш надзейнай сяброўкі!

Стары паківаў ускалмачанай галавой.

- А мне здалося, што ты пакахаў гэтую дзеўку, а не Вальгард.

- Гэта табе толькі здалося, Х'яльв, - адказаў Хальудан і накіраваўся прэч.

Ліс праводзіў яго вачамі. Усміхнуўся, махнуў далонню.

- Мусіць, здалося.

Ульф Мараход стаяў на носе "Марскога Змея", і салёны паўночны вецер шалёна развяваў цяжкую львіную грыву яго валасоў, колеру старой медзі. Лёдзіста – сінія, сцюдзёныя, як лёд на горных вяршынях, вочы хёўдынга азіралі шэры далягляд, дзе збіраў хмары Тор-грамавік. Як і ўсе скандынавы, высокі быў Ульф ды на дзіва ладна скроены. Плечы магутныя – плечы воіна, а стан тонкі – дзявочы. Цякла ў жылах хёўдынга гарачая кроў ваяўнічых селундскіх ярлаў. Высакародныя і велічныя рысы яго



твару ўпрыгожвалі старыя рубцы, атрыманыя ў жорсткіх сечах. Найбольш глыбокія з іх – на шчацэ і голеным падбародку, рабілі суровым лік славутага воіна. Болей за паўсотні адборных малайцоў – байцоў, адчайных, на ўсё здольных ваяроў, ішлі за ім здабываць гонар баявы, і далёка ўжо засталася Нарвегія. Пакінулі яны родныя фіёрды, прагныя да славы і лупу. Ішлі ў далёкі паход за сваім магутным правадыром шукаць славы ў сечах лютых ды здабычы багатай на берагах чужых. Прасоленыя морам, штармамі бітыя, шмат бітваў пабачылі гэтыя вечныя бадзягі. І не было для іх лепшай музыкі за трубныя гукі баявых рагоў, грукат сталі, спеў мора, ды смяротныя крыкі ворагаў. Пад шэпт хваляў пра Лебядзіную дарогу і славу, якая чакае іх у паходзе, спявалі цяпер вікінгі за спіною грознага правадыра – бярсерка*.

- Дзеўка, намі на Эрыне падабраная, з пруга** вярнулася, апрытомнела. – Хадзем, зірнеш, - гуў гігант.

Ульф Мараход кіўнуў і накіраваўся на карму лёгкай спружыністай хадой. Плаўнымі і непрыкметнымі былі рухі яго моцнага гнуткага цела. Пад кашуляй, шырока расхінутай на грудзях, бронзавых ад загару і ветру, угадваліся магутныя мускулы. Ля борта дракара Лют Золатавалосы – малодшы брат Ульфа, са скуранога кубка паіў русавалосую дзяўчыну.

- Лют, а ты добрая нянька, асабліва для маладзенькіх дзевак, - зарагатаў стары Хадгар. Дзяўчына ўздрыгнула і папярхнулася. Усміхнуўся Ульф, прысеў побач і паляпаў меншага па плячы, гледзячы на дзяўчыну.

- Ты, красуня, чыя будзеш? – папытаў важар.

- Ад каго ўцякала – хавалася?

Халодныя вочы яго разглядалі дзявочы твар.

- Не пужайся, дзева, адкажы хёўдынгу, - мовіў Лют – Ніхто не пакрыўдзіць цябе.

- А чаго мне палохацца, урманін, - ухмыльнулася

---

** **Бярсерк** – "мядзведжая кашуля" – Раз'юшаны воін, якога ў баі ахоплівае баявое шаленства. Ён не адчувае болю, кідае вобзем сваю зброю, кусае і грызе сваю тарчу і дужа люта змагаецца ў сечы. Лічыцца, што берсеркі ўжывалі грыбы Одына – мухаморы, ад чаго і вар'яцелі ў патрэбны момант старыя воіны, быццам героі са старажытнай сагі ледзяной Поўначы!*

*** **Пруг** – у старажытных славянаў месца між светам мёртвых і жывых.*

славенка. – Не пужллівая.

- Славенка? – нахмурыў сівыя бровы Хадгар.

- Як зваць будзем? – пацікавіўся Ульф.

- Хільд, заві.

Хеўдынг кіўнуў галавой.

- Славенка, значыцца, - мовіў Лют. – А на Эрыне што рабіла? Адказвай жа, а то за язык цягну. Ці мовы не разумееш?

"Трэба ж, жывая яшчэ!" думала Надзея, пазіраючы на нарманаў. – Даны! Вось жа доля мая горкая. З мядзведжых кіпцюроў ды ў воўчыя іклы! Хеўдынг іхні яшчэ больш люта за Скегі выглядае. Дарэмна, што прыгажосць яго мужная, уся морда вунь у шнарах і позірк што лёд. "Пяруне ды Магура – ваяўніца, не дайце цяпер загінуць!" – думкі, быццам шалёныя коні, мітусіліся ў галаве дзяўчыны. – "О, багі магутныя, як жа галава баліць"! – славенка міжвольна кранула валасы, адчуўшы пад пальцамі заскарузлую кару крыві.

- Загнала ты каня, - па дацку мовіў Лют і хмыкнуў, назіраючы, як Надзея балюча моршчыць твар. – Калі ён зваліўся пад табою, ты з сядла вылецела, ды з усяго маху аб вялізны валун грымнула. Хакан знайшоў цябе, калі мы на Эрыне ваду бралі.

"Вось яно што. А смаркач гэты на хеўдынга падобны. Толькі валасы не медзь, а золата. Амаль што хлапчаня, а вочы воўчыя. О багі светлыя, ці не ляжыць зараз Хальудан, працяты мячом Вальгардавым? Калі здагадаецца Скегі свей, люта хлопца пакараць загадае. Скегі!" – хваля барвовага гневу захліснула славенку. – "Скегі, цмок крывавы. Чакай жа пагібель на сваю галаву! Аж да здыхаты!"

У шэрых вачах ваяўніцы, нібы ў коміне шуганула зыркае полымя помсты, прымусіўшы Люта нахмурыцца.

- Анямела дзеўка гэта, ці як! – страціўшы цярплівасць, рыкнуў Хадгар.

Вялізнай пяцярнёй ён згроб дзяўчыну за каўнер і страсянуў, як кацяня. Надзея войкнула ад перапуду і галаўнога болю, але зараз жа знянацку нават для сябе самой, выліла паток адборнай лаянкі. Гігант адпусціў яе і гучна зарагатаў. Поруч з ім заліваўся смехам Лют. Хеўдынг жа заставаўся абыякавым і спакойным. Вочы яго сінія былі халоднымі, як паўночныя зоркі. Палохаў іх бляск Надзею. Сіла ішла ад гэтага чалавека. Магутная, дзікая сіла. Дзяўчына ўсёй

 

сваёй сутнасцю адчувала яе.

- Здатная на лаянку дзеўка! – рукі ў бокі, рагатаў стары вікінг.

- І не толькі на лаянку! – смела адказала Надзея. Устала на ўвесь рост дзева, спрабуючы без боязі глядзець у твар вялізнаму вікінгу. Але ўсё ж адчувала ў каленях здрадніцкую слабасць.

- Я ўцякла ад Скегі, празванага Доўгім Мячом!

- Свей на Эрыне? – здзіўлена прыпадняў бровы Лют.

Славенка кіўнула.

- Скегі ўзяў багаты луп у саксаў і цяпер з сваім збродам святкуе сканчэнне паходу, які стаў для яго вельмі ўдачным. У лапы свея трапіла дачка саксонскага князя Сіварда – прыгажуня Мойра.

- Дзе ён захапіў саксонку? – спытаў Хадгар.

- Сакс Хенгіст вёз яе ў Ладагу, да Рурыка кнёза.

- Далей зразумела, - усміхнуўся магутны вікінг.

- А ты, дзеўка, Хрорыку служыш?

- Яму, - кіўнула Наддзея

- Што скажаш, Ульф?

Хёўдынг толькі невыразна махнуў меднавалосай галавой.

- Удачлівы Скегі свей! – усклікнуў Лют. – Вось, брат, справа годная воіна, годная арфы скальда!

- Сівард усё аддасць за дачку, - шапнуў на вуха правадыру Споры Выдра. І толькі цяпер усхваляваная славенка заўважыла, што іх абступілі хірдманы Ульфа.

Узбударажыў іх аповяд дзевы славенскай. Бачыла гэта Надзея па бляску ў вачах вікінгаў, па іх тварах, прадубленых морам і ветрам. Агульную ўзбуджанасць выклікалі яе словы. Вось яна, слава! Трэба толькі хёўдынгу загадаць ім ісці ў Ірландыю, а за імі справа не стане. Адаб'юць паланянку высакародную ў Скегі. Слаўная будзе сеча!

Аб вычынах мужных распавядаюць срэбраструнныя арфы скальдаў. Мойра дзева каштуе шмат саксонскага золата.

- Адкуль ведаеш усё гэта? – спытаў Лют.

- На ладдзі Хенгіставай была, - адказала Надзея, і бліснуў цёмнай барвай агонь у глыбіні яе вачэй, асвяціўшы сталь у позірку.

- Помсты, нябось, хочаш, - усміхнуўся Хадгар, але





прамаўчала ваяўніца.

Раптам, Ульф хёўдынг паказаў ёй меч – падарунак Хальуданаў.

- Побач з табой ляжаў клінок гэты. Няўжо твой?

- Мой, - адказала дзева няцвёрдым голасам, апускаючы галаву. У вочы глядзеў ёй грозны вікінг, і адчувала холад у сэрцы сваім Надзея ад позірку яго. На магутных грудзях дана, заўважыла славенка ўколатую выяву ладдзі, пакасаваную старымі баявымі рубцамі.

- А ці валодаеш ты, дзева, зброяй гэтай?

- Будзь упэўнены, хёўдынг, што не дарэмна за сабою цягаю. – насупілася Надзея. – Праверыць не жадаеш? "І хто за язык цягнуў?" – мільганула злая думка.

Хёўдынг усміхнуўся і працягнуў меч дзяўчыне. Яна прыняла зброю, адчуўшы яе прыемны цяжар. Ульф адвярнуўся і пакрочыў на нос дракара, дзе люта шчэрыла зубы пазалочаная морда жудаснага цмока.

- Гэй, Свен! Пакармі нашага новага хірдмана! – усклікнуў Лют Прыгажун, зірнуўшы на Хільд вясёлымі вачамі. – Адкажы мне, красуня, а ў Хрорыка конунга ў Альдэйгюбаргу кім была? Няўжо воінам?!

Юнак і нарманы, якія знаходзіліся поруч з ім, аглушальна зарагаталі.

- Калі віцязі там такія, то варта нам, пабрацімы, завітаць да старога конунга, і ўжо тады мне будзе належаць пасад яго! - крыкнуў Споры Выдра.

- Ды ну! – гуў Хадгар. – Калі ваяваць славен жадаеце, то без мяне. Хадгар з бабамі не змагаецца!

Надзея ўсміхнулася і з'едліва адказала:

- Чаму ж, харобры ваяка селундскі, не валадарыш ты ў Альдэйгюбаргу? На словах вы ўсе здатныя. Хвацкія ды спрытныя хлопцы. Але ўцякаюць вашы дацкія крумкачы ад сокалаў варажскіх.

- Вікінг не ўцякае з сечы! – усклікнуў Лют. – І Хрорыка мы не пужаемся. І ты, дзева, гэта ведаеш. Але, урэшце, сама пабачыш, што няма роўных у бітве сынам фіёрдаў!

- А то не бачыла!

- Колькі не з'яўляўся ля берагоў Гардарыкі "Марскі Змей", уцякалі, ахопленыя жахам б'ярмы, карэлы ды славене! І на гэты



раз абавязкова кінуцца наўцёкі!

- Мала гонару сялян сячы! – пагардліва крыкнула Надзея, але Лют не звярнуў на яе ўвагі.

– Як адаб'ём саксонку ў Скегі, зноў плюндраваць землі Хрорыкавы будзем. Туды мы шлях свой трымалі! Баяцца Ульфа Бярсерка і крумкачоў яго, хірда. Стары конунг стаў, слабее яго рука. Не падужаў Вады конунг вікінгаў, клікаў Хрорыка венда, але не перасіліць данаў і яму! Бераг ваш – месца для лупу!

- А не задужа выхваляешся, дан? – мовіла Люту славенка.

- Хопіць, - са смехам сказаў Хадгар Мядзведзь. – Не да твару воіну, Лют, сваё языком браць. Для гэтага ёсць меч!

Шчокі юнака запунсавелі, а Надзея ўсміхнулася.

- Праўда твая, вікінг. Слова не меч. На полі бітвы лютай няхай мужнасць і клінкі вырашаюць, каму ў Валгалу, а каму яшчэ зямлю таптаць. Самі вы не горай за мяне ведаеце, што віцязі Рурыкавы не горш за вас сякеру трымаюць. Не аднойчы бітыя вы былі.

- Усякі свайго хваліць, - пачуўся грубы голас мажнога, да вачэй у рудой барадзе, Торвальда па прозвішчу Руды. – Хадгар, Лют, ды ты Споры, досыць з дзеўкай лаяцца. Хадзем да хёўдынга – кліча.

Воіны радасна загаманілі.

- Брат не прапусціць такі зручны момант, - упэўнена прамовіў Лют.

- І ты, дзева, славенская ваяўніца, са Свенам ідзі, ежы нашай паспрабуй і таксама да правадыра.

- Я не галодная, дзякую, -адказала Хільд.

- Хадзем тады.

“Няўжо загадае Ульф ісці адбіваць саксонку і пасякуць яго воі, гулякаў” – славенка ўсміхнулася – “Воўк на ваўка! Не паверацць мне кмеці Раціборавы, калі жывая буду”

Надзея стаяла перад Ульфам. Апусціўшы вочы, крыж мяча пальцамі церабіла. Хёўдынг глядзеў на яе вачамі-льдзінкамі і маўчаў.

- Не часта цяпер дзеву – воіна сустрэнеш, - урэшце вымавіў ён.

Надзея зірнула на важара. Ульф Мараход усміхаўся, і раптам, быццам, нешта абарвалася ўнутры славенкі. І адчула дзева, як сіла невядомая і таямнічая, але магутная і велічная,

авалодала яе душой і кінула яе ў шалёны вір, насустрач гэтаму суроваму паўночнаму ваўку. Што гэта? Што здарылася з ёй? Якія магутныя чары апанавалі ў адно імгненне? Пракляты дан! Душу ў міг замарозіў!

- Што здарылася, дзева? Дрэнна? Ці немач якая?

- Стамілася, - выдыхнула Надзея. – Пытай, хёўдынг, што ведаць жадаеш?

Кіўнуў Ульф гордай галавой, і грыва яго львіная калыхнулася, захвалілася на плячах расплаўленай меддзю.

- Колькі ваяроў у дружыне Скегі?

- Не болей твайго. Але, вядома ж, балююць разам многія мужы знатныя. Дзікуны – горцы, на чале з Луні Каледонцам. Вальгард Ірландзец, Освік Тоўсты, Івар Жалезныя Плечы, Од Берагавы, Брунульф Маленькі, Геірмунд Пярэварацень, Торгільс Трэска. З імі, апрача слуг, воінаў сотні за дзве. Хочуць яны супроць Харальда выступіць. Не жадаюць яго конунгам у Нарвегіі бачыць. На п'яную галаву ўсе раўлі, што зараз жа з сынам Хальудана Чорнага ваяваць трэба. А як дур разам з хмелем з галоў павыходзяць, то шмат хто і перадумае. Ды і да паходу рыхтавацца трэба не адзін дзень. Гэтым часам, думаецца мне, пажадае Скегі красу-жонку сваякам паказаць! – у Свею вывезці. Харальд не даруе яму гэтай абразы. Цяпер Скегі прымушаны змагацца з ім. Вось як адплыве свей на ладдзі з Эрына, тут яго і сустрэць можна.

- Ну не дзеўка, а ваявода! – усміхнуўся Хадгар.

- Гаворыць слушна.

- А болей нічога і не застаецца, як спаткаць яго ў моры. – Торвальд пакруціў рыжы вус, пагладзіў вогненную бараду, якую ўжо з бакоў заснежыла сівізна. – Вось толькі, каб не пажадаў з ім разам у Свею ісці хто з паплечнікаў. Дзве ладдзі – зашмат.

- Пабачым пасля, - мовіў Споры. – Што скажаш, хёўдынг?

- Даўнютка я з Доўгім Мячом не біўся. Мабыць, цяжар зброі маёй забыўся ён!

Раптам, на Надзею павеяла ветрам, і крылы вялізнага крумкача ледзь не дакрануліся яе твару. Дзяўчына адхінулася, прыкрыўшы твар далонямі З прымхлівым жахам сачыла яна,

* **Вястун Одына** - *Крумкачы і ваўкі лічыліся святымі жывёламі Одына. Ваўкі – Геры (Прагны) і Фрэкі (Скванны), сцераглі спакой Одына.*



як на плячо хёўдынга села жудасная птушка. Назіраючы спалох яе, Ульф ухмыльнуўся і пагладзіў other пальцам па вугальна-чорных грудзях. Тройчы крыкнуў вястун Одына*, азіраючы славенку пільным вокам. Калі воіны пазаймалі свае месцы за вёсламі, паклаў сваю цяжкую, шурпатую, як камень, далонь на плячо Надзеі стары Хадгар, крануў русую пасму яе валасоў і прамовіў:

- Ты, дзева, не пужайся. Нашага хёўдынга сам Бацька Асаў* калісьці вызначыў. Птушка гэтая - яго дарунак хёўдынгу. Цень Мунiна** імя гэтага крумкача. Як нарадзіла Сігрыт Празорліўка ад ярла Эльвіра Бярсерка сына, прыляцеў крумкач гэты, сеў на страху заснежаную і гучна крычаць пачаў. Зразумеллі ўсе, што вялікім воінам будзе сын Эльвіра. Узяў тады ярл меч свой цяжкі, шчодра пасыпаў лязо мукой і соллю і дзіцяці да твару наблізіў. І стаў той лізаць сваю першую ежу, ды так прагна, што аб меч востры рот скрывавіў. Але не стаў крычаць малы, а рукі да зброі працягваў. А потым, тры ночы запар, ля жытла Эльвіра, мацёры воўк спяваў свае жудасныя песні месяцу. У трэці раз багі далі ярлу знак, што сын яго славутым вікінгам стане. Ульфам*** нарок яго бацька. Звярыны дух перасяліўся ў дзіця – воўчы дух. Перадаў яму звер з выццём сутнасць сваю. А Крумкач гэты часта да хлопчыка прылятаў, а потым ежу з рук браць пачаў. Дзе хочаш, адшукае стары Цень Муніна Ульфа. І мовіла тады Сігрыт, у святых рунах убачыўшы, што не загіне ад сталі яе сын да той пары, пакуль жыве крумкач Одына і прылятае да Ульфа, на плечы яму сядае. Як і пажадалі багі, стаў Эльвірсон вікінгам славутым.

Як і бацька, Ульф за абодвух жыве – за звера і чалавека. Эльвір зрабіў з сына бярсерка, хоць маці і супраць гэтага была. Праслаўлена імя Ульфа! Многіх воінаў магутных і слаўных працяў яго меч! Шмат краін пабачылі яго сінія вочы, па многіх марах хадзіў “Марскі Змей”! У Міклегардзе далёкім у гвардыі к'яра**** – васілеўса, конунга тамашняга служыў. Ды толькі

* ***Бацька Асаў*** *– Одын.* ***Асы*** *– племя багоў.*

** ***Цень Мунiна (Муніра)****, (Мунін - Мудрасць) – адзін з крумкачоў, які сядзіць на плячы Одына. Другі крумкач – Хугін (Памяць). Гэтыя птушкі распавядаюць Высокаму пра падзеі, якія адбываюцца ў свеце.*

******Ульф*** *– воўк.*

**** ***К'яр*** *– кесар.*

не па нутры хёўдынгу жыццё такое стала. Душа яго заўжды буры жадае. Не шмат бачаць яго сваякі. Дом вікінга – дракар, а жыццё – паходы! Бацька – тарча, а маці – сякера! Мужчына, калі ён сапраўдны муж, ніколі не памрэ на саломе!* Вось так дзева.

Хадгар усміхнуўся ў бараду і накіраваўся патрымаць стырно.

Надзея назірала, як на ладдзю ўзлазілі Ульфавы навароўнікі** Эрык і ісландзец Глум, за белыя валасы празваны Першым Снегам.

- Багі за нас, хёўдынг! – крыкнуў Эрык Ульфу. – Праз дзве ночы Скегі мяркуе адплысці ў Свею.

- Адкуль пра тое даведаліся? – спытаў Хадгар.

- Што самі даведаліся, падгледзелі – падслухалі, а што і хлапчук-падпасак распавёў. Бачылі мы, як халопы розным дабром "Крумкача" грузяць. Старога Х'яльва бачылі, ды другіх хірдманаў ля карабля. Вясёлыя, гамоняць перад паходам. А потым падпаска Глум злавіў. Шустры хлапчук, жвавы. Пранырлівы, што верабей. Думаў яго з сабой забраць. Нядрэнны быў бы раб. Але гэты дурань уцякаць надумаў.

- Уцёк? – збянтэжана спытаў Споры Выдра.

- Ад нажа Глума яшчэ ніхто не ўцякаў – усміхнуўся Эрык. – Схавалі цела ў бураломе – расамахі зжэрці паспеюць. Ды і хто трэля* шукаць будзе?

- Цудоўна, - Ульф страсянуў меднай грывай. – У бухце гэтай будзем чакаць свея. А як у мора далей адплыве ад берага Эрынскага, вось тут і мы з'явімся.

- А яшчэ, казаў хлопчык, прыпомніў Эрык. – гамоняць, нібы нажом яго спячага прыкончыць хацела. Але сцярог яго Одын ад смерці такой. Але, баюць, быццам бы бачыў хёўдынг

---

* **Памерці на саломе** – *памерці сваёй смерцю. Вікінгі лічылі, што воін павінен паміраць са зброяй у руках у баі. Толькі тады ён годны Валгалы. Той, хто паміраў ад хваробы, трапляў у Хель царства мёртвых, дзе прымушаны быў вёкаваць нікчэмнае жыццё. Таму, стары ці хворы воін, адчуваючы набліжэнне смерці, браў дзіду і ў патрэбных месцах выразаў на целе руны, пасля чаго сплываў крывёй. Так мужчыны ўзрэзвалі сябе для Одына, чым і заслугоўвалі сваё месца ў Валгале.*

** **Навароўнікі** – *выведнікі.*

*** **Трэль** – *раб.*



сваю фюльг'ю*. Вось як.

- Добра, калі так! – усклікнуў Лют. – Удача адвярнулася ад Скегі на Эрыне! Мой меч прагне крыві! І ўдосталь я напаю яго расою бітвы**.

Праз два дні, як і лічыў Эрык, ледзь над морам засвяціўся золак, з'явіліся на дракар Ульфавы віжы Б'ярні Легканогі, Глум Першы Снег і Эрык. Стаміліся воіны, у гразі па вушы, але паведамілі хеўдынгу тое, што жадалі чуць усе воіны хірда.

- Яны выходзяць! – мовіў Глум. – Толькі вось вельмі злы і раз'юшаны Скегі чамусьці. Мабыць, здарылася нешта. Ці, можа праўда тое, што фюльг'ю сваю бачыў хеўдынг? Хірдманы цяпер таксама хмурныя, як хмары снегавыя.

- А мо палаяліся з кім? – сказаў Споры.

- А ці не бачылі сярод іх князёўну саксонскую? – спытала Надзея.

Вікінг паціснуў плячамі.

- Цемра, - адказаў ён. – Але ж дзе ёй яшчэ быць, як не на ладдзі?

- І праўда, - кіўнула ваяўніца.

Яна зірнула на хеўдынга і спытала:

- Калі багі падаруюць нам пермогу, аддай мне Скегі свея, правадыр. Ды яшчэ чалавека, на якога пакажу!

Але нічога не адказаў ёй важар, толькі падняў за падбародак жалезнымі пальцамі і ў вочы зазірнуў. Славенка ўздрыгнула, але упершыню, вачэй не апусціла.

- Вунь яны! Бач, пабрацімы!

Ужо зусім развіднела, калі зоркі Лют заўважыў "Крумкача". У сіні хваль чарнеў карабель Скегі.

- Цісні на вёслы! – гаркнуў Ульф. – Слава і здабыча чакаюць вас, карміцелі крумкачоў!

- Зірні, брат мой, яны таксама заўважылі нас!

- Гэй, Фін, чырвоную тарчу на мачту! Няхай рыхтуюцца да сечы! – Ульф засмяяўся і зірнуў на славенку сваімі сцюдзёна-сінімі вачамі. Ну што, дзева з мячом! Цяпер самы час паказаць сябе ў справе!

- Яны заўважылі нашую тарчу, - ляпнуў Хадгар Люта

---

* ***Фюльг'я*** *–дух-захавальнік чалавека. Па павер'ях, бачылі сваю фюльг'ю перад смерцю.*

** ***Раса бітвы*** *– кроў.*

па плячы. – Ладдзя бег спыніла,/загін дае! Я ведаў, Скегі ніколі не ўцякае ад ворага.

- Годны супраціўнік, - згадзіўся Лют.

Караблі хутка ішлі насустрач адзін аднаму. Надзея адчувала лёглае хваляванне, якое бывала ў яе перад бітвай. Хірдманы нетаропка рыхтаваліся да сечы. Вось ужо і першыя стрэлы затыхалі ў паветры. Ульф стаяў на носе дракара і аддаваў хуткія загады веслярам. Хадгар моўчкі ўсунуў у рукі Надзеі тарчу, у якую імгненнем пазней, глуха выцяла джалам змяя цецівы*.

“На караблі зараз Хальудан, ці не?” – думала дзяўчына, агаляючы меч і слухаючы, як уздрыгвае сэрца яе дзявочае.

Скураны шалом пакрываў цяпер яе галаву. “Гэта лепш, чым нічога”, - казаў брат хёўдынга. Зараз ён стаяў поруч з Ульфам і вецер вываяў з-пад стальнога шолама пасмы залатых валасоў. Ульф жа быў без шалома. Прыкрыўшы цела тарчаю, у якую білі варожыя стрэлы, у руцэ трымаў правадыр меч імем Геры – Прагны. І Надзея ведала, што кліча так суровы паўночны Бацька Перамогі**, аднаго з ваўкоў сваіх, якія сцерагуць яго спакой. За братамі – берсеркамі высіўся гігант Хадгар, узброены вялізным баявым молатам – зброяй, якой не часта змагаліся ваяры і ў зэшлым часе. Толькі магутнаму воіну, такому, як герой Хадгар, было пад сілу змагацца гэтай жудаснай прыладай для забойства.

- Скегі, - прамармытала Надзея, заўважыўшы свея, які стаяў ля драконавай галавы. – Цмок людажэрца, напіўся слёз дзявочых! Няхай смерцю пакарае цябе Пярун!

- Даўнютка не бачыліся, Ульф! – на ўсю сілу сваіх лёгкіх крыкнуў Скегі датчаніну.

- Даўно, - згадзіўся бярсерк. – Толькі сустрэча гэтая для цябе апошняя будзе.

Смяяўся Ульф, і ўсмешка яго на гэты раз воўчы выскал дужа нагадвала. Споры Выдра спрытна кінуў дзіду, але пацэліла яна не ў свея, а трапіла ў грудзі аднаго з вікінгаў, якія стаялі побач з правадыром. “Орм Кульгавы”! – пазнала Надзея смяротна параненага воіна. – Спрытна яго Споры”!

- Я заб’ю цябе! – раз’юшана рыкнуў Скегі – Я вырву тваё

---

* ***Змяя цецівы*** – *страла.*

** ***Бацька Перамогі*** – *Одын.*


сэрца! Крывёю пляваць будзеш, Ульф! О-О, я бачу, твой жаўтароты братка з табой! Цудоўна, Ульф, цудоўна!

- Шмат дарэмных слоў, Доўгі Меч, - мовіў Ульф.

З лаянкай і баявымі клічамі, кідалі хірдманы абардажныя крукі. Глуха білі аб барты стальныя кіпцюры, глыбока ў драўніну ўядаліся. І ўбачыла Надзея, як Ульф першым пераскочыў на варожы дракар. Завыў ён, нібы мацёры ваўчына, дужа жудасна завыў, так, што кроў застыла ў жылах у ворагаў. Цяжкі меч хёўдынга хутка адшукаў сваю першую ахвяру, а выццё яго жахлівае ўсё гучала ў паветры. Вось і Лют за братам услед скочыў. Шалёныя вочы маладога бярсерка звярыным агнём гараць, наскрозь ворагаў пякуць. Бязвусы твар пенай забруджаны, як маланка, меч у далоні ззяе. Жахліва глядзець на гэтага юнака. Нібы вар'ят, кідаецца ён у сваім шаленстве лютым на варожых ваяроў. Узнік і перад славенкай вікінг. Знянацку з'явіўся ён ля дзевы славенскай. Грымнуў яе тарчай у грудзі і сабе под ногі зваліў. Узняў нарман сякеру над ваяўніцай, але ў гэты момант страшны выт Хадгарава молата ператварыў яго твар у крывавую мешанку. Ускочыла Надзея на ногі і ледзьве выт наступнага ворага стрымаць паспела. Гучна зазвінеў яе клінок, сутыкнуўшыся з варожым.

- Няўжо ты, ведзьма?- крыкнуў ёй супрацiўнік. Гэта быў Аўдун, сын Рольфа, на баляванні прыняты ў хірд. – Няўжо жывая!

Нічога не адказала яму славенка, нібы маланка, кінулася яна насустрач вікінгу; крыху сагнуўшыся, прапусціла ягоны меч над сабою. І, як Рацібор навучаў, хутка тарча ў тарчу выцяла. Пахіснуўся Аўдун, і зараз жа Надзея яго па нагах секанула. Узмахнуў рукамі ўрманін, ускрыкнуў, твар і грудзі свае адкрыўшы. Быццам залаты шалом Магуры – дачкі Перуновай, мільгануў на сонцы клінок славенкі і разануў яго па твары. Бразнула яго зброя аб палубу – і паваліўся скрываўлены Аўдун мёртвым. Не паспела яна ўздыхнуць, як віхрам наляцеў на яе яшчэ адзін вораг і сякерай сваёй ледзьве дзяўчыну не абяззброіў. Зваліўся з галавы яе шалом, і па плячах косы развеяліся. На імгненне разгубіўся ад нечаканасці вікінг, што жыцця яму каштавала. Меч Надзеі працяў урманіну неабароненае горла.

- Малайчына, дзеўка! – крыкнуў ёй Хадгар. Яго жахлівы молат – Хадгар зваў яго проста – Забойца – воіна за воінам у

Валгалу пасылаў.

- Одын, Одын! – голасна крычаў магутны герой, размахваючы грознай зброяй.

Надзея ўсміхнулася, змахваючы з ілба крывавы пот. Кроў струменіла з парэзу над брывом.

- Трэба ж, нават і не заўважыла. А маглі і галавы пазбавіць. Зачапіў такі Аўдун.

Навокал кіпела лютая сеча. Людзі слізгалі па мокрай ад крыві палубе. Крычалі параненыя, бразгатала зброя. Круціўся шалёны вір сечы. Моцна пах ён крывёй і смерцю. Кіравалі дзідамі воінаў валькірыі, выбіраючы годных у палац Одынаў. Ульф, запырсканы крывёй, згубіў чалавечае аблічча, кінуў зброю і, нібы згаладалы, крыважэрны леў, забіваў, забіваў і забіваў! Яго воўчая сутнасць патрабавала ўсё новых ахвяр. Поруч з ім лютаваў меншы брат. І жахліва было глядзець Хільд на гэтага юнака, прагнага да крыві і забойства. Жахліва было бачыць яго воўчыя шалёныя вочы. Бітва амаль што перанеслася на варожую ладдзю. Надзея напружана і ўсхвалявана шукала вачамі Хальудана. Адольвалі вікінгі Ульфа хлірдманаў Скегі. Сам хёўдынг свейскі секся на карме, паступова набліжаючыся да ашалелага Ульфа.

"Дзе ж Хальудан, няўжо забіты"? – ад думак такіх халадзела сэрцайка дзявочае.

Надзея і не заўважыла, як апынулася на варожай ладдзі. Раптам, з хрыпам пэцкаючы крывёй пасівелую бараду, на славенку, ледзьве не збіўшы яе з ног, паваліўся Освальд Лучнік. Ён здзіўлена глядзеў на жахлівую рану ў жываце і спрабаваў утрымаць нутро, якое амаль што трымаў на далонях. У наступнае імгненне, перад Надзеяй мільгануў твар Хальудана. Страшны быў выгляд вікінга. Твар рассечаны, шалома няма, залатыя касмы валасоў у крыві, вочы, як у вар'ята, рот у выскале скрыўлены. Вытам Што Забівае ён скончыў муку Освальда і рэзка павярнуўся да славенкі. Надзея ўздрыгнула і міма волі выставіла наперад меч. Вікінг жа сякеру апусціў і хрыпла шапнуў:

- Ці ты гэта? Валькірыя!?

- Хальудан, любы, - ціхенька адказала яна, але зараз жа голас яе сарваўся на крык. – Хальудан. Не-е-е! Не смей, Хадгар!

Хальудан ускінуў сякеру, але было позна. Молат гіганта


з хрустам урэзаўся яму ў плячо, адшпурхнуўшы датчаніна на некалькі крокаў назад і ледзь не выкінуў яго за борт. Што Забівае ж у хвалях знікла. Перад вачамі Надзеі мільгануў здзіўлены і крыху разгублены позірк Хадгара. Заплеценая перад боем у цяжкую, доўгую касу, барада яго зачапіла грудзі дзяўчыны. Яна, кінуўшыся да Хальудана, паспела заўважыць, як сышліся ў двубоі Х'яльв Ліс і Дан Мядзведзь. Стоячы на каленях перад распасцёртым целам Хальудана, Надзея з жахам глядзела на яго бледны, скрываўлены лік і гарачыя кроплі слёз закапалі на збялелыя вусны Хальудана. Молат раструшчыў яму плячо і ў некалькіх месцах зламаў ключыцу; дужа ў грудзях нутро прыбіў. Уздрыгнулі павекі дана і расплюшчыў ён памутнелыя ад болю вочы, у якіх павольна згасаў запал лютай сечы.

- Прабач, - Надзея схілілася над ім, моцна сціснуўшы цвёрдую шурпатую далонь. – Прабач.

Усмешка нацягнула яго сасмяглыя губы.

- Бывай, - прахрыпеў вікінг. – У палац Одынаў чакае мяне шлях.

Галава яго схілілася на бок, і Хальудан страціў прытомнасць. Не змагла яна вытрываць яго смяротнай мукі, адвярнула твар і ўбачыла цераз туман слёз, які засціў ёй вочы, Х'яльва Ліса. Стары ляжаў ля мачты з праламанымі грудзямі. Мядзведзь перамог Ліса. А паміж тым, сышліся ў двубоі славутыя правадыры – Скегі Доўгі Меч і Ульф Марахол. Жорстка б'юцца воіны. Тарчаў няма – даўно на трэскі пасяклі. Збіў дан з галавы свея цяжкі шалом. Кроў па твары Скегі струменіць, вочы яму залівае. Не на жывот, але на смерць б'юцца хёўдынгі. Плямы крыві на кальчугах пасечаных, вочы шалёныя, дзікія. З неўтаймаванай адвагай змагаюцца важары. Жыццё і слава – узнагарода пераможцы, мерцвяку ж – слава, Валгала і цёплыя вусны валькірый. Вось выцяў Скегі свей Ульфа сваім клінком вялізным і зваліў дана з ног. З пераможным лямантам узнёс ён меч для апошняга выту, але ўрэзаўся клінок у палубныя дошкі. Ульф жа ў бок адхінуўся і спрытна на ногі ўскочыў. Што кот дзікі! Ды клінком сваім славутым секанаў працiўніка па паясніцы. Ускрыкнуў Скегі, цяжка паваліўся пад ногі дану. Грымаса болю перакрывіла твар вікінга. Скрыпеў ён зубамі, грыз доўгі агністы вус і маўчаў. Ульф жа адкінуў з ілба мокрую медзь валасоў і грозна па баках зірнуў. Пазбаўленыя магутнага

правадыра, нібы знямелі рэшткі яго хірда Скегі.

Ульф, у вачах якога павольна раставала полымя баявога шаленства, што падараваў бярсеркам Аднавокі, хрыпла крыкнуў нібы крумкач пракаркаў:

- Кладзі зброю, віцязі! Жыццё тады вам будзе, не - смерць тады выбераце.

Крыху пастаялі нерухома пераможаныя і забразгала аб дошкі баявая сталь. Хадгар Мядзведзь і Споры Выдра адцяснілі ўзятых у палон на карму "Крумкача". Правадыр абцёр далонню пену з вусаў і голенага падбародка. Зірнуў на брата. Лют ужо сядзеў ля борта, прыкрыўшы павекамі вочы і глыбока ўдыхаў марскую прахалоду. Яго ўжо апанавала непамерная стома, якая, ахоплівае ўсё цела воіна-бярсерка пасля бітвы. Гэта плата за тую звярыную моц і бясстрашнасць, якія даў у дар сваім лепшым байцам суровы стары Одын. Адчуваў і хёўдынг, як цяжэюць яго чэлясы, свінцом наліваецца цела апускаецца на грудзі гордая галава. Але, як і належыць правадыру, абапёрся на свой верны меч славуты дан і грозна зірнуў на цяжка параненага Скегі. Свей спрабаваў устаць, але не слухалі яго ногі, і жорсткі боль грыз спіну. І жах жалезнымі пальцамі сціскаў адважнае сэрца вікінга. Не, не смерці баяўся ён.

"Няўжо хрыбет перабіў?" – думаў Скегі.

Ульф спакойна глядзеў на пераможанага ім ворага. Ціхамірную сінь, а не люты гнеў і шаленства праменілі цяпер яго вочы. Стомлены позірк блукаў на целах забітых воінаў.

- Дзе дачка Сіварда? – урэшце рэшт спытаў ён.

- Ах вось табе хто патрэбны! – хрыпла закаркаў Скегі і склаў вусны ў пагардлівую ўсмешку. – О не, дружа бярсерк. Ніколі табе не валодаць гэтай красуняй, - ён зарагатаў.

Смех яго рэзаў слых Надзеі і яна адчувала амаль што фізічны боль. Кінуўшы на Хальдана разгублены позірк, яна ўстала на ногі. Валькірыі не спяшаліся весці яго на Біўрэст*. Мабыць, чароўная Фрэя шкадавала закаханага ваяку. Надзея выцягнула захаляўны нож, якія насілі за халявай бота ўсе кмеці славенскія. Сціснула вусны і зрабіла першы крок.

Вось ён, цмок! Насмактаўся крыві і слёз. Нічога, цяпер вунь, крывёю гэтай ванітуе яго! "Вось ляжыць ён, бездапаможны, вораг, які забіў Хенгіста і ваяроў Рурыкавых. Мойру-красу загубіў, мне лёс перакрывіў, змарнаваў. Бяры і рэж! Сама помсты

* **Біўрэст (біўрост)** – *вясёлкавы мост, уваход у свет асаў.*



жадала. Праз мяне Хальудан загінуў. Панаводзіла бярсеркаў, дурніца"!

Пальцы сутаргава сціскалі нож. Рука спацела, гулка тахкала сэрца, нібы ў грудзях яму стала раптоўна цесна. Калі падняў Скегі сваю цяжкую кудлатую галаву і зірнуў на славенку, заўважыла Надзея замяшанне ў вачах вікінга. І, як падалося ёй, мільганулі ў вачах тых разгубленасць і цень жаху.

- Ну што, хёўдынг. Не спадзяваўся мяне ўбачыць?

- Так, - адказаў Скегі. – Не спадзяваўся. Не меркаваў нават. Можа, сапраўды ты - дзева Валгалы? Калі так, то ў самы раз цябе бачу цяпер. Ці не з табою мне да Валгалы ісці?

- Дзе Мойра, хёўдынг?

Скегі ўсміхнуўся і зірнуў на нож.

- Ну, чаго стаіш? Бі!

- Што зрабіў ты з ёй? Адказвай жа, людажэрца крывавы.

Моўчкі сузіралі іх воіны, і ніхто не спрабаваў умяшацца. Помста – справа святая.

Доўгі Меч усміхаўся.

- Ну, чаго чакаеш?

- Дзе саксонка, Скегі! – апіраючыся на дзіду крыкнуў Споры Выдра.

Нож у далоні дзяўчыны ўздрыгваў. З натоўпу палонных выступіў Убе, сын Арні Кіпцюра, празваны Сынам Хвалі.

- Яе болей няма, Хільд. Хёўдынг убачыў яе на досвітку. На парозе ляжала з кінжалам у сэрцы.

- Калі яна не змагла забіць мяне, то вырашыла загубіць сябе. Гордая была – гэтага не адняць, - вікінг зірнуў на Надзею, бліснуў вачамі. – Сілай я ўзяў дзеву гэту, але кахаў моцна яе, дужа кахаў. А цяпер, чыні сваю помсту хутчэй. Я стаміўся гаварыць!

Свей дзёрзка рассмяяўся ёй у твар. Але не стала біць ворага злога славенка. Нож выпаў з яе рукі, пахіснулася дзева і твар далонямі прыкрыла.

- Будзь пракляты ты, свей! – ускрыкнула яна.

- Эх! – выгукнуў Хадгар – Не бачыць нам золата Сівардава. Але не бяда. Добрая была сеча. А лупу ў Рурыкавых селішчах хопіць.

- Твая праўда, - кіўнуў Споры. – Зачакаліся нас даннікі старога конунга.

"Каб вам здохнуць"! – падумала Надзея, пачуўшы словы

гэтыя.

- А можна будзе і да вендаў* завітаць, як з паходу вяртацца будзем, - мовіў малады Кнут.

- Не, няварта, - сказаў на гэта Споры Выдра. – Хіба ў наступным паходзе. Спадзяюся, што цяжкі ад здабычы будзе "Маркі Змей", якую у весей ды славен возьмем. А на цяжкай ладдзі хто ж у паходы ды набегі ходзіць?

- А ты што, Споры, - зарагатаў Хадгар – Хіба, апрача золата на дракар усялякую брыду цягнуць станеш?!

Воіны захлынуліся рогатам.

- Ды жартаваў я! – рагатаў з астатнімі Споры.

- Зірніце, хлопцы! – усклікнуў Гунлаўг Страла, адчыніўшы трум. – Колькі ўсяго наваяваў Скегі!

- А ці праўда, Скегі, - спытаў Яльмар Срэбны Пояс, – што бачыў ты сваю фюльг'ю?

- Хутка ты сваю ўбачыш! – цяжка дыхаючы агрызнуўся хёўдынг.

Хальудан яшчэ дыхаў, але ўжо халодным стала чало яго. Недзе ў вышыні кружылі дзевы – валькірыі. Новыя эйнхерыі сядуць сёння за Одынавым сталом. Кожны дзень будуць баляваць героі, кожны дзень будуць ламаць зброю ў бітвах, да апошняга дня – дня Рагнарак** – Бітвы багоў. У апошні раз тады падымуць зброю героі. Поплеч з багамі светлымі асамі, будуць змагацца яны, пакуль не згіне свет!

- Выратаваў ты мяне, вікінг, а я загубіла цябе помстай сваёй. Мойру не ўратавала, а цябе, сокал ясны, загубіла!

- Годзе тужыць, дзева, - прагучаў над вухам бас Хадгара. – Кожны мужчына шчаслівы, калі спаткае смерць у бітве. Юнак гэты біўся адважна, Валгалы годны.

Надзея падняла на суровага нармана свае вочы, слёз поўныя. Усміхаўся магутны Хадгар, абапёршыся на свой жудасны молат, на якім сохлі цёмныя плямы крыві. Вецер пеніў сваім подыхам яго сіва-снежную бараду.

- Усе мы помсты шукаем, за крыўды свае, за смерць пабрацімаў і сваякоў, ды за шмат што іншае. Але добра зрабіла ты, што не стала помсту параненаму свею чыніць. Хёўдынг нерашкаджаць не будзе, але і не пахваліць за такі вычын.

* ***Венды*** *– скандынаўская назва прыбалтыйскіх славянаў.*

** ***Дзень Рагнарак*** *– апошняя бітва паміж багамі і веліканамі, у выніку якой загіне свет.*



Скегі славуты воін і мала гонару яго параненага, як барана рэзаць. Ульф паважае права помсты, справа гэта годная, хаця сам ён ніколі не помсціць. Што яму людзі, калі служыць ён Аднавокаму! У бярсеркаў няма сваякоў. Жыццё іх – вайна, а ўвесь клопат – уласны хірд. І ты, дзева, смаркачы вытры. У воіна слёз няма. Хадзем. Вікінгу твайму, якога забіў я, ужо нічым дапамагчы нельга. Бачу я пацалунак смерці на ліку яго. Задужа моцны выт. Забойца, звычайна, б'е адзін раз і смяротныя раны такія!

Схілілася славенка над данам – і вусны яе кранулі халодны лоб Хальудана, і сляза дзявочая на шчаку яму трапіла.

А паміж тым, Хакан і Глум ужо знялі са штэўня пераможанага "Крумкача" драконавую галаву. З нянавісцю сачыў бездапаможны Скегі, як усю здабычу, у бітвах набытую і ў набегах нарабаваную, выносяць з яго ладдзі хірдманы Ульфа. Цяжка было ў яго на душы. Змрочныя былі рэшткі яго людзей, якія кінулі зброю і засталіся жыць. І крыкнуў ён Ульфу:

- Слухай мяне, дан, добра слухай! Забі мяне зараз не то шкадаваць будзеш, калі зноў на ногі я ўстану!

Але, пад рогат хірдманаў Ульфавых, пад іх злыя жарты, ужо адплываў у сінь далягляду "Марскі Змей" І страшнай клятвай кляўся Скегі хёўдынг, адномсціць Ульфу Мараходу. На клінку сваім слаўным кляўся, перад пабрацімамі вернымі.

Да крыві кусаў вусны ў злосці і бяссіллі. Абяцаў Скегі, што ўрэжа арла крывавага ён Хільд, няхай яна сапраўды дзева Валгалы. Смерцю пакарае ведзьму, лютай і бязлітаснай смерцю. Многіх славутых ваяроў пасеклі Ульфавы даны. І глядзеў Скегі на іх збялелыя мёртвыя твары і боль люта грыз яго душу. Няма ўжо з ім вернага і мудрага Х'яльва Ліса. Дурманлівы ліпец і хмельную брагу п'е ён у палацы Одына. Ядуць мяса вепра Сэхрымніра*, славутыя эйнхерыі, славяць Высокага! Цешацца ў сечах жорсткіх, а ён Скегі, мячом бярсеркавым скалечаны, на ногі ўстаць не можа. Няўжо ўсё? І кроіў жах сэрца мужнае, рваў на часткі, нібы мядзведзь кіпцюрамі.

Ведала Надзея ад Хадгара, што ідуць даны землі, Рурыкавай руцэ падуладныя, ваяваць. Лютыя находнікі зноў ідуць жэрці кроў славен, весей ды карэлаў. Рабаваць і знішчаць безабаронныя паселішчы. Плач і лямант, моцны пах гары і крыві,

** **Сэхрымнір** – вепр, якога забіваюць для баляванняў эйнхерыі. Але на досвітку ён адраджаецца.*

трэск полымя на саламяных стрэхах ды жудаснае выццё данаў – рабаўнікоў. Так добра было гэта ўсё знаёма дзяўчыне. Ах, як добра. Усіх сяклі вікінгі, і старым і малым літасці не было. І глядзела цяпер Надзея на гэтых людзей: маладых хлопцаў і старых, пасівелых у сечах ветэранаў і думала. Няўжо гэта яны зараз жартуюць і рагочуць? Няўжо з жартамі і смехам, усмешкамі ў светлых барадах, з вясёлым бляскам у вачах ідуць забіваць жанчын, ды дзетак на дзіды дзеля забаўкі падымаць? Няўжо будуць? Цяжка душылі за горла ўспаміны жудасныя.

- Чаго сумуеш, дзева? – гучна крыкнуў ёй у самае вуха юны Лют бярсерк, голасам сваім звонкім палохаючы цяжкія думкі. Знянацку дзяўчына ледзь не ўскрыкнула. – Чаго палохаешся не з'ем! – весела мовіў ён і прысеў побач. – Весткі я табе прынёс добрыя. Вырашыў хёўдынг цябе адпусціць. "Дзева гэта мужная мне падабаецца", - казаў мой брат. Сілай трымаць цябе не будзе.

- А ці не баіцца хёўдынг, што я паспею папярэдзіць хярсіраў*, і весь са славенамі пры зброі чакаць вас будзе? Што тады рабіць пачняце?

Лют зарагатаў і ляпнуў дзяўчыну па плячы.

- Пераб'ём іх, і справа ўся! Нікога мы не баімся! А цябе, Хільд, мы высадзім далёка ад селішч, на якія набег чыніць станем. Ногі твае не хутчэй за "Марскога Змея"! – юнак усміхнуўся, а Надзея заўважыла, як вялізны крумкач сеў на плячо Ульфа. Вікінг дакрануўся пальцамі да яго чорнай шыі і нешта сказаў гэтай таемнай птушцы. Прасачыўшы яе позірк, Лют горда пачаў тлумачыць:

- Усюды адшукае Цень Муніна свайго лепшага сябра. – мовіў ён. – Гэты крумкач – дар Одына Ульфу.

- Я ведаю, Хадгар казаў мне аб гэтым, - кіўнула Надзея, адчуваючы непрыемны халадок на спіне. "Ніхто яшчэ не бачыў, каб так далёка ў мора заляталі крумкачы", - падумала дзяўчына. Лют нібы ўгадаў яе думкі і паблажліва ўхмыльнуўся.

- Цень Муніна незвычайны крумкач, дзева. Гэта птушка Аднавокага. І калі загіне гэты крумкач, нябесныя коні валькірый панясуць Ульфа ў Валгалу. Так прадказала майму брату наша маці – вёльва** Сігрыт. Усе мужчыны нашага роду былі воінамі.

* ***Хярсіры*** *– першапачаткова ў скандынаваў дробная правадыры плямёнаў.*

** ***Вёльва*** *– прадраказальніца.*


І ніхто з іх не памёр на саломе! – з гонарам зляталі гэтыя словы з вуснаў юнага Люта. – Калі я нарадзіўся, Аднавокі таксама сваякам знак даў. Я таксама, як і брат, прагна лізаў соль з бацькоўскага клінка, які цяпер належыць Ульфу. Эльвіра Бярсерка ўжо не было сярод жывых, калі нарадзіла мяне на свет Сігрыт. Ён паклаў сваю буйную галаву ў Х'ятландзе*, калі ваяваў там з мясцовымі горцамі, - юнак раптам зазірнуў у дымна–шэрыя вочы Надзеі.

- А цяпер, Хільд, твой аповяд выслухаць жадаю. – мовіў ён. – Ты знатнага роду?

Надзея пацiснула плячамі і адказала:

- Я не люблю ўспаміны. Мінулае пячэ мне сэрца. Што тычыцца роду майго, то вікінгі з Селунда высеклі ўсіх у маім паселішчы – ад барадатых мужчын – воінаў і паляўнічых, да немаўлят. Бацька мой быў звераловам. Не аднойчы з рагацінай адзін супраць мядзведзя хадзіў і, як амаль што ўсе мужчыны нашага роду, спрытна зброяй валодаў – хвацка на сякерах ды паліцах біўся. Не аднойчы па зову кнёзаў у паходы хадзіў. На маіх вачах забілі яго даны...

Дзяўчына ўздыхнула, а Лют, рукамі развёўшы, хацеў нешта мовіць, але ў гэты момант, раптам пачуўся гучны лямант:

- Дракі!** Дракі! О, багі!

Ад борта адскочыў К'ятві Чарнавалосы і, нешта гаворачы, паказваў пльцам на мора. Лют і Надзея ўскочылі з месцаў сваіх і тут жа здранцвелі. Вікінг схапіўся за нож на поясе, а славенка, замёршы ля мачты, з жахам глядзела на вялізную галаву цмока, якую мерна калыхалі хвалі побач з ладдзёй.

- Ёрмунганд!*** – у захапленні шапнуў Лют. З жахам сачылі за цмокам мараходы; глядзелі ў халодныя бурштынавыя вочы марскога дракона, галаву якога яны вырэзвалі на сваіх ладдзях. Яго чорная луска адлівала сінню пад сонечнымі промнямі, цела было схавана вадою, але па вялізнай галаве пачвары Надзея здагадвалася пра яго жудасныя памеры.

- Гэты вадзяны гад, як шкарлупіну ад яйца, можа раздушыць дракар, - шаптала славенка Люту.

- Ульф, Харгар і Споры, раней таксама бачылі гэтых

* ***Х'ятланд*** – *Шатландыя.*

** ***Дракі*** *–так вікінгі называлі вялізных марскіх рэптылій.*

*** ***Ёрмунганд*** *- сусветны змей, які жыве ў моры і акружае сваім целам усю зямлю, кусаючы свай хвост.*

вялізных змеяў. Але вось, як бачыш, яшчэ жывыя, - пацiснуў плячамі юнак. Звер крыху раззявіў зяпу, усеяную дробнымі вострымі зубамі і павольна скіраваў да ладдзі сваё магутнае цела. Надзея сутаргова праглынула сліну, убачыўшы шырачэз-ную спіну пачвары, якая паказалася скрозь хвалі.

- Што Ульфаў карабель, - дакрануўшыся далонямі шчок, прамармытала дзяўчына.

Вікінгі, нягучна лаючы звера, адступілі ад борта. Уладар мора быў ужо блізка. Хадгар, успамінаючы багоў, палез пад насціл палубы, дзе ў паходах вікінгі захоўвалі зброю, па свой улюбёны молат. Толькі хёўдынг застаўся на месцы. Скрыжаваўшы на грудзях магутныя рукі, Ульф спакойна назіраў за монстрам, галава якога ўжо навісала над ладдзёй. За хёўдынгам сталі Хадгар Мядзведздь са сваім адзіным сваяком – молатам, а таксама Лют Золатавалосы, узброены дзідай. Але падняў правадыр руку і мовіў:

- Спакойна, хлопцы, спакойна. Змагацца з Дракі мы не можам. Ён хутка пойдзе па сваіх справах Імгненнем пазней, быццам пачуўшы вікінга, пакруціў крыху цмок доўгай шыяй, зірнулі на Ульфа рыбіны вочы. Гучны ўздых вырваўся з ноздраў разам з салёнымі пырскамі вадкасці і Дракі апусціў галаву сваю, бранёй лускаватай крытую, пад ваду. І хвалі, узнятыя магутным целам, закалыхалі дракар, дужа заплюхаўшы нарманаў. Але яшчэ доўга Надзея на мора глядзела, дзе ў бездані змрочнай знік вястун Гаспадара Марскога.

- Што, дзева, напалохалася, як я бачу! – зарагатаў Хадгар, зірнуўшы на славенку.

- Не больш, чым вы ўсе, - усміхнуўшыся адказала яна.

- Ды гэта што, Хільд – валькірыя. Дракі, звер марскі! Вось дзіва якое. Ну, хёўдынг, я ды Хадгар у Свеі з ётунам* змагаліся і перамаглі яго! – рукі ў бокі стаяў вікінг, назіраючы ў вачах дзяўчыны зацікаўленасць. – А потым самі галовы ламалі – думалі, як падужалі гэткую пачвару лютую. Аднойчы, даўнім часам, гасцявалі мы зімою ў Сігурда Валовай Шкуры. Дачку сваю, красуню – Сігню ў жонкі Рангвальду ярлу аддаваў. Эх жа і балявалі мы! Цудоўна балявалі, вось як. Але бяда неспадзеўкі здарылася. Мядзведзь – бадзяга ля сядзібы наладзіўся жывёлу драць. А аднойчы, трэля ды бабу бонда**

* ***Ётун*** *– злосны велікан у міфалогіі скандынаваў.*

** ***Бонд*** *– вольны селянін.*



аднаго, што цяжарная хадзіла, ураз зарэзаў, падлюга, ды ў жанчыны той дзіця з чэрава выесці паспеў. Вырашылі мы тады паскудніка гэтага знішчыць. Я пайшоў, Хадгар, Альф Крумкач і Ульф. Маладым наш хёдынг у той час быў, але ўжо слава наперад яго бегла. У сечы люты і адважны, мудры на тынгу*, нібы стары разважае. А звер той кульгавы быў, на парэднюю правую лапу. Людзі казалі, што і не звер гэта зусім, а пярэварацень. Дужа хітры быў і асцярожны. А як крыві чалавечай пакаштаваў, то болей скаціны жэрці не жадаў. Людажэрца! Абрыд ён нам, падлюка, дужа абрыд. Доўга мы яго асочвалі. І, урэшце рэшт, багі дапамаглі нам. Забілі мы бадзягу лютага. І тады ў лесе заначаваць нам прыпала. Марозіла той ноччу люта. Зоркі бліскацелі як ніколі, снег іскрыў рознакаляровымі агеньчыкамі ў святле поўні. Чароўная была ноч. Усё жыццё помніць буду, - вікінг уздыхнуў і пагладзіў сівыя вусы. – Дык вось. Была ўжо поўнач, калі ўчуў Ульф, што ля вогнішча нашага нехта блукае. Але, ці ж мала рознага звяр'я ў нетрах лесу? І толькі адышоўся Альф ад агню, патрэбу сваю справіць, а на яго, з-за ламачча-буралому, кінулася пачвара крыважэрная! Раптоўна быў Альф жыцця пазбаўлены – толькі крывавыя кавалкі на баках! Вось які валацуга бадзяўся ў цемры за бураломамі. Калі выпрастала спіну страшыдла, вось тады упершыню я жах зазнаў. Гэта быў ётун! Вочы яго жоўтыя раз'юшана за намі сачылі. Грудзі ў яго мядзведжыя, шырачэзныя плечы, а рукі – ногі сілы неймавернай. Увесь шэрсцю парос, нібы звер, а твар чалавечы, ды толькі дужа жудасны. Схапілі мы зброю. Што гэта сапраўдны ётун, мы нават і не сумняваліся. Знямелі мы з Хадгарам, чаго тут таіць, на зброю сваю верную не дужа спадзяваліся. А Ульф, меч з похваў прэч і на ворага кінуўся з крыкам: "Беавульф** адзін забіў Грэндэля, а нас трое". Велікану ён тады сцягно працяў і па грудзях секануў. Роў той, што снегавая бура. Я і Хадгар таксама не чакалі. Ён ворага нашага ў жывот молатам выцяў. Гэтым жа молатам Хадгар Мядзведзю бадзяжаму чэрап праламаў. А ётун толькі вохнуў і згроб крыўдзіцеля свайго ў ахапак. Усё, думаю, згіне Хадгар. І ўвагнаў я рагаціну ў грудзі велікана, а Ульф, тым часам, руку яму адсёк. Кінуў тут ётун чалавека і, падвываючы,

* ***Тынг*** *– усеагульны мясцовы сход.*

** ***Беавульф*** *– гоцкі герой, які забіў злоснага велікана Грэндэля і яго маці.*





як сабака пабіты, у гушчар кінуўся. Хадгару цяжка было. Дужа прымяў яго чужынец. Ледзьве душу прэч не вытрас. Хварэў потым Хадгар доўга. А руку тую, мы з сабою ўзялі. Калі убачыў яе Сігурд Валовая Шкура, то мовіў нам, што пачвар гэтых не аднойчы на паляванні бачыў. Ці то ётуны, ці то тролі горныя? Але да гэтага выпадку, людзей пазбягалі яны, саступалі з дарогі і зла не чынілі. Вось як было, дзева, - скончыў свой аповяд вікінг.

А "Марскі Змей", паміж тым, борзда нёс находнікаў да берагоў чужых. Паласатае вятрыла, туга надзьмутае моцным спадарожным ветрам, радавала вочы весляроў. І разносілася над Сцяжынаю селядцоў суровая песня паўночных мараходаў.

Дракар упёрся дном у пясок і застыў. Чорны і страшны. Ульф першы саскочыў у ваду і драпежна азірнуў бераг. Вікінгі выцягнулі карабель на жоўты прыбярэжны пясок. І вось ногі Надзеі, нарэшце, дакрануліся цвердзі зямной. Дзяўчына на поўныя грудзі ўдыхнула халоднае паветра, насычанае пахам мора і водарам хваёвага бору, які рос побач з узбярэжжам. Галава крыху закруцілася, прыемна засадніла ў лёгкіх. Гэта было асаблівае паветра – паветра Бацькаўшчыны. І няхай яшчэ далёка да Ладагі, але люд тутэйшы пад уладай кнёзавай знаходзіўся. Селішчы весі, якія знаходзіліля яшчэ і далей, таксама спраўна Рурыку даніну адсылалі. Яна каштавала спакою. Поруч з Надзеяй стаяў Лют.

- Заўтра, ваяўніца, на ўсе чатыры бакі ідзі. Адпускае цябе ярл.

- Перадай правадыру маю падзяку, Лют, - адказала славенка.

Душу яе мучыў боль. Забіваць і паліць будуць даны на берагах гэтых. Надзея змрочна назірала, як вікінгі рыхтуюць простае станавішча. Ведала славенка, на дзень шляху адгэтуль, стаіць паселішча людскае, дзе старастам Цвярдзята Кіянін – воін стары. З Кіева ў Ладагу, да князя Вадымы прыйшоў. Пасля смерці ж яго, Рурыку служыў стары. І як прымучыў кнёз люд тутэйшы, цвержы ўзвёў, пакінуў Цвярдзяту за старэйшага. Нядужы стаў стары ў паходы хадзіць – немачы розныя, у сечах набытыя, апаноўвалі. Аслабелі яго магутныя рукі, ужо не так моцна сякеру трымалі, але не слабеў дух старога. Жорстка трымаў стары воін паляўнічых тутэйшых пад нагою сваёй.



Спуску нікому не даваў, і спраўна даніна ў Ладагу ішла. Вояў дастаткова меў Кіянін, не раз весей ды славен ад находнікаў ратаваў.

Надзея добра помніла змрочнага, пасівелага на службе ўладарам старога з цяжкім норавам. Сівы, як лунь, хударлявы, з драпежным носам і вільгаццю ў светла-блакітных вачах, якія ўжо выцвілі ад часу; прымаў ён у святліцы сваёй грыдзяў Раціборавых, сярод якіх і Надзея была.

"Калі сёння ноччу ўцяку, усё роўна папярэдзіць яго не змагу, не траплю ў час. Ульф будзе там раней майго. На ладдзі па рацэ падымецца і знянацку зможа напасці на Цвярдзяту," – славенка зірнула ў бок Ульфа Марахода.

Меднавалосы воін пра нешта размаўляў з Інгаліфам Збраяром. Побач, на мячах разміналі цяглíцы Лют і Леафрык Саксонец. Назіраючы за гэтымі маладымі, моцнымі хлопцамі, Надзея ўспамінала Хальудана. Толькі цяпер зразумела дзяўчына, як дужа любы ёй быў малады вікінг.

Калі ўкутаў вячэрні морак зямлю, пачалі даны да начлегу рыхтавацца. Каб на досвітку, а то і раней, у набег ісці свежымі і адпачнуўшымі. Не магла зразумець Надзея, чаму спяць даны, а не ўначы кіруюць да цвержы Цвярдзятавай? Можа сам Пярун не ведае, што робіцца ў галаве Ульфавай!

Прытушылі вогнішча, і Надзея, прыпёршыся да шурпатага вялізнага каменя спіною, задумліва глядзела на гарачую барву вуглёў. Ціхае, прытухлае полымя кідала дрыготкія водсветы на яе твар, дужа схуднелы за апошні час. Полымя дрыжала і білася ў яе глыбока запалых вачах. Таемна зіхацелі яны, адбіваючы прывіднае святло зорак. Хальуданаў дар, якому яна дала імя Сякач, драмаў ля яе ног. Цішыня запанавала над сонным станавішчам. Пад грукат прыбою, сплюшчвала дрымота павекі воінам сваімі пяшчотнымі, мяккімі рукамі. Чуліся толькі роўныя, мерныя крокі вартавых, якія ахоўвалі сон сваіх братоў па зброі.

- Чаму не адпачываеш? – пачуўся над галавой Надзеі нягучны голас.

Славенка схамянулася, рэзка падняла галаву і ледзьве не ўскочыла. Сэрца калюча адгукнулася болем і гулка затахкала, нібы жадала разарваць грудзі. Над ёй узвышаўся хёўдынг, які заўсёды хадзіў нячутна. Локцем ён апіраўся на вяршыню валуна, якая цалкам зарасла мяккім мохам.

- Чаго табе, хёўдынг, - прамармытала Надзея, апускаючы вочы, каб пазбегнуць яго халоднага позірку.

Раптоўна, вікінг нахіліўся і сеў побач. Надзея аблізала ўраз перасохлыя губы. Яе і палохаў гэты чалавек, але і прыцягваў. Прыгожы быў гэты паўночны воўк, магутны і незразумелы.

- Чаму палохаешся мяне, дзева? – спытаў ён. – Не звер жа, не грызяну.

- Я не баюся цябе, хёўдынг, - адказала дзяўчына.

Ульф кіўнуў галавой. У хісткім святле вуглёў яго валасы, здавалася, палалі. Яны доўга сядзелі моўчкі і глядзелі на патухлыя вогнішчы. І Надзея зноў адчувала вялікую і таемную сілу, якая хвалямі ішла ад яго. Дзяўчыне здавалася, што вось так, моўчкі, сядзяць яны ўжо цэлую вечнасць, але ўрэшце правадыр мовіў:

- Уцячы спадзяешся, Хільд? – вікінг усміхнуўся. – Ты гэта з галавы выкінь. Вартавыя заб'юць. А Цвярдзяту Кёнугардскага* папярэдзіць ўсё роўна не паспееш. Я там першы буду. А зрэшты, не трымаю цябе. Калі ахвота прыспела – ідзі.

Надзея крадком зірнула на горды, арліны профіль правадыра.

- Адкажы мне, хёўдынг. Зразумець не магу, чаму ты даў адпачываць сваім воінам цяпер, калі самы час ісці на Цвярдзятаву цвержу і на досвітку знянацку выцяць!

- Чакаю, - усміхнуўся хёўдынг.

- Каго? – Надзея нахмурыла бровы.

- Унь, яго, - адказаў Ульф.

Надзея павярнула галаву і ўбачыла, як з цемры, разам з вартавым, да важара ішоў высокі, худы чалавек, апрануты ў воўчыя шкуры. За спіной яго вісела цяжкая баявая сякера, у руцэ ён трымаў дзіду.

- Я чакаў цябе Эдмунд, - сказаў Ульф. – Думаў, здарылася што – сціснуў яго важар у абдымках.

- Як ты, ярл!

- Я цяпер хёўдынг, - адказаў з усмешкай Ульф. – Але аб гэтым потым. Што мне скажаш ты?

- Усё, як трэба, правадыр. На золку мае людзі заб'юць вартавых і расчыняць браму. Цвержа наша! Здабыча добрая будзе. Але чаму бачу я толькі адзін карабель, калі меней за два

* ***Кёнугардскі** – Кіеўскі. **Кёнугард** – Кіеў.*



дракары не хадзілі з табою ў паходы?

- Я забіў Магнуса ярла і Грэціра хёўдынга. У Даніі я па-за законам. Але гэта доўгі аповяд.

- Калі не трымаеш, хёўдынг, пайду я! Бывай,- сказала Надзея.

- Хто гэта? – спытаў правадыра Эдмунд.

Ульф не адказаў яму. Адвярнуў да дзяўчыны сваю гордую галаву і вецер, які веяў з поўначы, з мора, узварушыў яго львіную грыву. Вочы яго, заўжды халодныя, як у арла – цара птушынага і мудрыя, як у змея – дракона магутнага, задумлівыя цяпер былі. І ўбачыла на дне іх Надзея цень змрочны – прадвеснік тугі. І зразумела дзева, які адзінокі гэты воін, усе жыццё якога – ахвяры крывавыя Аднавокаму прыносіць. Кіўнуў меднавалосай галавой дан і толькі адно слова вымавіў:

- Ідзі...

Прыладзіўшы на спіне меч, Надзея спорна крочыла да дрымучага лесу, і цемра хутка прыняла яе ў свае абдымкі. А хёўдынг доўга глядзеў услед дзеве той, пакуль не знікла з вачэй яе гнуткая постаць. Аб нечым сваім думаў, віслы вус на палец накручваў. І блукаў у бездані яго вачэй цень – цень адзіноцтва, маркоты і кахання, якое бязлітасна бярсерк з сэрца свайго вырваў.

- Падымай воінаў, Глум. Дракар на хвалі, мы выходзім! – Ульф паклаў на плячо Эдмунду сваю далонь. Хадзем, пабрацім, шмат аб чым пагаманіць трэба.

А Надзея бегла па начным гушчары, скрозь бураломы прадзіраючыся, у кроў абдзірала рукі і твар. І шлях ёй зоркі вызначыць дапамагалі: "Здрада! – Пульсавала ў скронях. – У цвержы Ульфавы шпегі. Цмока крыважэрнага грэў на грудзях Кіянін. Мабыць, быў гэты Эдмунд з кмецямі сваімі ў яго ў наймітах"!

Пільна сачылі звяры і птушкі лясныя, як, цяжка дыхаючы, уперад і ўперад мужна ідзе дзева-воін, і сцёбаюць па твары яе галіны дрэў. Але вось, спынілася славенка, падагнуліся калені яе і павалілася Надзея ў сыры мох і горка-горка заплакала. І ведалі жыхары лясныя, што страціла сцежку дзяўчына. Мабыць, чымсьці ўгнявіла ляснога дзеда – лесуна. Зазлаваў стары і вадзіў цяпер па бураломах і кустах калючых яе. Стаміў ды і кінуў у гушчары. Але ж, мусіць, пашкадаваў ён, урэшце, слёзы дзявочыя, і адшукала яна сцяжыну патрэбную.





Калі нетры лесу выпусцілі дзяўчыну на прастору, яна ледзьве трымалася на нагах, скрываўленая, мокрая ад поту, праз некалькі вёрст хады, з жахам убачыла яна за маладзенькім ляском, які рос на месцы закінутага аратымі поля, густы дым. Чорнай хмарай ён поўз па небасхілу, нібы жудасны крыважэрны цмок. Надзея цяжка села на зямлю і заплюшчыла вочы. З-пад павек на сасмяглыя вусны скацілася салёная сляза. Надзея плакала.

Панура азірала Надзея сляды жахлівай разні, якую ўчынілі даны. Вочы яе пачырванелі, павекі прыпухлі, твар быў брудны і абдзёрты, на вейках уздрыгвалі слёзы. Яшчэ дымілі спаленыя хаты, каля якіх ляжалі забітыя, жорстка пасечаныя людзі – жанчыны, дзеці і старыя. Вікінгі нікому не давалі літасці. Шэры попел быў на іх тварах. Кроў запяклася на страшных ранах. І варушыў прыціхлы вецер валасы мерцвякоў, песціў іх бледныя твары, нібы шкадаваў дачасна загубленае жыццё.

Дзяўчына заплюшчвала вочы, калі позірку яе з'яўляліся немаўляты з жыватамі працятымі, дзеўкі ды жанчыны аголеныя, якіх згвалцілі і забілі чужынцы-находнікі лютыя. Рацібор заўсёды казаў, што няма без крыві набегу. Так -то яно, так. Але ж даны рэзалі ўсіх! Начынне – рэчы ды посуд розны, якія каштоўнасці для вікінгаў не ўяўляюць, побач з мёртвымі ў попел і гразь крывавую ўтоптаны. Адшукала Надзея і Цвярдзяту Кіяніна. У адной кашулі споднай, не паспеў нават броні надзець, ляжаў стары, увесь скрываўлены, пасечаны варожымі мячамі, да зямлі дзідай прыбіты. Яго худая, цёмная, у старых шнарах рука, моцна трымала цяжкую сякеру. Добрая была зброя – на чэрані доўгім, з залатою насечкай па блакітнай сталі! А побач, ля ног старога, дацкі шалом, ад моцнага выту надтрэснуты. Да апошняга змагаўся княжы вой і лёг з гонарам. Пэўна, у светлым ірыі цяпер душа яго. Поруч з правадыром загінулі яго воі. Жорстка пасечаныя былі кмеці Цвярдзятавы. Да апошняй кроплі крыві змагаліся з ворагам. Аднаго з іх – юнака ў кружок астрыжанага, з валасамі, колеру спелай саломы, пазнала Надзея. Бокшай клікалі. Раней у отраках* у Рацібора ваяводы хадзіў, ды за грыдзем Вышатай тарчу і дзіду насіў. Ляжаў зараз Бокша, і грудзі яго магутным ытам праламаныя былі. Пена крывавая ля вуснаў засохла. Здзіўлена глядзелі яго васільковыя

---

**Отрак* – малодшы воін у дружыне.



вочы, смерцю замутненыя, міма дзяўчыны, недзе ў далеч.

- Хадгар – шапнула Хільд. – Трэба ж, як хлопца выцяў.

Зляталіся на папялішча крумкачы. Жудасна крычалі чорныя птушкі і ўсаджваліся на мёртвыя целы. Узлахмачаныя сабакі пільна сачылі разумнымі вачамі за чужым чалавекам, але не брахалі, саступаючы з дарогі. У паветры лятаў моцны пах смерці і крыві. Захаладзела ў грудзях дзяўчыны, горкі камяк раптам з'явіўся ў горле, калі чуйнае вуха яе пачула нібы плач дзіцяці. Абышла ваяўніца спаленыя хаты і ўбачыла, як ля цела маці, ціхенька слёзы глытае дзяўчынка год сямі, размазваючы салёную расу вачэй сваіх па бруднаму тварыку. Надзея на хвіліну заплюшчыла вочы, і па шчаках зноў папаўзлі гарошыны-слёзы.

... Дым! Чорныя клубы дыму ўздымаюцца ў неба. Ляск жалеза, лямант людскі і пах крыві... Кроў! Усюды кроў! Вялізны воін, як кацяня, валачэ забруджаную гноем дзяўчынку. Яна крычыць, кусаецца і абдзірае яму руку, але ўбачыўшы забітую маці, заціхае. Твар жанчыны заліты крывёй, у гразі яе цудоўныя залацістыя валасы. У руках сякера для колкі дроў. Схаваўшы маленькую дачку ў хляве, яе маці падхапіла сякеру і, нібы ваўчыца, кінулася на аднаго з рабаўнікоў, але той лёгка злавіў яе на меч...

Нячутна з'явілася Надзея ля дзяўчынкі і ўзяла яе на рукі. Але тая з віскам, балюча ўкусіла ваяўніцу за плячо. Надзея моцна прыціснула дзіця да грудзей і ласкава загаварыла. Зразумеўшы родную мову, малая пачала супакойвацца. Рукамі шыю дзяўчыны абвіла і ціхенька ўсхліпвала.

... Паставіў кмець магутны дзеўчанё перад ваяводам грозным. Вочы ў таго, колеру жоўтага, як у вепра – агонь праменяць. Правая рука ў сечы лютай нядаўняй адсечана – анучына на куксе ўжо крывёй набрыняла. У барадзе і скронях ваяводзіных срэбра блішчыць. Твар шэры, быццам гліна, ад працы ратнай ды нягод розных. Суровы абліччам правадыр, ды норавам круты, але на дзеўчанё малюткае зірнуў і памякчэлі вочы яго вогненыя. Дзіця па галоўцы крыху пагладзіў, ды слова ёй ласкавае мовіў...

Пяты дзень хіліўся да скону. Захад ужо палымнеў на даляглядзе, а Надзея ўсё ішла. Да Ладагі было яшчэ далёка. І вось вынеслі дзеву ногі на бераг невялічкай бухты марской.





Згаладалая і змучаная, з хворымі чырвонымі вачамі, скацілася ў яр дзяўчына, у ракіты зялёныя, і адразу яе сон змарыў. А дзяўчынка, Знаходачкай празваная, гладзіла маленькай ручкай яе мокрыя валасы і нешта ціхенька напявала. У галінах шчабяталі дробныя птушачкі, вецер ледзьве шапацеў лістотай, а зямлю павольна апаноўваў змрок. Моцна спала Надзея, упершыню з дня паходу з Хенгістам.

З куточка крыху раззяўленага рота сцякаў празрысты струменьчык сліны, і сны дзяўчына бачыла добрыя. Не чула Надзея плёскату вёслаў і гаворкі мужчын, не бачыла, як увайшлі ў заліў тры ладдзі, ды да берага прысталі. Але дзяўчо – знайдыш, выкарабкаўшыся з яру, пільным вокам сачыла, як светлавалосыя, бараданыя мужы сходзяць на ўзбярэжжа ды станавішча сабе ладзяць, начаваць збіраюцца. Дзяўчынка кулём скацілася па падгнілай лістоце ўніз і разапхала Надзею, прыклаўшы палец да пухленькіх дзіцячых вуснаў. Шырока раскрыўшы свае вялізныя зялёныя вочы, шапнула яна ваяўніцы:

- Кмеці на лодзях з'явіліся.

Загадаўшы дзяўчынцы заставацца на месцы, Надзея падхапіла меч і нячутна выслізнула з ракітніку. Дзесьці недалёка стукалі сякеры.

- Лодзі славенскія, - выдыхнула Надзея, адчуўшы, як у яе круціцца галава

Дзяўчына непрыкметна падкралася крыжу бліжэй, спрабуючы, як мага лепш разглядзець воінаў.

- Можа новагародцы? – шаптала яна, чуючы родную мову. Але тут позірк яе вызначыў з натоўпу высокага чорнавалосага мужа. Ён, заклаўшы рукі за папругу, нешта цярпліва тлумачыў бязвусаму юнаку. Мабыць, отраку, ці можа уну*.

- Вышата, Вышата! Родненькі! – крыкнула Надзея, прадзіраючыся скрозь галіны.

Вышата, а гэта быў ён, грыдзень з дружыны Рацібаравай, рэзка павярнуўся на крык. І праз слёзы радасці ўбачыла дзева свежы жудасны рубец, які ўспух цераз увесь твар кмеця. Упала яму на грудзі Надзея, моцна за шыю абняла, і затрэсліся ад плачу яе худыя плечы.

- Ці ж ты гэта, дзяўчыначка? – мармытаў Вышата,

* *Ун – у княжай дружыні, самы малодшы яе член, які яшчэ не стаў кмецем і прыслугоўвае грыдзям.*



шурпатай далонню, цалкам у мазолях ад вясла і зброі, гладзячы яе зблытаныя валасы. – Ну годзе, годзе ўжо табе.

І вось сядзела ля агню Надзея, плашчом з воўчых шкураў накрытая, нібы коўдрай. З ротам, напханым хлебам і вяленай аленінай, распавядала воям гісторыю сваю. Да бока яе ціснулася Знаходачка. Жывот дзяўчынкі стаў круглым, як гарбуз, ад з'едзенага мяса, але яна ўсё ж з асцярогай паглядвала на незнаёмых суровых мужчын. У полымі вогнішча насцярожана ззялі яе вялікія вочы. Сядзеў насупроць Надзеі Буявіт ваявода, а ля яго мужы лепшыя – воіны славутыя: Вышата, Летка Гюрацiч, Глузд Усяславіч, Мсціслаў і Васілёк Дабранежычы. Навокал жа цесным колам скупіліся кмеці, і горача было ад іх дыхання. На небе ўжо высеяліся зоркі, а вoі ўсё слухалі аповяд Надзеін. І, калі спынілася на гарадку Цвярдзяты Кіяніна, які спалілі нарманы, нахмурыў Буявіт бровы сівыя, якія зрасліся на пераноссі і зычна гаркнуў:

- Гэй, Раданеж! Цягні сюды бярсерка – звера лютага.

Малады, светлавалосы грыдзень кіўнуў паплечнікам і накіраваўся да караблёў, а Буявіт весела на Надзею зірнуў.

- Ну, можа хоць крыху пацешыць цябе змагу. Натоўп воінаў расступіўся, і двое дужых хлопцаў на чале з Раданежам цягнулі да вогнішча скручанага скуранымі паскамі чалавека.

- Пабач, дзяўчынка мая, ці пазнаеш?

Вязень падняў галаву, і Надзея з жахам угледзелася ў яго скрываўлены твар.

- Ульф, - прамармытала дзяўчына. – Няўжо ты!

Вікінг крыху расцягнуў ва ўсмешчы рассечаныя мячом вусны, не звяртаючы ўвагі на боль. Кроў лінула з раны. Славенка ўздрыгнула. Жудасная была гэта ўсмешка, зусім як у Рагнара Крыважэрцы. На галаве датчаніна ад крыві зліпліся валасы. Левае вока заплыло ад выту і нічога не бачыла. Нос перабіты, на чале шрам доўгі, сукравіцай цячэ. Але яго лёдзіста – сіняе вока, як заўжды, спакойнае і халоднае. І бачыць у яго пазірку Надзея пагарду да ворагаў. Нічога не сказаў ёй хёўдынг, толькі крывёю Вышаце пад ногі плюнуў.

- У-у, варожы выкармак! –Раданеж пхнуў яго ботам паміж лапатак, і вікінг моўчкі зарыўся тварам у пясок.

- Не смей! – раптам гучна вымавіла Надзея, прыўстаўшы з месца.

Буявіт бровы нахмурыў.

- Ганебна, ворага палоннага...

- Цыц! – рыкнуў ваявода. – Я тут вырашаю, што годна, а што не! – стары зыркнуў на Раданежа вачамі суровымі. Мільганула ў іх злое полымя. – Вязьня біць – патрэбы няма. Зразумеў? Цягні яго з вачэй прэч.

Буявіт зірнуў на дзяўчыну і скурчылася яна пад яго калючым позіркам.

- Ганебна, кажаш? А ім, жонак ды дзяцей нашых сячы і на дзіды падымаць, годна? Паселішчы, ад старога да дзіцяці знішчаць – тое годна? Матак сякерамі сячы? Вось так вось. Але ўжо не сваволіць болей Ульфавай зграі на землях нашых. Самі багі прывялі "Марскога Змея" нам на мячы ды пад сякеры. Даўнютка я за бярсеркамі гэтымі паляваў. Да смерці абрыдлі яны кнёзу. Сяляне ў роспачы жывуць. Дужа разгуляліся вікінгі сялундскія. Вось і паслаў нас кнёз дазорам на моры. І тут, на табе – удача якая. Яшчэ не астыла кроў на сякерах іхніх, апрача. Цвярдзяты, яны яшчэ два вялікія сёлішчы сплюндравалі, як нос да носу з намі сутыкнуліся, - пякучым агнём пашлі вочы ваяводы, калі ўспамінаў ён бітву жорсткую, кулаком па раскрытай далоні пляскаючы. – Сёрбнулі даны гора. Дзвюма ладдзямі дракар мы ў абцугі заціснулі. Але яны ўцякаць не думалі! Вікінгі не ўцякаюць. І была сеча лютая. З адчаем секліся даны. Воіны яны ладныя, а дружына Ульфава мацёрая. Нас не дужа і болей за іх было. Вядома ж, Ульфаў дракар, як дзве снекі нашыя! Але перамагаць мы пачалі ворагаў – ваўкоў паўночных. А тут яшчэ Глузд Усяславіч неспадзеўкі наляцеў. Так вось, значыцца, і знішчылі мы ваўчын даўніх. Вымаша, унь, братку Ульфава на меч падлавіў. Малайчына. Не кожны з бярсеркам падужацца зможа. Не бяда, што мордай цяпер дзевак і дзяцей палохаць стане, - аглушальны рогат ладажанаў разнёсся па ўзбярэжжы. – Каб не шалом з лічынай, быць яму забітым! Усіх мы выразалі. Няварты яны жалю. Ульф з, Хадгарам апошнія засталіся. Слаўныя воі! Хадгара дзідамі працялі ды ў мора скінулі. А вось хёўдынга, я жыўцом узяць загадаў. Ледзьве звязенілі. У Ладагу вязём. Шмат крыві ён нам выпіў. Многіх вояў добрых пасек і скалечыў – звер, не чалавек. Ледзь падужалі. Усямір абухам па патыліцы сабаку шалёнага выцяў, з ног зваліў, а ўжо там скруцілі. Кмеці смерці яго патрабавалі. Шмат у каго ён сваяка ці пабраціма забіў. Ды я не згадзіўся. Як ні як, а ён - ярл дацкі! Вязень знатны. Няхай князь яго лёс вырашае.



Буявіт апусціў сваю вялікую галаву, вусы сівыя прыгладзіў. Уздыхнуў, гледзячы на свае магутныя, як ціскі, рукі з нягнуткімі пальцамі і мовіў:

- Вось я табе што скажу. А ты мужнай будзь. Помні, што не баба – воін. Памёр наш кнёз Рурык. Так вось, Надзея, памёр. На месца яго Вольг сесці хоча, жадае ўладу пад сваю руку браць. Вось нас і нагнаў Глузд Усеслалвіч. Загад нам Вольгаў прывёз дамоў вяртацца. Маўляў, быццам бы, прызнала чадзь лепшая* Вольга! Сын Рурыкаў – Інгар, яшчэ дужа малы для пасаду княжага. Калі мяняюцца валадары, сама ведаеш, смута крывавая ля дзядзінца заўжды ходзіць. Распавядаў нам Глузд, не пажадаў Вольга Рацібор Маўчун на пасад княскі. Маўляў, дужа ганарлівы, значыць, Вольг, звычаі славенскія не паважае. Вось і паплаціўся галавою стары за словы такія. Людзі living рознае кажуць. Адзін гаворыць, што забілі Маўчуна па загаду Вольга, другія, што сам кнёз, сваёй рукою засёк. Будзь жа мужная, дзяўчынка. У жыцці шмат болю. Ён мне таксама пабрацімам быў, ты тое ведаеш. Шмат бітваў поплеч выстаялі.

- Адпомсці ж Вольгу, баярын! – ускрыкнула Надзея, скідаючы з плячэй воўчы плашч.

Славенка стала на ўвесь рост. Барва цякла ў яе вачах, уздрыгвалі вусны, да крываі пракушаныя.

- Адпомсці, ваявода!

- Маладая ты яшчэ, Надзея. Можа зразумееш з часам, можа не, але помсціць за пабраціма я Вольгу не буду! Зла на яго не трымай. Для помсты крывавай момант нязручны. Усобіца ворагам нашым, данам асабліва, на руку. Ды і ў навагародцаў рукі свярбяць на варагаў. А Вольг, сама разумееш, птушка высокага лёту.

Але ўжо не слухала ваяводу Надзея. Марудна цягнула ногі па ўзбярэжжы марскім і вецер дыхаў холадам на яе гарачы твар. І здзімаў вецер з вачэй яе слёзы празрыстыя. І тут, раптам, тройчы крыкнуўшы, над вогнішчамі прамільгнуў цень вялізнага крумкача.

- Цьху ты, нечысць! Цур мяне! – адмахнуўся ваявода.

- І праўда, погань, - згадзіўся Вышата. – Крумкачы не совы, па начах не лятаюць.

Надзея, абхапіўшы далонямі калені, пазірала на жоўтабарвовыя языкі агню, калі побач сеў Вышата. Некаторы час,

* *Чадзь лепшая – старэйшыя воіны ў дружыне.*





моўчкі сядзеў грыдзь.

- Уся дружына, Надзея, па Рацібору смуткуе і журыцца. Цяжка на сэрцы ў вояў, - мовіў нарэшце ён. – Слаўны быў ваявода і розумам, і доблесцю. Вольг – ліхадзей, але супроцьстаяць яму няма сілы. Смерці мы не баімся, гэта не аднойчы ў сечы багі бачылі. Вочы ў вочы Маране* глядзелі. Ды толькі слушна Буявіт кажа, нельга зараз смуту чыніць. А там пабачым. Воін уздыхнуў і махнуў далонню.

- Паднясі вады мне, Вышата, - папрасіла Надзея.

Кмець хутка вярнуўся з вялізнай чарай – брацінай.

- Вось, трымай.

- Дзякуй.

Надзея прыняла кубак на рукі і ўстала.

- Куды ж ты? – спытаў Вышата.

- Гэта дану, напіцца, - адказала яна. – На Эрыне ён жыццё мне выратаваў, а потым і на волю адпусціў.

Вышата пацінуў плячамі і кіўнуў.

Ульф ляжаў на баку, прыклаўшы шчаку да холоднага каменя. Вяроўкі туга ўразаліся ў яго цела, перацiскалі жылы, і кепска кроў па іх хадзіла Апухлі чэлясы воіна, боль грызе не толькі цела яго розбітае, але і душу. Моўчкі пакутуе вікінг, як і належыць мужу і воіну. Ні аднаго стогну не пачулі ад яго ворагі. Калі Надзея досыць наблізілася, дан падняў галаву, і ў святле поўні бліскaнула яго вока адзінае. Другое яшчэ не бачыла. Сінню і неўтаймаванай адвагай гарэў яго позірк. Вартавыя сядзелі крыху далей і, гамонячы паміж сабой, не звярнулі на дзяўчыну ўвагі. Дзева прысела побач вязьня і чару да рассечаных вуснаў наблізіла.

- Пі, хёўдынг, - ціха мовіла яна.

Уважліва зазірнуў ёй вікінг у вочы, але вытрымала яго лёдзісны позірк дзяўчына. І хоць жорстка ад смагі мучыўся бярсерк, але ўсё ж марудзіў вуснамі да жыватворнай вільгаці дакрануцца.

- Пі ж, - паўтарыла Надзея, нахіляючы брацiну.

Сцюдзёныя кроплі ўпалі на знявечаныя вусны, і Ульф з годнасцю зрабіў некалькі глыткоў. Надзея, па баках зірнуўшы, спрытна з-за халявы нож выхапіла ды путы вязьня перарэзала. Нож жа побач у пясок уваткнула. Доўга ляжаў датчанін, ногі

---

***Марана** *– злосны дух, ўвасабленне смерці.*



ды рукі цёр, кроў на жылах разганяючы.

- Навошта табе гэта? - нарэшце мовіў ён.

Размаўляць яму было цяжка. Не слухаліся знявечаныя вусны. Дзяўчына крыху ўздрыгвала, нібы ад холаду.

- Крумкач твой яшчэ жывы! – голас Надзеі быў хрыплы. – Бывай жа, вікінг.

Недзе недалёка гучна крыкнуў крумкач.

На досвітку, выявіўшы знікненне вязьня, Усямір з Раданежам, лаючы ўвесь свет, перапудзілі ўсё станавішча. Вышата зірнуў на Надзею і толькі галавою паківаў. Знік дан!

### Эпілог

Доўга яшчэ вялі гаворку людзі ў Ладазе, што прывёз Буявід з паходу дачку Рацібараву, якую ўсе даўным-даўно загінуўшай лічылі. А як паклікаў ў дзядзінец дзеўку Вольг – кнёз цяперашні, жадаючы паслухаць аповяд яе пра паход да саксаў, па князёўну, выхапіла яна нож, ды на варага кінулася. Паспеў Вольг рукою грудзі прыкрыць, руку яму і працяла. За Рацібора кнёзу помсціла. Засяклі рынды* княжыя гаротніцу, а цела, на загаду Вольгаву, у яр, звярам на разарванне, кінулі.

Калі мінула тры гады, з'явіўся ў град Ладагу датчанін малады. Высокі ды статны, валасы золатам на сонцы зіхацяць, але скроні ўжо сівізной ранняй выбелены. Твар худы з жаўцізной, суровы і мужны. Вочы сінія пільна глядзяць, пранізліва, а ў глыбіні іх – журба. Цяжкая. На плячах дана сіні корзень** накінуты. Ды так, што ўвесь правы бок яго прыкрывае. На срэбным поясе меч, але з правага боку ля сцягна вісіць з ім пабрацімаў пяцёра. У траіх галовы выгалены, толькі доўгія асяледцы*** вецер развявае. Шукаў когосьці дан і на трэці дзень з Вышатам Няжданавічам сышоўся. Доўга гаманілі воіны. А потым павёў гасцей славенін у вотчыну сваю. На досвітку, калі клубіўся сыры асенні туман, закутаныя ў плашчы, выйшлі яны з церама светлага і скіравалі да бярозавага гаю. Пад нагамі суха шамацелі апалыя лісты. Доўга ішлі моўчкі.

---

** **Рынды** –княскія целаахоўнікі.*

*** **Корзень (карзно)** – плашч, які ў славянаў насілі звычайна людзі высакародныя, князі.*

**** **Асяледзец** – пасма валасоў; першапачаткова лічыўся адзнакай высокага роду. Так стрыгліся скандынаўскія конунгі.*

Нарэшце, Вышата спыніўся ля невялікага ўзгорка, зарос-лага травою засохлай і ўсыпанага жоўтай лістотай.

- Ну вось, Хальудан, - уздыхнуўшы, мовіў ён. – Тут я яе ды сябры мае верныя і пахавалі насуперак загаду княжаму.

Датчанін моцна сціснуў яго за плячо. Вышата, крыху памаўчаўшы, сказаў:

- Меч, ёй табою дораны, Секачом клікала.

Вікінг аблізаў перасохлыя губы і ўсміхнуўся.

- Цяпер жа, баярын, клічуць мяне. Хальуданам Сухарукім. Усе косці пераламаў мне молат Хадгара Мядзведзя. Думаў, не вытрываю, але на Эрыне лячыла мяне адна вальхская чараўніца. Зброяй ледзьве не нанава валодаць навучаўся. Цяпер адной рукою не горай чым дзвюмя змагацца магу. Правая ўсохла. Цела цяпер яна не слухае. Больш за год на шкурах выляжаў, мабыць, Фрэя з хваробы выцягнула. Выжыў. Асколкі касцей скрозь мяса разам з гноем выходзілі.

Воін зірнуў на магільны пагорак.

- Кахаў я дзеву гэту, дужа кахаў. Мабыць, усё жыццё кахаць буду. Эх! Каб мая была! Але не пажадамі таго норны.

Вышата кіўнуў.

- Злая ёй выпала доля. Жыццё кароткае, а гора шмат.

- Багі часцей бываюць жорсткімі, чым добрымі – адказаў Хальудан. – Ты добры чалавек, баярын, - мовіў ён Вышаце. – Хачу з' табой пад дзёрнам прайсці*.

- Згодны, - адказаў славенін. – Ты мне таксама да душы прыйшоўся.

Воіны выразалі кавалак дзірвану і ўзнялі яго на дзіды. Вышата выцягнуў руку і надрэзаў яе ля далоні. І кроў яго пацякла струменьчыкам, змешваючыся з крывёй вікінга.

- А ці не чуў ты, пабрацім, - спытаў Вышата датчаніна, – што пра Ульфа Бярсерка людзі баюць?

Хальудан толькі галавою пакруціў.

- Славуты вікінг, - адказаў ён. – Такіх цяпер апрача яго, калі жывы яшчэ, няма. Калі знішчылі вы яго хірд, з'явіўся Ульф у Даніі. Казалі людзі, нібы звар'яцеў ён. За забойства тады Ульф быў у Даніі па-за законам аб'яўлены. Конунг пазбавіў яго вотчыны і выгнаў ярла з краіны. І стаў Ульф хёўдынгам вікінгаў – марскім каралём. І вось, зноў ён прыйшоў на Селунд. Шмат

* ***Прайсці пад дзёрнам*** *– абрад пабрацімства, прыняты ў скандынаваў.*


каго з людзей конунгавых у невараць выправіў. Сам, быццам смерці шукаў. Дружына ў яго падабралася, не горай за былую. У паход далёкі пайшоў Ульф і знік у моры. Даходзілі чуткі аб яго набегах дзёрзкіх, а потым перасталі. Кажуць, што ў далёкі Міклегард накіраваўся Мараход, а то і яшчэ далей – быццам у Серкланд*. Не было яму ў баі роўных. Скегі Доўгі Меч, правадыр мой даўні, так і не ўстаў з ложка. Яму клінок Ульфаў хрыбет скалечыў. Ногі ані не слухалі. Лечцы – вядзьмаркі хёўдынгу ніякімі сродкамі здароўе вярнуць не змаглі. Зразумеў Скегі, што чакае яго смерць на гэтым ложы абрыдлым. Загадаў ён несці дзіду. Для Одына ўзрэзаў сябе правадыр. Велічны курган над ім насыпалі

Доўга сядзелі пасля моўчкі воіны. Глядзелі пабрацімы на пагорак магільны, засыпаны лістотай, і мовіў Хальўдан:

- Што ж, баярын, пара. Сёння мне адыходзіць у Нарвегію. Час прыспеў. Харальд чакае мяне. Празвалі яго людзі Касматым, таму як не стрыжэ ён валасоў сваіх, пакуль усю Нарвегію не скорыць! І павер мне, пабрацім, што той час, калі ён абрэжа сваю касу, калісьці прыйдзе. Харальд стане вялікім каралём, які аб'яднае Нарвегію, аб'яднае яе ўпершыню. Дзіўна! Тры зімы назад, супроць яго я ваяваць думаў, а цяпер вось, адно стырно трымаем. Хальўдан кінуў апошні позірк на магілу Надзеі, уздыхнуў, і хутка ўжо постаці воінаў згубіліся сярод бяроз, якія шчодра сыпалі лісце. Круціліся лісты ў апошнім танцы. Ціха шамацелі ў нерухомым паветры і ціха клаліся на зямлю, пад markup рознакаляровым дыванам хаваючы непрыкметны пагорачак.

---

* ***Серкланд*** – *зямля сарацынаў.*



Па--сту-каў ці-ха вет-рык нам лап-кай у вак-
но. На све-жа-е па-вет-ра мы вы-бег-лі гур-
-бой. „Ра-ні-ца, ра-ні-ца!“ — Ціў-кнуў ве--ра--
-бей. Ра-ні-ца, ра-ні-ца, доб-ры дзень та-
-бе!

# Раніца

Пастукаў ціха ветрык
Нам лапкай у вакно,
На свежае паветра
Мы выбеглі гурбой.

***Прыпеў:***

“Раніца, раніца!” -
Ціўкнуў верабей.
Раніца, раніца,
Добры дзень табе!

Пушынкі - аблачынкі
Над горадам ляцяць,
А на траве расінкі
У промнях зіхацяць.

***Прыпеў.***

Разлёталіся кветкі,
Не кветкі - матылькі,
Разбегаліся дзеткі,
Не дзеткі - васількі.

***Прыпеў.***

# НАШЫ АЎТАРЫ

***Ірына Багдановіч.*** Багдановіч Ірына Эрнстаўна нарадзілася 30.04.1956 г. у Лідзе ў сям'і інжынераў. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага універсітэта (1978), аспірантуру пры інстытуце літаратуры Беларусі (1978-81). З 1983 г. працуе старэйшым навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута, адначасова з 1997 года выкладае на кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1985). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1989).

Вершы друкуе з 1973 года, літарарурна-крытычныя артыкулы з 1979 г.

Выдала зборнікі паэзіі "Чаравікі маленства" (1985), "Фрэскі" (1989), "Вялікдзень" (1993). Аўтар шматлікіх арыкулаў і рэцэнзій аб беларускай паэзіі 20-х гадоў і сучаснага перыяду. Выдала манаграфію "Янка Купала і рамантызм" (1989), кнігу "Авангард і традыцыя. Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння" (2001).

***Міхась Мельнік.*** Мельнік Міхаіл Іванавіч нарадзіўся ў Асіповіцкім раёне Магілёўскай вобласці 07.11.1949 г. скончыў філалагічны факультэт Гарадзенскага педінстытута (1972). Працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Астравецкай школе, завучам у Красноўскай і Голдаўскай СШ. З 1984 года выкладае беларускую мову і літаратуру ў Лідскім педагагічным каледжы.

Друкуецца з 1975 г. Сааўтар зборніка вершаў "Скрыжаванне" (1996).

***Ян Чачот*** (1796-1847гг.) нарадзіўся ў маёнтку Рэпіхава каля в. Крывошын Ляхавіцкага раёна. Вучыўся разам з Адамам Міцкевічам у Наваградскай дамініканскай гімназіі, затым - у Віленскім універсітэце. Адзін з заснавальнікаў таварыства Філаматаў. Займаўся зборам беларускага фальклору. Аўтар 6-ці тамоў "Вясковых песень з-над Нёмна і Дзвіны" (Вільня, 1844 -1846гг.), у якіх змясціў каля 40 арыгінальных твораў на беларускай мове. Аўтар 55 гістарычных баладаў "Спевы пра даўніх ліцьвінаў" на польскай мове.

***Ганна Камінская.*** Нарадзілася 5 лютага 1971 года ў вёсцы Клюкавічы Лідскага раёна. Закончыла Гарадзенскі дзяржаўны медінстытут у 1996 годзе. З 1997-га года працуе ў Установе аховы здароўя "Лідскае ТМА" хірургам па аказанні экстраннай дапамогі Лідскай ЦРБ і хірургам гарадской паліклінікі Паўднёвага гарадка ў Лідзе. Друкуецца ў перыядычным друку.



***Алесь Нічыпар*** нарадзіўся ў 1978 годзе ў Лідзе. Працаваў фельчарам на службе "Хуткая дапамога". Зараз працуе на мытні. Друкуецца ў перыядычным друку.

***Дзінара Мазітава*** нарадзілася 24 сакавіка 1984 года ў Лідзе. Скончыла музычны каледж пры Беларускай акадэміі музыкі, была стыпендыяткай прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Зараз студэнтка кансерваторыі ў Санкт-Пецярбургу. Аўтар больш сотні песень, п'ес для фартэпіяна, опер, балетаў. Лаўрэат шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, пераможца некалькіх тэлефестываляў.

***Уладзімір Васько*** нарадзіўся ў в. Ліпчанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гарадзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Працаваў дырэктарам сярэдняй школы на Дзятлаўшчыне, у рэдакцыі дзятлаўскай раённай газеты "Перамога", намеснікам рэдактара "Лідскай газеты". Аўтар кніг "Прасветленасць" і "На небасхілах берагоў".

# ЗМЕСТ




Паэтэса Святлана Цішук, спявачкі Насця і Алёна Каралёвы, Кацярына Мусіхіна (першы рад), кампазітар Вячаслаў Пыпець (першы злева ў 2-м радзе) - лаўрэаты міжнароднага конкурса дзіцячай эстраднай песні ў Санкт-Пецярбургу “Дзень нараджэння”.



**Рычард Груша. “Дабраславенне зямлі”. Дрэва, тапаля.**
*Лідскі Гістарычна-мастацкі музей.*